3-4

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

**У НУМАРЫ:** Перадавая. На шляхох соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. **А. Гаруновіч.** У барацьбе за прамфінплян **Ц. Ракопчык.** Аб ленінскім коопэрацыйным пляне і яго прымяненьні ва ўмовах БССР. **А. Курцік.** За бальшавіцкую якасьць нашага друку. **Р. Кугель.** Чарговыя задачы ў выкладаньні і вывучэньні гісторыі партыі, ленінізму, гісторыі Комінтэрну. **П. Мядзьвецкі.** Аб колектывізацыі сельскае гаспадаркі па творах Леніна. **Б. Салдаценка.** Організацыя батрацка-бядняцкіх груп у колгасах і праяўленьне кулацкага супраціўленьня.

**Матар'ялы і дакуманты.**

МЕНСК
1930

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!




# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 3—4
САКАВІК—КРАСАВІК

МЕНСК — 1930

# ЗЬМЕСТ

Стар.

1. Перадавая. На шляхох социялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі . . . 3
2. А. Гаруновіч. У барацьбе за прамфінплян . . . 8
3. Ц. Пракопчык. Аб ленінскім коопэрацыйным пляне і яго прымяненьні ва ўмовах БССР . . . 19
4. А. Курцік. За бальшавіцкую якасьць нашага друку . . . 25
5. Р. Кугель. Чарговыя задачы ў выкладаньні і вывучэньні гісторыі партыі, ленінізму, гісторыі Комінтэрну . . . 52
6. П. Мядзьвецкі. Аб колектывізацыі сельскае гаспадаркі па творах Леніна . 62
7. Б. Салдаценка. Організацыя батрацка-бядняцкіх груп у колгасах і праяўленьне кулацкага супраціўленьня . . . 78

**Матар'ялы і дакуманты**

Рэзалюцыя Бюро ЦК КП(б)Б ад 17-IV 1930 г. . . . 90
Рэзалюцыя ЦК КПП аб працы КПЗБ . . . 93

---

Заказ № 2010. 1.100 экз. Галоўлітбел № 2210.

Друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

# На шляхох социялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі

За пэрыод ад XII да XIII зьезду КП(б)Б мае буйныя дасягненьні на рашаючых вучастках соцыялістычнага будаўніцтва.

БССР мае найбольш шпаркія тэмпы прамысловага росту ў параўнаньні з астатнімі рэспублікамі Савецкага Саюзу. За 1928—29 г.г. агуловая продукцыя цэнзавае прамысловасьці БССР узрасла на 41 %, тымчасам як у РСФСР—на 24 проц., у УССР—на 16 проц., у Закаўкаскай Фэдэрацыі—на 25 проц., Узбекскай ССР—на 36 проц., Туркменскай—на 39 проц. Сярэдні процант па СССР—23 проц.—перавышаны Беларусіяй амаль у два разы.

Цікава адзначыць, што найбольш разьвітыя перадавыя капіталістычныя краіны ў лепшыя гады свайго прамысловага ўздыму не давалі прыросту продукцыі больш чым на 8 проц.

Гэтыя шпаркія тэмпы ня толькі не прыцішаюцца ў працягу 1929-30 гг., але яшчэ павялічваюцца. Калі за 1928-29 г.г. прамысловасьць, падпарадкаваная ВСНГ, дала продукцыі на 173.000.000 рублёў, дык у першым паўгодзьдзі бягучага году вартасьць продукцыі выражаецца ў суме 129.000.000 рублёў, што ў параўнаньні з першым паўгодзьдзем мінулага году складае прырост на 72,1 проц.

Адпаведна шпаркаму росту прамысловасьці мацнее і павялічваецца пролетарская база БССР. На 1-X—1928 г. мы мелі 34.000 рабочых, праз год гэты лік узрос да 43.000; на 1-IV—30 г. мы маем 52.000 рабочых.

Побач з найбуйнымі дасягненьнямі нашага прамысловага будаўніцтва мы маем шэраг істотных недахопаў у выкананьні прамфінпляну, з якіх найбольш буйным зьяўляецца невыкананьне якасных паказчыкаў. Наша прамысловасьць ня выканала заданьня па сабекошту і якасьць продукцыі не пакідае аставацца нізкай. У мінулым годзе мы вызначылі ў пляне зьніжэньне сабекошту на 7,5 проц. Гэтае заданьне было выканана толькі на $4^1/_2$ проц. У бягучым годзе замест 11 проц., вызначаных плянам, мы зьнізілі сабекошт толькі на 7 проц. у працягу першага паўгодзьдзя.

Партыя магла дасягнуць такіх буйных посьпехаў у разьвіцьці прамысловасьці БССР, дзякуючы вытворчаму ўздыму ў шэрагах рабочае клясы, які выразіўся ў соцыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве. Па 160 прадпрыемствах БССР, якія налічваюць 48.000 рабочых, 75 проц. ахоплена соцыялістычным спаборніцтвам; у ўдарных брыгадах 46 проц. рабочых.

У галіне сельскае гаспадаркі мы маем больш марудны рост вытворчых сіл. За апошні год прырост агуловае продукцыі сельскае гаспадаркі склаў толькі 7,6 проц. Шпаркае разьвіцьцё вытворчых сіл у галіне сельскае гаспадаркі, якая да апошняга часу ўяўляла з сябе

сыстэму дробных і найдробных аднаасабовых гаспадарак, магчыма толькі на грунце буйных гаспадарак соцыялістычнага тыпу, на грунце разьвіцьця колгасаў, уздыму і пашырэньня савгасаў. Партыя ўступіла на шлях соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, на шлях аб'яднаньня дробных і найдробных сялянскіх гаспадарак—у гаспадаркі колектыўныя.

Колектывізацыя ў БССР праходзіла такім чынам: увосень мінулага году мы мелі каля 4 проц. колектывізанае пасеўнае плошчы; у студзені-лютым бягучага году калгаснае будаўніцтва дасягнула „головокружительных" вынікаў і зводкі паказвалі больш за 60 проц. колектызаванае плошчы. Да моманту сканчэньня вясновае кампаніі (канец мая—пачатак чэрвеня) каля 14 проц. пасеўнае плошчы ахоплена калгасьнікамі, якія аб'яднаюць 11 проц. сялянскіх двароў. Калі параўнаць лічбы, якія характарызуюць пасеўную плошчу за кастрычнік месяц мінулага году і ў сучасны момант—мы павінны прызнаць, што партыя зрабіла буйны крок уперад у справе соцыялістычнае перабудовы вёскі. Больш за $^1/_6$ пасеўнае плошчы БССР ахоплена буйнымі гаспадаркамі соцыялістычнага тыпу.

Ацэньваючы падсумаваньні калгаснага будаўніцтва за гэты пэрыод, нельга не аналізаваць прычын, якія спрыялі, адліву з колгасаў пасьля запамарачнага ўздыму ў студзені-лютым месяцы. Гэтыя прычыны трэба шукаць у тых памылках і перагібах, у тым пакрыўленьні лініі партыі, якія былі дапушчаны пры правядзеньні колектывізацыі. Перш за ўсё гэтыя памылкі заключаюцца ў парушэньні ленінскага прынцыпу дабраахвотнасьці ў колгасным будаўніцтве, у націску ў адносінах да селяніна. Мэтод пераканаваньня асноўных мас сялянства ў перавагах колектыўнага гаспадараньня, заменьваўся грубым, а часам і злачынным адміністраваньнем. Справа даходзіла да пазбаўленьня зямлі селяніна, які не жадаў дабраахвотна ўступаць у колгас, да арыштаў беднякоў і сераднякоў. Былі выпадкі, калі, зарваўшыся, гора-колектывізатары раскулачвалі серадняка.

Другая памылка была зроблена ў вызначэньні тэмпаў колектывізацыі. Мясцовыя партыйныя організацыі ЦК КП(б)Б ня ўлічылі, што ў Беларусі колектывізацыя будзе разьвівацца больш марудным тэмпам, чым у Ніжнім Паваложжы, на Паўночным Каўказе, або ў стэпавай паласе Украіны і, захапіўшыся посьпехамі, сталі на шлях штучнага форсіраваньня колгаснага будаўніцтва, парушаючы простую дырэктыву ЦК УсеКП(б) аб заканчэньні колектывізацыі БССР да канца наступнага году пяцігодкі.

Трэцяга парадку памылкі былі ў неабдуманым і дачасным пераходзе ад арцелі да комуны. Гэтыя памылкі прывялі да імкненьня абагуліць „ўсё і ўся", аж да хатняга птаства, прычым такое абагуленьне ня было з гаспадарчага боку падрыхтавана і абгрунтавана.

Усе гэтыя памылкі небясьпечныя таму, што „вядуць нас простымі зносінамі да разьвенчаньня колгаснага руху, да разладу з серадняком, да дэзорганізацыі беднаты, да замяшаньня нашых шэрагаў, да паслабленьня ўсяго нашага сацыялістычнага будаўніцтва, да вастанаўленьня кулацтва. Кажучы коратка, гэтыя памылкі маюць тэндэнцыю штурхнуць нас з шляху ўсталеньня саюзу з асноўнымі масамі сялянства, з шляху ўсталеньня пролетарскае дыктатуры на шлях разрыву з гэтымі масамі, на шлях падрыву пролетарскае дыктатуры" (І. Сталін „Ответ товарищам колхозникам").

Корань памылак і перагібаў трэба шукаць у няправільным, небальшавіцкім падыходзе да серадняка. Нясумненна, што ўзьдзейнічаньне

дробна-буржуазнага абкружэньня на некаторыя зьвеньні нашае партыі, асабліва ў вясковых арганізацыях, выразіліся менавіта ў „галавакружэньні“ ад посьпехаў.

Партыя палітычна ацаніла памылкі і скажэньні генэральнае лініі ў колгасным будаўніцтве, як „левыя“ загібы. І вось запытацца,—калі гэтыя левыя загібы знайшлі такое шырокае распаўсюджаньне, калі яны вядуць да разладу з серадняком, ці не вынікае з гэтага, што устаноўка партыі аб правай небясьпецы, як галоўнай небясьпецы, на даным этапе адпадае? Ці не вынікае з шырокага распаўсюджаньня „левых“ загібаў, што правая небясьпека павінна быццам-бы адыйсьці на задні плян.

Такое вырашэньне пытаньня аб правай небясьпецы найбуйная палітычная памылка. „Левыя“ загібы ня толькі ня здымаюць з парадку дня задачы няпрыміронае барацьбы з правым ухілам, як з галоўнай небясьпекай на даным этапе, але наадварот, прымушаюць партыю з асаблівай сілаю падкрэсьліваць небясьпеку права-опортуністычных выступленьняў, таму, што „левыя“ загібы харчуюць правы ўхіл. „Левыя“ загібы, спрыяючы адліву серадняка з колгасаў, ставячы пад пагрозу саюз партыі і рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, лілі ваду на млын правых опортуністых, якія бясплодна стараліся давесьці бязгрунтоўнасьць політыкі наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, політыкі пераходу сельскае гаспадаркі на новыя соцыялістычныя рэйкі.

Аднак, правы ўхіл выступае цяпер у новых формах, унікаючы старых, дыскрэдытаваных і абанкручаных у вачох партыі рабочае клясы форм, протэсту супроць тэмпаў індустрыялізацыі нашае краіны, супроць наступленьня на кулацтва і г. д. Якія-ж новыя формы правага ўхілу ў нашай партыі? Перш за ўсё—гэта тлумачэньне політыкі партыі, накіраванае на барацьбу з перагібамі, на выпраўленьне допушчаных скрыўленьняў і памылак як адступленьне. Такое разуменьне тыпова для правага опортунізму. Другая форма—зьбянтэжанасьць, імкненьне прадставіць разьвіцьцё колгасу „самацёку“, нежаданьне кіраваць колгасным будаўніцтвам, яго ўзмацняць і пашыраць. Правы опортунізм выражаецца таксама і ў партыйных разважаньнях аб тым, што адліў з колгасаў выкліканы артыкулам Сталіна, а ня тымі перагібамі, якія былі допушчаны пры правядзеньні колектывізацыі. Па сутнасьці, гэтыя разважаньні—замаскаваны варыянт тэорыі „адступленьня“. Але найбольш распаўсюджанай формай права-опортуністычных выступленьняў трэба прызнаць спробы дыскрэдытаваць партыйнае кіраўніцтва. Тав. Сталін піша з прычыны гэтага наступнае: „Дыскрэдытацыя партыйнага кіраўніцтва ёсьць тая самая элемэнтарная глеба, на базе якое толькі і можа разыграцца барацьба правых ухіленцаў супроць партыі“ (з „Ответа товарищам колхозникам“).

Правыя ўхіленцы, правыя опортуністыя выкарыстаюць, бязумоўна, памылкі і перагібы ў калгасным руху для таго, каб дыскрэдытаваць партыйнае кіраўніцтва.

„Левыя“ загібы таксама прымаюць цяпер новыя формы. Цяпер ніхто ня будзе арыштоўваць серадняка. У сучасны момант „левыя“ загібы праяўляюцца ў першую чаргу ў адкрытым ці схаваным супраціўленьні выпраўленьню памылак і перагібаў. Усім яшчэ памятлівы выпадкі адкрытага супраціўленьня—справы Шклоўскага і інш. райкомаў.

Наша партыйная організацыя досыць хутка і своячасова перастроілася на выпраўленьне памылак і выкрыўленьня лініі партыі. Але вы-

падкі схаванага супраціўленьня яшчэ ёсьць. Часам яно прымае форму параднага прызнаньня памылак. „Пакаянная“ рэзолюцыя на вока, памылкі прызнаны, а работа сур'ёзным чынам не перабудавана і памылкі на мясцох у адносінах да сялянства ня выпраўлены.

Замазваньне памылак знаходзіць сваё выражэньне ў вядомай тэорыі „прыліву“ і „адліву“, пабудаванай на разважаньнях аб прыродзе серадняка, якому ўласьціва хістаньне.

Неабходна падкрэсьліць, што ў тых раёнах і акругах, дзе партыйная організацыя шпарка і рашуча мобілізавалася на выпраўленьне памылак і перагібаў, мы маем новы прыліў у калгасы, чаму таксама не ў малой ступені спрыяе пасьпяховае правядзеньне вясновае сяўбы.

Даныя перапісу колгасаў, які быў праведзены ў пачатку мая, паказваюць, што ў БССР ёсьць больш за 3.000 колгасаў. Гэтыя колгасы ахопліваюць 11,1 проц. сялянскіх двароў і 14,1 проц. пасеўнае плошчы. Соцыяльны склад колгасаў прадстаўляе наступны малюнак: 42,3% серадпякоў, 41,8 проц. беднякоў і 6,5 проц. батракоў. У сярэднім на адзін колгас прыпадае каля 206 гектараў ворнае зямлі. Нясумненна, што выразная работа нашых організацый, накіраваная на разьвіцьцё і гаспадарчае ўзмацненьне колгасаў, будзе спрыяць далейшаму прыліву заяў аб жаданьні ўступіць у колгас. Даныя аб ходзе пасяўное кампаніі, якія сьведчаць, што колгасы ідуць уперадзе індывідуальнага сэктару, праводзячы вясновую сяўбу ў адпаведнасьці з плянамі, і ў тэрміны прадугледжаныя імі з усёй перакаsuccessfulьнасьцю, даводзяць трываласьць нашага колгаснага ядра. Колгасы бязумоўна могуць і будуць служыць апорай партыі і савецкае ўлады на вёсцы. У індывідуальным сэктары БССР, які ахапляе амаль 90 проц. сялянскіх двароў, партыя будзе праводзіць політыку апоры на беднату і батрацтва і цеснага саюзу з серадняком. У колгасах-жа становішча адзінаасабовага селяніна зьменьваецца ў процэсе вытворчасьці. Дробны ўласьнік становіцца ўдзельнікам і работнікам соцыялістычнае, па тыпу, гаспадаркі, таму, што колгас пры дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца прадпрыемствам соцыялістычнага тыпу. Такім чынам колгасьнікі—бядняк і серадняк зьяўляюцца апорай партыі і савецкае ўлады. У зернявых раёнах, дзе колгаснае будаўніцтва разгорнута шырэй, гэтае новае зьявішча прадстаўляе, бязумоўна, больш буйны фактар, чым у БССР. Аднак, і ў нас яно дае пра сябе ведаць у паўсядзённай вясковай рабоце. Праўда, у колгасах, асабліва ў пачатку іх разьвіцьця могуць і будуць трымацца элемэнты клясавае барацьбы, але яны будуць выжывацца ў умовах узмацненьня колгасаў.

Лёзунг ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнае колектывізацыі застаецца асноўным лёзунгам партыі. У самой формуле ліквідацыі кулацтва, як клясы, маецца дапаўненьне—„на базе суцэльнае колектывізацыі“, таму, што калі праводзіць голае раскулачваньне,—кулак вырасьце зноў. Трэба замяніць кулацкую вытворчасьць колектыўнай вытворчасьцю, стварыць такія ўмовы, пры якіх новы рост кулацтва немагчымы. Толькі тады можна лічыць, што політыка ліквідацыі кулацтва як клясы, будзе ажыцьцёўлена. У тых раёнах, дзе мы ня маем суцэльнае колектывізацыі, застаўляе сваё дзейнічаньне дапаможны лёзунг—лёзунг абмежаваньня і выцясьненьня кулака, яго ізоляцыі. Ізоляваць кулака, гэта значыць пазбавіць кулака яго саюзьнікаў, яго абкружэньня, пакінуць яго аднаго і тым самым палегчыць канчатковую перамогу над ім.

Політычная формуліроўка аб ізоляцыі кулацтва і формуліроўка аб абмежаваньні і выцясьненьні кулака, не адрозьніваецца адна ад аднае. БССР не зьяўляецца ў сучасны момант раёнам суцэльнае колектыві-

зацыі, затым, тут застаўляе сваё дзейнічаньне дапаможны лёзунг—лёзунг абмежаваньня і выцясьненьня пад кутом гледжаньня пераходу да політыкі ліквідацыі кулацтва па меры пасьпяховага правядзеньня колектывізацыі.

Пасьлядоўна і выразна праводзячы генэральную лінію, змагаючыся на два фронты—з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і „левымі“ загібамі—мобілізуючы шырокія масы рабочае клясы на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, узорна разьвіваючы і з гаспадарчага боку ўзмацняючы колгасы і савгасы,—партыя пойдзе па шляху далейшых перамог на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва.

---

А. Гаруновіч

# У барацьбе за прамфінплян

*(Аб становішчы мэталёпрамысловасьці БССР)*

## Некалькі даведак

Перад тым, як перайсьці да характарыстыкі сучаснага становішча буйное мэталёпрамысловасьці БССР, трэба даць некалькі даведак аб тым, пра якія прадпрыемствы і гаспадарчыя аб'яднаньні будзе ісьці гутарка.

Камісіяй ЦК і ЦКК КП(б)Б абсьледвана становішча мэталёпрамысловасьці ў межах былога Белмэталётрэсту, які ў сувязі з рэорганізацыяй кіраўніцтва прамысловасьцю,ператварыўся цяпер у мэталёаб'яднаньне ВСНГБ. Белмэталётрэст організаваўся ў пачатак 1927-28 г. ў складзе сямі прадпрыемстваў. Якія гэта прадпрыемствы? Заводы № 1 і 3 у Віцебску, № 2 у Воршы (былы Мэтпром), „Энергія“ ў Менску, „Пролетары“ і „Рухавік Рэволюцыі“ ў Гомелі і „Інтэрнаціянал“ у Рэчыцы.

За мінулы час Белмэталётрэст (цяпер Белмэталёаб'яднаньне) ішоў па шляху шпаркага разьвіцьця, як дзякуючы ўключэньню ў свой склад шэрагу раней самастойных прадпрыемстваў, што ўваходзілі ў склад мясцовае прамысловасьці (завод „Комунар“ у Менску і завод „Чырвоны Адраджэнец“ у Магілёве), гэтак і за кошт значнага пашырэньня і рэконструкцыі некаторых старых прадпрыемстваў (завод „Энергія“ і „Чырвоны Мэталісты“), а таксама за кошт пабудовы новых прадпрыемстваў (Гомсельмаш).

Разьвіцьцё Белмэталётрэсту магчыма ахарактэрызаваць наступнымі асноўнымі паказальнікамі:

Выпуск продукцыі ў 1927-28 г. складаў па трэсту (па адпускных цэнах 1926-27 г.) 10.129 тыс. руб., а ў 1929-30 г. па гэтых-жа прадпрыемствах вызначана па пляну 22.934 тыс. р., у тым ліку па Гомсельмашу, які распачынае выпуск продукцыі толькі ў канцы гэтага году— 1.719 тыс. руб.

Рост выпуску продукцыі складае павялічэньне на 136 проц.

Лік рабочых павялічыўся з 2.875 чалавек да 4.412, павялічэньне на 54 проц.

Па характару выпускаемай продукцыі прадпрыемствы Белмэталётрэсту можна падзяліць на тры групы: 1) сель.-гас. машынабудаўніцтва, 2) мэталёвыя вырабы, 3) машынабудаўніцтва.

У бягучым гаспадарчым годзе, у сувязі з рэорганізацыяй трэсту ў Мэталёаб'яднаньне, у яго ўключаны, акрамя прадпрыемстваў трэсту, яшчэ акулярная і ігольная фабрыкі ў Віцебску, завод імя Ланцуцкага ў Гомелі і афармляецца ўключэньне Менскіх чыгуначных майстэрань.

Выпуск продукцыі на 1929-30 год па ўсяму аб'яднаньню (бяз Менскіх чыгуначных майстэрань) вызначаны па пляну ў суме 29.779 т. р. Па асобных групах вытворчасьці гэтая сума распадаецца такім парад-

кам: па сельска-гаспадарчых машынах—8.871 тыс. р. (29,8 проц. у адносінах да прадукцыі ўсяго аб'яднаньня), па агульнаму машынабудаўніцтву 13.830 тыс. руб. (ці 46,5 проц. усяе продукцыі аб'яднаньня) і па мэталёвых вырабах 7.078 тыс. руб. (ці 23,7 проц. да продукцыі аб'яднаньня).

*Цяпер мэталёпрамысловасьць ва ўмовах БССР ператвараецца ў буйнае гаспадарчае аб'яднаньне, куды ўваходзіць шэраг моцных мэталёвых заводаў.*

## Узрост мэталёпрамысловасьці—зьніштажаючы ўдар па тэорыі нацыянал-дэмократаў і нацыянал-фашыстых

Толькі на аснове генэральнае лініі партыі мы наглядаем буйны рост мэталёпрамысловасьці, якая за кароткі адрэзак часу ператварылася ў моцную гаспадарчую адзінку ў нашых умовах. Мова фактаў і лічбаў— лепшы аргумант на карысьць таго, што працоўныя масы БССР, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі фактычна пабудавалі мэталёпрамысловасьць на працягу апошніх некалькіх год мірнага супачынку.

Што станавіла сабою мэталёпрамысловасьць да Кастрычнікавае рэволюцыі на тэрыторыі сучаснай Беларусі?

Было некалькі дробных заводзікаў прыватных уласьнікаў, якія займаліся пераважна рамонтнымі работамі і абслугоўвалі выключна патрэбы мясцовае прамысловасьці. Заводзікі гэтыя, дзякуючы сваёй драбнаце, стаялі на вельмі нізкім узроўні тэхнолёгічнае магутнасьці; саматужная організацыя працы, дрэннае абсталяваньне і г. д. Агуловая прадукцыя гэтых заводзікаў не перавышала 3 мл. 500 тыс. руб. у год па сапаставімых цэнах.

На 1930 год агуловая продукцыя мэталёпрамысловасьці перавышае 29 мільёнаў рублёў. па прадпрыемствах, якія ўваходзяць у склад мэталёаб'яднаньня. Такім чынам, у параўнаньні з дарэволюцыйнымі часамі мы маем вялізарныя дасягненьні ў галіне росту і разьвіцьця мэталёпрамысловасьці Беларусі. Па строга параўнальных лічбах наша сучасная мэталёпрамысловасьць, у параўнаньні з даваеннай, вырасла, прыблізна, у 6 разоў.

Возьмем асноўныя капіталы. У 1927-28 г. асноўныя капіталы па мэталётрэсту складалі 3,5 млн. рублёў, на 1929-30 г. асноўныя капіталы ўзрастаюць да 14 млн. рублёў (у круглых лічбах). Пры чым, старыя заводы рэконструяваны і пашыраны ў некалькі разоў. З гэтага пункту гледжаньня наўрад ці можна гаварыць аб рэконструкцыі старых заводаў. Конкрэтны прыклад: завод „Энергія“, па ўдаламу азначэньню работнікаў мэталёпрамысловасьці. раней станавіў такі малюнак: стаяла брама, каля брамы маленькі будыначак, у якім працавала, прыблізна, сто рабочых. Цяпер завод „Энергія“ разросься ў досыць буйное прадпрыемства (разоў у дзесяць болей старога) і налічвае звыш 1200 чал. рабочых. Фактычна пабудаваны новы завод. Кажучы аб рэконструкцыі гэтага заводу, думаюць больш усяго аб тым, што пабудаваны новы завод.

У некалькі разоў у параўнаньні з даваенным часам вырасла колькасьць рабочых занятых у мэталёпрамысловасьці. У даны момант на прадпрыемствах, якія ўваходзяць у мэталёаб'яднаньне налічваецца звыш 4000 рабочых. Гэта зьяўляецца значным узмацненьнем пролетарскае базы БССР.

Трэба адзначыць яшчэ некалькі дасягненьняў мэталёпрамысловасьці. У 1928-29 г. мэталёпрамысловасьць упяршыню скончыла свой гаспадарчы год з прыбыткам, пры чым, на 1929-30 год запроэктавана

атрымаць прыбытку каля 2-х мільёнаў рублёў. У хуткім часе будзе скончаны пабудовай новы буйны Гомельскі завод сельска-гаспадарчых машын і прылад, на якім мяркуецца, пры поўным разгортваньні выпушчаць продукцыі на суму звыш 30 мільёнаў рублёў у год. Гэты завод абсталёўваецца па апошняму слову тэхнікі. У разгорнутым выглядзе на заводзе будзе працаваць да 3-х тысяч рабочых. Проэктуецца і ў бліжэйшыя два-тры годы будзе пабудаваны новы буйнейшы машына-будаўнічы завод, на які мяркуецца паставіць 7 тысяч рабочых.

Зьвернемся да тэмпаў росту мэталёпрамысловасьці БССР.

Некалькі лічбаў сьведчаць аб буйных посьпехах мэталёпрамысловасьці, якіх яна дасягла за апошнія два гады. У 1913 годзе мэталёапрацоўчая прамысловасьць давала 5,3 проц. продукцыі ў параўнаньні да продукцыі рэшты відаў прамысловасьці. Па ўдзельнай вазе мэталёпрамысловасьць у 1913 годзе стаяла на 7 месцы. У першых радох была харчовая прамысловасьць (40,8 проц. продукцыі ўсяе прамысловасьці), папяровая (14 проц), дрэваапрацоўчая (13 проц.), хэмічная (8,7 проц.), тэкстыльная (7,1 проц.) і мэталёвая (5,3 проц.).

У 1926-27 г. мэталёпрамысловасьць ужо займае пятае месца ва ўсёй прамысловасьці БССР і выпушчае 6 проц. агуловае продукцыі (у гэты год дрэваапрацоўчая прамысловасьць выпушчае 23,9 проц. агуловае продукцыі, харчовая 23,1 проц., папяровая 10,7 проц., скур-абутковая 7,7 проц., мэталёпрамысловасьць 6 проц.).

Аб тым, якое месца займае мэталёпрамысловасьць у народнай гаспадарцы БССР у гэтым годзе і якое яна будзе займаць па папярэдняму варыянту пяцігодкі, паказваюць наступныя лічбы (даныя мэталёаб'яднаньня):

| | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1929-30 г. | 1930-31 г. | 1931-32 г. | 1932-33 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Агуловая продукцыя ўсяе прамысловасьці БССР у млн. руб. па адпускных цэнах . | 115 | 165,9 | 303,5 | 545,0 | 840,6 | 1348,8 |
| Таксама мэталёпрамысловасьць БССР. . . | 11,0 | 15,0 | 30,0 | 78,0 | 108,0 | 165,0 |
| Удзельная вага мэталёпрамысловасьці БССР. | 9,5 | 9,0 | 9,9 | 14,3 | 12,9 | 12,2 |
| Колькасьць рабочых прамысл. БССР у тысячах чалавек . . . . . . . . . | 26,6 | 31,7 | 43,6 | 61,4 | 89,1 | 135,2 |
| Таксама па мэталёпрамысл. БССР . . . | 3,2 | 3,5 | 5,9 | 12,0 | 15,5 | 23,5 |
| Удзельная вага мэт. пром. БССР. . . . | 12,0 | 11,0 | 13,5 | 19,5 | 17,4 | 17,4 |

Трэба мець на ўвазе, што мэталёпрамысловасьць зьяўляецца найбольш „працаёмкай“ галіной прамысловасьці, і таму больш паказальна яе месца па колькасьці рабочых. Мяркуецца, што ў 1932-33 годзе, каля $1/5$ часьці ўсіх рабочых прамысловасьці БССР будзе занята ў мэталёпрамысловасьці.

Такім чынам мэталёпрамысловасьць будзе расьці шпарчэй, чым уся прамысловасьць БССР. У параўнаньні з 1927-28 годам да канца пяцігодкі мэталёпрамысловасьць па агуловай продукцыі ўзрасьце ў 15 разоў (тым часам, як уся прамысловасьць у 12 разоў), а па колькасьці рабочых мэталёпрамысловасьць у 7,4 разоў (а ўся прамысловасьць у 5,2 разоў). Займаючы ў 1928-29 годзе 5-е месца па продукцыі і 4-е па колькасьці рабочых да канца пяцігодзьдзя мэталёпрамысловасьць займае 4-е месца па продукцыі і 2-е месца па колькасьці рабочых (пасьля Лесбелу разам з запалкавай прамысловасьцю).

Ніжэйпаказаныя лічбы сьведчаць аб тым, што мэталёпрамысловасьць БССР, па намётцы пяцігодкі, расьце больш шпаркімі тэмпамі, чым

мэталёпрамысловасьць усяго Саюзу (мы тут бярэм проста матэматычныя паказчыкі, без аналізу структуры вытворчасьці мэталёпрамысловасьці СССР і БССР). За апошнія тры гады суадносіны росту былі ніжэйпаказаныя (мэталёпрамысловасьць БССР бярэцца ў межах прадпрыемстваў былога Бэлмэталётрэсту ня ўключаючы Менскіх чыгуначных майстэрань:

| | 1927-28 год | | 1928-29 год г. | | 1929-30 год | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У млн. руб. | У %% да мін. году. | У млн. руб. | У %% да мін. году. | У млн. руб. | У %% да мінул. году. |
| Мэталёпрамысловасьць СССР | 987, | — | 1283 | 130 | 1588 | 124 |
| „ БССР | 10,1 | 132 | 13,8 | 136 | 25,0 | 181 |
| Удзельная вага БССР . . | — | 1,04 | — | 1,07 | — | 1,58 |

На працягу пяцігодкі ўдзельная вага мэталёпрамысловасьці БССР будзе зьмяняцца наступным чынам (продукцыя мэталёпрамысловасьці БССР бярэцца ў памерах Белмэталёаб'яднаньня, *уключаючы Менскія чыгуначныя майстэрні,* а мэталёпрамысловасьць СССР згодна даных апошняга дакладу тав. Куйбышава), даныя ў мільёнах рублёў.

| | 1928—29 | 1929—30 | 1930—31 | 1931—32 | 1932—33 | Рост % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мэталёпрамыслов СССР . | 1283 | 1588 | 1935 | 2461 | 3285 | 334 |
| „ БССР . | 15 | 30 | 78 | 108 | 165 | 1100 |
| Удзельная вага . . | 1,17% | 1,89% | 4,0% | 4,4% | 5,0% | — |

Няма патрэбы даводзіць аб тым, якое *буйное экономічнае і політычнае значэньне мае такі шпаркі рост мэталёпрамысловасьці БССР, у сэнсе замацаваньня саюзу рабочае клясы з працоўным сялянствам, у сэнсе ўзмацненьня дыктатуры пролетарыяту і падвышэньня кіруючае ролі рабочае клясы ва ўмовах БССР, дзе пролетарская праслойка невялікая пакуль-што і ў сэнсе росту аўторытэту БССР сярод працоўных мас Заходняе Беларусі.*

Нарэшце, трэба падкрэсьліць вялікія зьмены, якія адбыліся ў структуры вытворчасьці мэталёвае прамысловасьці БССР. *Дзякуючы рэконструкцыі і пераабсталяваньню заводаў, мэталёпрамысловасьць перайшла да машына-і станкабудаўніцтва, да вытворчасьці шэрагу досыць складаных машын і станкоў, якія раней прывозіліся з-за мяжы* (напрыклад, сьверлявальныя станкі, гравіёсартыроўкі, абсталяваньне крухмальных заводаў, каменёдрабілкі, абутковыя машыны, шэрстамойкі, насосы для крухмальных заводаў, кохеры, растворамяшалкі, сіласарэзкі, цэнтравальныя станкі, хэмічнае абсталяваньне, ліцейныя машыны, машынны тэкс і інш.). Машынны тэкс зьяўляецца ў той-жа час экспортным таварам, які амаль не адрозьніваецца, па сваёй якасьці, ад лепшых сартоў замежнай продукцыі. У агуловай продукцыі мэталёаб'яднаньня вытворчасьць вырабаў, якія раней прывозіліся з-за мяжы ў 1928-29 годзе, ацэньваліся ў 621 тысячу рублёў, а ў 1929-30 годзе дае рэзкае павялічэньне да 5 млн 200 тыс. рублёў.

Гэтыя посьпехі ў галіне росту і разьвіцьця мэталёпрамысловасьці— важнейшага зьвяна індустрыялізацыі БССР сталіся магчымымі менавіта пры дыктатуры пролетарыяту і пры дапамозе саюзнага ўраду.

*Посьпехі будаўніцтва мэталёпрамысловасьці зьнішчаюць дашчэнту сьцьверджаньні нацыянал-дэмакратаў у нас і нацыянал-фашыстых у Заходняй Беларусі аб тым, што БССР нібыта ператвараецца ў коленію ў аграрны прыдатак СССР.* Менавіта дзякуючы дапамозе ўсесаюзнага пролетарыяту, стаў магчымым і забясьпечваецца ў будучым рост індустрыяльнае базы—мэталёпрамысловасьці БССР. Нацыянал-дэмократам і нацыянал-фашыстым нашы посьпехі ў галіне індустрыялізацыі БССР літаральна не даюць спаць. Рост соцыялізму ў БССР азначае паступовае зьнішчэньне базы, якая харчуе нацыянал-дэмократаў.

Ня так даўно „Крыніца" (орган нацыянал-фашыстых у Заходняй Беларусі) так занепакоілася пра лёс Савецкай Беларусі, што на сваіх старонках выказала „орыгінальную" думку аб тым, што „Беларусь як і пры царох, засталася краем забраным", г. зн. краем акупаваным „маскоўскімі бальшавікамі". Да чаго ўбрахалася „Крыніца" відаць усім пролетарам і працоўнаму сялянству, якія пад кіраўніцтвам КП(б)Б шпаркімі тэмпамі будуюць соцыялістычнае грамадзтва.

Якое значэньне маюць посьпехі ў галіне будаўніцтва мэталёпрамысловасьці БССР у сэнсе нацыянальнай політыкі? На гэтым прыкладзе красамоўна выяўляюцца дзьве лініі разьвіцьця. Першая лінія—лінія савецкага ўраду, комуністычнае партыі, якая *накіравана на экономічны і культурны ўздым раней прыгнечаных нацый.* Гэта лінія наша, яна цалком падтрымліваецца пролетарыятам і працоўнымі масамі Беларусі. Другая лінія, гэта лінія царскага ўраду, сёньня лінія польска-фашыстскай акупацыі, ды яе хаўрусьнікаў—нацыянал-фашыстых, якая была і ёсьць накіравана на закабаленьне ўскраін, на прыгнечаньне нацый, на затрымку індустрыяльнага разьвіцьця нацыянальных краёў.

На гэтым прыкладзе красамоўна выяўляецца роля ўсесаюзнага пролетарыяту, у справе індустрыяльнага разьвіцьця нацыянальных рэспублік.

На гэтым прыкладзе красамоўна выяўляецца рост народнае гаспадаркі БССР, у той час, калі Польшча і сусьветны капіталізм перажываюць экономічны крызіс. Перавага соцыялістычнае сыстэмы над капіталістычнаю кідаецца ў вочы ўсякаму, хто здольны об'ектыўна развaжаць.

Так стаіць пытаньне з простым фактам разьвіцьця мэталёпрамысловасьці ў БССР.

## Хутчэй перамагчы прарывы

Мы-б зрабілі памылку, не закрануўшы сур'ёзных недахопаў, якія маюцца ў становішчы мэталёпрамысловасьці, у рабоце гаспадарчых, партыйных і профсаюзных організацый.

Разам з дасягненьнямі мы павінны адзначыць шмат недахопаў у рабоце мэталёпрамысловасьці. Прарывы на тым ці іншым вучастку гаспадарчага фронту ставяць пад пагрозу пасьпяховае выкананьне ўсяго пляну гаспадарчага будаўніцтва. Таму нельга абыйсьці моўчкі прарывы ў выкананьні промфінпляну, якія ёсьць у мэталёпрамысловасьці за першае паўгодзьдзе 1929-30 гаспадарчага году.

*У выніку таго, што гаспадарчыя, партыйныя і профсаюзныя організацыі не перабудавалі форм і мэтодаў сваe работы ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі рэконструкцыйнага пэрыоду і не мобілізавалі, як сьлед, шырокіх мас рабочых вакол выкананьня баявых гаспадарчых задач, вакол разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, у мэталёпрамысловасьці ёсьць сур'ёзныя прарывы ў галіне выкананьня прамфінпляну.*

Некаторыя партыйныя і профсаюзныя работнікі не разумеюць, чаму гэта іх б'юць за тое, што яны не перабудавалі сваёй работы ў той час, калі „формальна“ справа стаіць добра. Былі перавыбарчыя сходы, на іх пераабралі кіруючыя завадзкія партыйныя і профсаюзныя органы, падзялілі работу па сэктарох, г. зн. перабудавалі па-новаму, і чаго яшчэ трэба? А трэба вельмі „мала“—выканаць і перавыканаць прамфінплян. Наколькі па-сапраўднаму перабудаваліся на новыя рэйкі партыйныя і профсаюзныя організацыі, паказвае такі об'ектыўны фактар, як прамфінплян. *Толькі тая організацыя працуе па-новаму, якая з посьпехам выконвае прамфінплян. Прамфінплян зьяўляецца вельмі чулым баромэтрам да таго, як адбылася перабудова работы на новыя рэйкі.*

Аб чым сьведчаць паказчыкі мінулага гаспадарчага паўгодзьдзя?

Яны сьведчаць аб тым, што вытворчая програма мэталёпрамысловасьці па агуловай продукцыі недавыканана на 6,5 проц. (выканана 93,5 проц. пляну, па зьніжэньню сабекошту на 5,34 проц. (запроектавана па пляну 14,7 проц.) па росту вытворчасьці працы выканана толькі 9,4 проц. замест запроэктаваных 25,4 проц. па пляну. Застаецца яшчэ надта высокім процант браку, які па асобных відах вытворчасьці дасягае больш 30 проц. Наглядаецца вельмі часта пратэрміноўкі ў выкананьні заказаў. Гэтыя пратэрміноўкі часам набываюць хронічны характар. Павялічваюцца прагулы па няўважлівых прычынах. Так, напрыклад, у другім квартале прагулы вырасьлі да 0,57 проц. тым часам, як у апошнім квартале мінулага году і ў першым квартале бягучага году прагулы не перавышалі 0,26 проц. Надзвычай нездавальняюча стаіць справа з якасьцю продукцыі і вельмі дрэнна пастаўлены нагляд за яе палепшаньнем.

Вось кароткі пералік пытаньняў, якія неадкладна патрабуюць самай сур'ёзнай увагі ўсіх гаспадарчых, партыйных і профсаюзных організацый, усіх рабочых мэталёпрамысловасьці. *Калі цяпер-жа няўзяцца за рашучую барацьбу па выкананьню прамфінпляну, дык няма жаднае гарантыі таго, што мэталёпрамысловасьць скончыць свой гаспадарчы год, ліквідаваўшы прарывы.*

Пытаньне аб перабудове мэтодаў гаспадарчага кіраўніцтва таксама стаіць вельмі востра. Тэмпы рэконструкцыі значна выперадзілі гаспадарчае кіраўніцтва, якое значна астаецца ад росту вытворчасьці. У кіраваньні мэталёпрамысловасьцю яшчэ захаваліся старыя паўсаматужніцкія мэтоды. Гэтыя мэтоды адбітак „мінуўшчыны“, калі заводы былі малыя і можна было „плянаваць“, наладжваць снабжэньне сыравінай і ўсё гэта ўлічваць „у галаве“. Дырэктар заводу „Энергія“ у падмацаваньне адсталасьці кіраўніцтва ў сучасных умовах так характэрызаваў якасьць гэтага кіраўніцтва: „*Калі завод быў маленькі, тады хто хацеў, той і браў матэрыял са складу. А цяпер рост заводу выперадзіў кіраўніцтва*“.

Трэба неадкладна і самым рашучым чынам перабудаваць гаспадарчае кіраўніцтва ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі бягучага пэрыоду. Нельга ні на адну хвіліну трымацца за старыя формы кіраўніцтва, калі жыцьцё высоўвае новыя задачы і пэрспэктывы. Мэталёпрамысловасьць вырастае ў буйную гаспадарчую адзінку Для таго, каб ісьці наперадзе гэтага росту трэба па-новаму, па-навуковаму, абгрунтована, на аснове апошніх дасягненьняў у галіне тэхнікі, кіраваць прамысловасьцю. У іншым выпадку можа здарыцца, што гаспадарчае кіраўніцтва будзе простым рэгістратарам росту заводаў, а не яго ініцыятарам і моцным кіраўніком.

Другое пытаньне, ад правільнага разьвязваньня якога залежыць хутчэйшая ліквідацыя прарываў у галіне прамфінпляну—гэта пытаньне аб адзінаначальлі. Прайшло больш паўгода пасьля таго, як ЦК УсеКП(б) вынес пастанову аб мерапрыемствах па ўпарадкаваньню кіраўніцтва вытворчасьцю і ўстанаўленьня адзінаначальля. *Аднак, па сутнасьці гэтая важнейшая дырэктыва партыі яшчэ і да гэтага часу не знайшла практычнага адлюстраваньня ў рабоце завадзкіх організацый.* Адзінаначальле, як сьлед, не ўсьвядомлена шырокімі масамі рабочых. Анэкдоту падобна, але мы сустракаемся з такім „разуменьнем“ адзінаначальля, калі паасобныя актывістыя адказваюць, што „адзінаначальле зьяўляецца антырэлігійнай тэмай“, альбо калі рабочыя зварочваюцца да старшынь цэхавых вытворчых камісій, каб атрымаць работу, замест таго каб ведаць свайго непасрэднага кіраўніка вытворчасьцю, майстра і г. д.

*Адміністрацыя яшчэ і да гэтага часу не нясе поўнай адказнасьці за выкананьне прамфінпляну.* Адміністрацыя, замест таго, каб непасрэдна змагацца з недахопамі вытворчасьці, за падвышэньне вытворчае дысцыпліны, лічыць лепшым хавацца за плечы цэхавых партыйных і профсаюзных організацый. Праўда, партыйныя і профсаюзныя ячэйкі вельмі дрэнна садзейнічаюць у рабоце адміністрацыі, якая калі-ні-калі пападае паміж двух агнёў. Не жадаючы „сварыцца“ з рабочымі— з боку адміністрацыі, асабліва цэхавай, наглядаецца „халадок“ да дырэктыў партыі і кіруючых гаспадарчых органаў аб адзінаначальлі.

Зразумела, што без рашучага ажыцьцяўленьня адзінаначальля, без рашучага падтрыманьня мерапрыемстваў, накіраваных да выкананьня дырэктыў партыі аб адзінаначальлі з боку партыйных і профсаюзных організацый, з боку ўсіх рабочых, цяжка будзе змагацца за выкананьне прамфінпляну, за тое, каб перакрыць прарывы першага паўгодзьдзя.

*Трэба, каб зараз-жа партыйныя, профсаюзныя організацыі і гаспадарнікі мобілізавалі ўсе сілы для ліквідацыі прарываў першага паўгодзьдзя, для перавыкананьня прамфінпляну як па колькасных, так і якасных паказчыках. Рабочая маса павінна быць прыведзена ў рух у барацьбе за прамфінплян. Бяз гэтага мэталёпрамысловасьць ня выканае ўскладзеных на яе задач.*

## Задачы мэталёпрамысловасьці

На працягу артыкулу мы ўжо закранулі некаторыя задачы мэталёпрамысловасьці, асабліва ў галіне ліквідацыі прарываў першага паўгодзьдзя і ў галіне барацьбы за безадкладнае ажыцьцяўленьне адзінаначальля. Але ёсьць некалькі асабліва важных вытворчых задач, якія трэба будзе разьвязаць у бліжэйшыя часы.

У БССР ёсьць значныя пэрспэктывы для разьвіцьця мэталёапрацоўчае прамысловасьці, якая павінна будзе абслугоўваць патрэбы мясцовага рынку сельска-гаспадарчымі машынамі і прыладамі, патрэбы ўсё растучай рэспубліканскай прамысловасьці, і спэцыялізавацца ў выпуску шэрагу машын для ўсяго Савецкага Саюзу. Асабліва вялікае значэньне мае прыстасаваньне мэталёпрамысловасьці па лініі абслугоўваньня патрэб колгаснае вёскі і народнае гаспадаркі краіны ў цэлым. Справа ў тым, які характар павінна набыць мэталёпрамысловасьць БССР у далейшым?

З нашага пункту гледжаньня мэталёпрамысловасьць БССР павінна быць у больш значнай ступені прыстасавана да абслугоўваньня патрэб растучай народнай гаспадаркі БССР. Але разам з тым, паколькі заводы мэталёаб'яднаньня набылі каштоўны вопыт па вырабу шэрагу складаных машын, якія ўжываюцца па ўсяму Саюзу, трэба і на далей раз-

гортваць вытворчасьць гэтых машын. Лінія партыі, накіраваная на індустрыялізацыю краіны, прадугледжвае такі рост прамысловасьці, які забясьпечвае поўную тэхніка-экономічную незалежнасьць Савецкага Саюзу ад капіталістычнага сьвету. У межах нашых магчымасьцяй трэба зрабіць усё, каб шпаркім тэмпамі ісьці і на далей па шляху павялічэньня гэтае незалежнасьці.

Такая пастаноўка пытаньня сьцісла зьвязана з узроўнем вытворчасьці, з ужываньнем нашага і замежнага тэхнічнага вопыту пры арганізацыі вытворчасьці. А трэба проста сказаць, што перад мэталёпрамысловасьцю БССР стаяць буйнейшыя задачы ў галіне разьвіцьця эфэктыўнасьці асноўных укладаньняў. Належнай эфэктыўнасьці капітальныя ўкладаньні па мэталёпрамысловасьці яшчэ не далі. У гэтым сэнсе трэба ў *першую чаргу распрацаваць пытаньне аб спэцыялізацыі заводаў, аб іх вытворчым твару*. Дагэтуль звычайна бывае так, што адну і тую-ж марку машын вырабляе некалькі заводаў у мэтах паскарэньня выкананьня заказаў, пры чым маркі гэтых машын часта мяняюцца і такім чынам заводы фактычна былі пазбаўлены магчымасьці спэцыялізавацца і набываць вопыт. Гэта прыводзіць да лішніх затрат на выраб модэлей, прыстасаваньняў, чарцяжоў, перашкаджае наладжваньню плянаваньня вытворчасьцю, лепшаму скарыстаньню абсталяваньня, зьніжэньню сабекошту і палепшаньню якасьці продукцыі. Пытаньне аб спэцыялізацыі заводаў, як відаць, сьцісла зьвязана з пытаньнем аб удасканаленьні вытворчасьці, яе рацыяналізацыі ў больш шырокім разуменьні гэтага слова. Разнахарактарнасьць вырабаў, іх частыя зьмены не дазваляе праводзіць рацыяналізацыю вытворчасьці, перашкаджае выпрацоўцы вытворчых навыкаў у рабочых і пазбаўляе магчымасьці ўводзіць пачаткі конвэернае сыстэмы, у тых выпадках, дзе яе можна ўжыць.

Значыць, спэцыялізацыя заводаў ёсьць важнейшая проблема, якую трэба абгрунтавана разьвязаць як мага хутчэй.

*Перад намі стаіць задача: пры найменшых капітальных укладаньнях, як мага больш выпусьціць продукцыі, бо нам даводзіцца індустрыялізаваць краіну без усялякай дапамогі звонку, выключна ўласнымі сіламі і сродкамі.*

Трэба, выконваючы вытворчыя заданьні, пасьпяшацца з рэконструкцыяй заводаў, скараціўшы для гэтае мэты тэрміны рэконструкцыі, выкарыстоўваючы ўсе магчымасьці для найбольшага павялічэньня выпуску продукцыі, для зьніжэньня сабекаштоўнасьці і палепшаньня яе якасьці. Рэконструкцыя мэталёпрамысловасьці дасьць значнае павялічэньне эфэктыўнасьці асноўных капіталаў. Максымальнае разьвіцьцё эфэктыўнасьці павінна праходзіць таксама і шляхам увядзеньня бесьперапыннага вытворчага тыдню, поўнага ўкамплектаваньня 2-х—3-х зьмен, большага выкарыстоўваньня наліччага абсталяваньня, рацыяналізацыі працы рабочых і падвышэньня вытворчасьці працы.

Пад загад ВСНГБ адданы завод імя Ланцуцкага (былыя чыгуначныя майстэрні ў Гомелі) і Менскія чыгуначныя майстэрні, дзе ёсьць значныя вытворчыя магчымасьці, якія не патрабуюць больш-менш вялікіх капітальных укладаньняў. Аналізуючы эфэктыўнасьць асноўных капіталаў, мы прыходзім да выніку, што можна значна павялічыць выпуск продукцыі, пры ўмове хутчэйшага асваеньня заводу імя Ланцуцкага і Менскіх чыгуначных майстэрань і пераводу іх на фабрычна-заводзкія рэйкі работы.

Трэба ўзяць пад крытычны абстрэл меркаваньні мэталёаб'яднаньня адносна павялічэньня эфэктыўнасьці асноўных капіталаў, якія вызначаны па пяцігодцы. У 1928-29 годзе выпуск продукцыі на адзін рубель

асноўнага капіталу складаў 2,2 рублі, у 1929-30 годзе вызначаны рост да 2,5 руб. Аднак, гэты нязначны рост ідзе ў асноўным не за лік падвышэньня вытворчасьці працы, а за лік частковага ўжываньня бесьперапыннага вытворчага тыдню і двох-трох-зьменнае работы. У 1930-31 г. прымяркована, што выпуск продукцыі на адзін рубель асноўнага капіталу будзе складаць 4 руб. Аднак і ў гэтым выпадку рост ідзе ў асноўным за лік пуску новага гомельскага заводу сельска-гаспадарчых машын.

Такім чынам рост выпуску продукцыі на адзінку асноўнага капіталу мяркуецца пераважна за лік новых капітальных укладаньняў. Інакш трудна растлумачыць тое, што эфэктыўнасьць асноўных капіталаў (бяз новага гомельскага заводу) проэктуецца ў 1929-30 годзе ў памеры 3,1 руб. продукцыі на адзін рубель асноўных капіталаў, а ў 1930-31 г. 3,2 руб. *Такі нязначны рост (3,3 проц.) эфэктыўнасьці ня ўлічвае вытворчых рэзэрваў, якія ёсьць у мэталёпрамысловасьці.* Возьмем толькі адзін прыклад: выкарыстаньне абсталяваньня.

Выбарачныя даныя аб фотографіі рабочага дню (работа праведзена тарыфна-нарміровачнымі Бюро на некаторых заводах) даюць такі малюнак: *па паасобных процэсах загрузка абсталяваньня дасягае 15—20% фактычных мажлівасьцяй!* Гэты прыклад сьведчыць аб тым, што ў галіне павялічэньня коэфіцыенту нагрузкі абсталяваньня і ў галіне рацыяналізацыі працы рабочых ёсьць вялікія магчымасьці.

Гэтыя прыклады сьведчаць таксама аб надзвычай слабай рацыяналізатарскай і тэхніка-нарміровачнай рабоце. Па сутнасьці рацыяналізатарская работа толькі пачынае праводзіцца з гэтага году. Формальны падыход да рацыяналізатарскае работы прыводзіў да таго, што яна недаацэньвалася і рацыяналізатары дзе-ні-дзе лічыліся „лішнімі людзьмі“. Зразумела, што падобныя нездаровыя настроі павінны атрымаць самы жорсткі адпор з боку ўсіх кіруючых зьвеньняў мэталёпрамысловасьці.

Рацыяналізатарская работа павінна заняць пачэснае месца ў рабоце гаспадарчых, партыйных і профсаюзных організацый. Нельга ў акуляры глядзець на такое становішча, калі адміністрацыя ня лічыцца з прапановамі рабочых, ня прымае захадаў дляператварэньня гэтых прапаноў у жыцьцё. Нельга мірыцца з такім становішчам, калі рабочыя, згубіўшы надзею на ажыцьцяўленьне іх прапаноў, проста пакідаюць цікавіцца рацыяналізатарскай справай, удасканаленьнем вытворчасьці.

Вельмі востра стаіць пытаньне з кадрамі,—кадрамі кваліфікаваных рабочых і інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналю для мэталёпрамысловасьці. На заводах мэталёпрамысловасьці невялікія кадры кваліфікаваных рабочых. У сувязі з пашырэньнем прамысловасьці склад рабочых за апошнія часы папаўняўся мала кваліфікаванымі рабочымі. Па намётцы пяцігодкі прадугледжваецца рост колькасьці рабочых у некалькі разоў у параўнаньні з сучасным становішчам. Мяркуецца, што да 1932-33 г. лік рабочых па мэталёпрамысловасьці павялічыцца ў 4—5 разоў. *Гэта азначае, што ў мэталёпрамысловасьць увальецца каля 15—18 тысяч новых рабочых, якія ў большасьці сваёй яшчэ ня нюхалі фабрычна-заводзкага пораху.*

Кіруючыя органы мэталёпрамысловасьці абавязаны, не шкадуючы сродкаў і сіл, неадкладна прыступіць да практычнага разьвязаньня проблемы кадраў кваліфікаваных рабочых. У першую чаргу трэба прыняць усе захады да падрыхтоўкі высококваліфікаваных рабочых праз організацыю школ фабрычна-заводзкага вучнёўства, праз стварэньне спрыяючых абставін для падрыхтоўкі рабочых шляхам брыгаднага і індывідуальнага вучнёўства непасрэдна на прадпрыемствах. У нас часта бывае так, што калі трэба прыступаць да павялічэньня

выпуску продукцыі, да павялічэньня рабочага складу, тады толькі кіраўніцтва прадпрыемства ўспамінае пра дрэннае становішча з кадрамі.

*Соцыялістычнае плянаваньне можа і павінна будавацца з найменшымі накладнымі выдаткамі для народнае гаспадаркі.* А гэта значыць, што трэба наперад прадугледзець усе мерапрыемствы па забесьпячэньню прамысловасьці кваліфікаванымі рабочымі. Нельга дапушчаць такога становішча, якое наглядаецца цяпер на заводзе „Энергія“ і інш. прадпрыемствах, калі *з-за недахопу кваліфікаваных рабочых заводы ня могуць разгарнуць усяе свае вытворчае магутнасьці.*

Вопытны тэорэтычна-падрыхтаваны інжынэрна-тэхнічны пэрсональ сустракаецца на заводах мэталёпрамысловасьці літаральна адзінкамі. Проблема насычанасьці заводаў патрэбным лікам інжынэраў і тэхнікаў ня вырашана ў мэталёпрамысловасьці. Няма патрэбы даводзіць, які буйны гэта недахоп у справе лепшай організацыі вытворчасьці. Мэталёпрамысловасьць абавязана ўжыць усе захады да павялічэньня кадраў савецкага інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналю, які набыў салідную тэорэтычную падрыхтоўку ў ВТНУ. У той-жа час неабходна скласьці спрыяючыя абставіны для работы старых кадраў інжынэраў і тэхнікаў, якія аддана працуюць на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва.

Курс на арабочваньне вышэйшага каманднага складу мэталёпрамысловасьці можа з посьпехам ажыцьцяўляцца таксама і шляхам высоўваньня высока-кваліфікаваных рабочых і вынаходцаў, якія ёсьць на заводах. Дзеля гэтага трэба не баяцца высоўваць на інжынэрна-тэхнічныя пасады высока-кваліфікаваных рабочых, якія пад кіраўніцтвам партыі аддана працуюць над палепшаньнем і ўдасканаленьнем вытворчасьці. Зразумела, што ў гэтым рабочых тэорэтычныя веды невялікія, але трэба рашуча ўзяцца за організацыю розных форм падвышэньня тэорэтычных ведаў рабочых, камандзіраў розных зьвеньняў прамысловасьці.

У галіне выпраўленьня політыкі цэн нельга ня спыніцца на вялікіх накідках, якія практыкуюцца па асобных вырабах мэталёпрамысловасьці. У некаторых выпадках накідкі дасягаюць 100 і больш проц., у адносінах да сабекошту. Гэты факт паказвае, што з боку ВСНГ і Наркамгандлю адсутнічае патрэбнае рэгуляваньне цэн.

Наколькі мэталёаб'яднаньне політычна падыходзіла да рэгуляваньня адпускных цэн, паказвае прыклад з сіласарэзкай, якая ўжываецца толькі ў буйных дзяржаўных і колектыўных гаспадарках. Сабекошт сіласарэзкі не перавышае 650 рублёў, а адпускная цана мэталёаб'яднаньня перавышае 1000 рублёў. *Такія вялікія накідкі на машыны, асабліва ў дадзеным выпадку, калі яны ідуць у колектыўную гаспадарку, з нашага пункту гледжаньня не накіраваны на заахвочваньне колектыўнае гаспадаркі.* Памылкі такога парадку неабходна зараз-жа выпраўляць.

У пяцігодцы мэталёаб'яднаньне ВСНГ павінна распрацаваць такое разгортваньне політыкі рэгуляваньня адпускных цэн, якое выцякае з задач соцыялістычнае рэканструкцыі краіны.

Нарэшце, неабходна спыніцца на рабоце партыйных і профсаюзных організацый, на пытаньнях самакрытыкі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Усе акрэсьленыя вышэй задачы павінны праводзіцца рукамі рабочых мас, з удзелам шырокіх колаў рабочых. Наша пяцігодка ёсьць пяцігодка соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, якое праводзіць пролетарыят, кіруючым працоўным сялянствам краіны. Таму задача мобілізацыі пагалоўна ўсіх рабочых для ўдзелу ў соцыялістычным наступленьні—ёсьць баявая задача дню. А гэта ў сваю чаргу патрабуе неадкладнае перабудовы работы партыйных і профсаюзных

організацый, патрабуе ўмелага прыстасаваньня і ўмелага вышукваньня такіх форм і мэтодаў работы, якія найбольш адпавядаюць задачам соцыялістычнае рэконструкцыі. Нельга сказаць, што партыйныя і профсаюзныя організацыі ўжо здолелі перабудавацца. Аб гэтым сьведчыць у першую чаргу выкананьне прамфінпляну. Мы наглядаем выпадкі абураючага хвасьцізму з боку паасобных партыйцаў на вытворчасьці. Чаго варт такі прыклад, калі камуністы кажа новаму рабочаму „навошта гоніш, хочаш каб расцэнкі панізілі“. Гэты „комуніст“ падае прыклад комуністычных адносін да працы! Такія партыйцы зьяўляюцца самымі шкодныі опортуністымі на вытворчасьці.

Некаторыя партыйныя організацыі не вялі бязьлітаснае барацьбы з падобнымі опортуністымі—„дэлегатамі кулака“ на вытворчасьці.

У галіне разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва прадстаіць вялізарная работа. Пакуль што часта сустракаешся з фактамі, калі соцспаборніцтва і ўдарніцтва прымае парадныя формы. Яно не адчуваецца, як сьлед, на палепшаньні якасных і колькасных паказчыкаў выкананьня промфінпляну. Аб чым гэта сьведчыць? Аб тым, што партыйныя і профсаюзныя організацыі не навучыліся выкарыстоўваць узрослую актыўнасьць рабочых мас на карысьць будаўніцтва, на карысьць барацьбы за прамфінплян. „Вытворчыя камуны развальваліся, а колектыў не займаўся гэтым пытаньнем“, гаварылі тавярышы на партыйнай нарадзе заводу „Пролетары“ (Гомель). Ударніцтва рабочых праводзіцца і ў форме стварэньня комун. На першых кроках работы ня было вопыту. У комуну ўвайшлі рабочыя розных разрадаў і кваліфікацый і на практыцы такія комуны сябе не апраўдалі. Жыцьцёвымі аказваліся толькі такія комуны, у склад якіх увайшлі рабочыя прыблізна аднэй кваліфікацыі і разрадаў. Партыйныя колектывы не праявілі патрэбнага інтарэсу для падтрыманьня і разьвіцьця новае формы барацьбы за вышэйшую ступень працы—комуну.

Чаго варты такі прыклад, *калі далёка ня ўсе партыйцы і комсамольцы ўцягнуты ў соцспаборніцтва і ва ўдарныя брыгады.* Па асобным цэхам процант партыйцаў і комсамольцаў, што ўдзельнічаюць у соцспаборніцтве і ўдарных брыгадах, надта мізэрны. Гэты прыклад зьяўляецца характэрнай ацэнкай работы партыйных і комсамольскіх ячэек у галіне барацьбы за прамфінплян.

Самакрытыка зьяўляецца вострай зброяй у руках пролетарыяту ў барацьбе за соцыялізм. Неабходна, каб *партыйныя організацыі дапамагалі ўзьняцьцю пролетарскае самакрытыкі на вышэйшую ступень, концэнтруючы ўвагу рабочых на барацьбе з недахопамі ў вытворчасьці, за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.* Трэба ўзьняць якасьць мас супроць прастояў, браку, супроць пакіданьня работы да часу, супроць псаваньня станкоў, супроць ілжэўдарніцтва, рвацтва, хвасьцікіх настрояў, паніжэньня вытворчасьці працы за сапраўдна соцыялістычныя адносіны да працы. Нельга ні на адну хвіліну цярпець такое становішча, калі рабочы, які дае рашучы адпор рвачом, церпіць цкаваньне, калі яму не дапамагаюць, калі ён не сустракае рашучага падтрыманьня ў сваёй барацьбе за працоўную дысцыпліну з боку грамадзкіх організацый прадпрыемства, з боку комуністых, комсамольцаў і перадавых рабочых у першую чаргу.

Толькі перабудаваўшы работу на новыя рэйкі, толькі рашуча разгортваючы пролетарскую самакрытыку можна спадзявацца, што партыйныя і профсаюзныя організацыі выканаюць задачы, якія стаяць перад імі.

15-V-30 г.

Ц. Пракопчык

# Аб ленінскім коопэрацыйным пляне і яго прымяненьні ва ўмовах БССР

Кажучы аб ленінскім коопэрацыйным пляне, трэба адзначыць, што ў нас, у БССР, у калгасах плянавасьць вельмі слабая, а трэба цьвёрда памятаць, што т. Ленін называў плян другою праграмаю партыі. Адсутнічаньне плянаў, гэта адзін з недахопаў калгаснага будаўніцтва. Бязумоўна, адмоўна адаб'ецца на гаспадарцы калгасу, калі кіраўнікі яго ня ведаюць, чым яны распараджаюцца, колькі ў іх працоўнае сілы, у які тэрмін і як яна будзе скарыстана, якія ў іх эканомічныя рэсурсы, на што і калі яны павінны пайсьці,—усё гэта ў гаспадарцы адыгрывае вельмі вялікае значэньне.

Наш соцыялістычны сэктар савецкае гаспадаркі адрозьніваецца ад несоцыялістычных гаспадарак, а таксама ад капіталістычных гаспадарак тым, што ў нас няма эксплёатацыі клясы клясай, што прыбытак у нашай гаспадарцы ідзе не па асобных кішэнях, а ў соцыялістычны сэктар, на пашырэньне соцыялістычнае вытворчасьці, на палепшаньне эканомічна-культурнага і бытавога становішча працоўных мас і, акрамя гэтага, наша гаспадарка адрозьніваецца ад капіталістычных сваёй плянавасьцю, чаго ня можа быць у капіталістых пры ўласнасьці на сродкі вытворчасьці. Тав. Ленін казаў, што праз правільны вучот і плянавасьць мы прыдзем да соцыялізму.

Бясплянавасьць, анархія ў вытворчасьці, як мы наглядаем у капіталістычных краінах, прыводзіць да эканомічных, адгэтуль і палітычных крызісаў, прамежак часу паміж якімі ў капіталістычных краінах час ад часу скарачаецца (а гэта для капіталізму натуральна) і ў недалёкім часе, скарачаючы прамежкі, крызіс капіталізму прывядзе капіталістычную сыстэму буржуазных краін да ўсеагульнага крызісу, які вырашыць зможа толькі пролетарская рэволюцыя.

Цяпер непасрэдна аб ленінскім коопэрацыйным пляне. Калі ў руках пролетарскае дзяржавы знаходзяцца камандныя вышыні: банкі, прадпрыемствы, монополія замежнага гандлю, цяжкая індустрыя і г. д.,—пры нашай плянавасьці гэта садзейнічае зьнішчэньню капіталістычнага сэктару ў краіне; мяркуючыся з тэмпам разьвіцьця соцыялістычнай фабрычна-заводзкай прамысловасьці праз коопэрацыю ніжэйшых форм у плянавым парадку, дзяржава ўплывае на коопэраваньне сельска-гаспадарчае вытворчасьці, уплывае на правядзеньне суцэльнай колектывізацыі, на базе чаго ліквідуецца кулацтва, як кляса.

Ленін разглядаў коопэрацыю дыялектычна і ў залежнасьці ад таго, каму належаць у краіне камандныя вышыні, якім чынам і ў якім кірунку разьвіваецца фабрычна-заводзкая прамысловасьць,—такі напрамак і выгляд прымае коопэрацыя. Ленін кажа:

„Вядома, што коопэрацыя ў абставінах капіталістычнае дзяржавы зьяўляецца колектыўнай капіталістычнай установай... Пры

нашым існуючым ладзе прадпрыемствы коопэрацыйныя адрозьніваюцца ад прадпрыемстваў прыватна-капіталістычных, як прадпрыемствы колектыўныя, але не адрозьніваюцца ад прадпрыемстваў соцыялістычных, калі яны ас452ваны на зямлі пры сродках вытворчасьці, якія належаць дзяржаве, г. зн., рабочай клясе...

„...Коопэрацыя ў нашых умовах скрозь і ўсюды супадае з соцыялізмам“. (Ленін, т. XVIII, ч. II, стар. 143—144).

Коопэрацыя пры дыктатуры пролетарыяту, пры разьвіцьці соцыялістычнай фабрычна-заводзкай прамысловасьці і г. д. прыводзіць да соцыялізму.

У капіталістычных умовах, калі існуе ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, калі існуе эксплёатацыя клясы клясай, коопэрацыя зьяўляецца колектыўным капіталістычным прадпрыемствам.

„Коопэрацыю пры ўмове дыктатуры пролетарыяту мы разглядаем, як гаспадарчую організацыю, дзе перабудоўваюцца эканамічныя ўзаемаадносіны на соцыялістычных прынцыпах ад індывідуальна-ўласьніцкіх да грамадзка-колектыўных“ (праф. Лазавы).

Ажыцьцяўленьне коопэрацыйнага пляну, які нельга разглядаць, як коопэрацыйны плян толькі ў галіне „гандлёвага звароту“, Ленін разглядаў у сувязі з шляхамі вытворчага коопэраваньня і колектывізацыі. Але,—пісаў Ленін,—справа пераробку дробнага земляробства, пераробку ўсяе яго псыхолёгіі і звычак ёсьць справа, якая патрабуе пакаленьняў. Вырашыць гэтае пытаньне ў адносінах да дробнага хлебароба, аздаравіць, гэтак кажучы, усю яго псыхолёгію можа толькі матар'яльная база, тэхніка, ужываньне трактароў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыя ў масавым маштабе. Вось што ў грунце і з вялікай хуткасьцю перарабіла-б дробнага земляроба. Калі я кажу, што патрэбны пакаленьні, то ня значыць, што патрэбны стагодзьдзі. Вы добра разумееце, што дастаць трактары, машыны, электрыфіцыраваць вялізную краіну—такая справа можа ва ўсякім выпадку вылічвацца ня менш, як дзесяцігодзьдзем“.

У другім месцы т. Ленін кажа:

„Калі-б можна было даць сялянству 100.000 трактароў, першаклясных трактароў, забясьпечыць іх бэнзынай, забясьпечыць іх машыністымі (вы добра ведаеце, што гэта пакуль што фантазія), то серадняк сказаў-бы: „я за камунію“, г. значыць за комунізм“.

На даным этапе разьвіцьця цяжкай індустрыі, пры існуючых тэмпах фабрычна-заводзкай прамысловасьці, апошняя дасьць сельскай гаспадарцы складаныя машыны, дасьць трактары. Жаданьне т. Леніна ажыцьцяўляецца, ужо ў 1930 г. сельска-гаспадарчая тэхнічная база мае каля 100.000 трактароў, з якіх на палёх Беларусі працуе каля 500 штук і да канца пяцігодкі ў СССР будзе больш за 200 тысяч трактараў, адпаведная колькасьць складаных с.-г. машын, прычапных да трактара машын, большая колькасьць штучных угнаеньняў, большая колькасьць агра-тэхнічнае сілы і г. д.

Усё гэта, бязумоўна, спрыяе ажыцьцяўленьню коопэрацыйнага пляну Леніна, усё гэта спрыяе разьвіцьцю коопэрацыі, правядзеньню колектывізацыі, ажыцьцяўленьню соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Ленінскі коопэрацыйны плян прадугледжвае, на базе разьвіцьця соцыялістычнае прамысловасьці, вытворчае коопэраваньне асобных галін с.-г. вытворчасьці ў адну вялікую грамадзкую вытворчасьць,

што зьяўляецца стымулам пераходу дробных гаспадарак у гаспадарку соцыялістычнае формы.

Коопэрацыйны плян Леніна не абмяжоўваецца задачай коопэраваньня ў галіне звароту.

Коопэрацыя пры такім вялікім разьвіцьці соцыялістычнае прамысловасьці зьяўляецца зьвяном, якая зьвязвае прамысловасьць з распыленаю, раздробленаю, маларэнтабельнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркай. Таму задача коопэрацыі ў гэтых умовах заключаецца ва ўцягненьні абасобленых дробных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на шлях соцыялістычнага будаўніцтва і стварэньня буйное вытворчасьці. Па ленінскіх заветах у пераходную эпоху пролетарыят павінен кіраваць з пераходам дробных таваравытворцаў да колектыўнае працы. Пераход ад коопэрацыі дробных гаспадарнікаў, ёсьць пераход ад дробнае продукцыі да буйное. (Ленін).

Па меры ўзмацненьня соцыялістычнага сэктару народнае гаспадаркі, асабліва нашай цяжкай індустрыі, усе больш адчуваецца ўплыў соцыялістычнае прамысловасьці на дробную гаспадарку ў бок соцыялістычнае рэконструкцыі яе.

Адпаведна з гэтым мяняецца і характар работы коопэрацыі, яна зьвяртае цэнтр увагі свае коопэрацыйнае дзейнасьці на коопэраваньне вытворчых процэсаў сельскае гаспадаркі.

Коопэрацыя ў галіне збыту падрыхтоўвае пачатак вытворчага коопэраваньня сельскае гаспадаркі шляхам уцягненьня іх у калгаснае будаўніцтва.

Такім чынам, праз разьвіцьцё коопэрацыі таваразвароту на базе разьвіцьця соцыялістычнай індустрыі, вёска праводзіць шпаркім тэмпам коопэраваньне ўсіх паасобных галін сельска-гаспадарчае вытворчасьці, падштурхвае тэмп разьвіцьця с.-г. вытворчасьці да тэмпу разьвіцьця нашае гарадзкое прамысловасьці, зьнішчаецца канчаткова дыспропорцыя паміж сельскай і гарадзкой вытворчасьцю, вёска набліжаецца да гораду, асобныя раздробленыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ўступаюць у соцыялістычны сэктар, расьце сьвядомасьць і актыўнасьць бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, праходзіць суцэльная колектывізацыя, на базе чаго праводзіцца ліквідацыя кулацтва як клясы, будуецца соцыялізм у нашай краіне.

Вось куды вядзе коопэрацыйны плян Леніна, чаго не хацелі зразумець троцкістыя і не разумелі правыя опортуністыя.

Троцкістыя, не прызнаючы магчымасьці будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне, не прызнаючы кіруючае ролі пролетарыяту над сялянствам, недаацэньваючы ролі сялянства ў рэволюцыі і соцыялістычным будаўніцтве, гэтым самым яны зусім адмаўлялі коопэрацыйны плян Леніна. Адсюль і недаацэнка імі калгаснага руху.

Правыя опортуністыя спрабавалі рабіць рэвізію коопэрацыйнага пляну Леніна, падмяняючы яго сваімі опортуністычнымі плянамі, па якіх опортуністыя думалі, што непасрэдны просты рух вёскі ідзе праз коопэрацыю таваразвароту, і недаацэньвалі вытворчага коопэраваньня і калгаснага будаўніцтва ў вёсцы.

Бухарын казаў:

„Кулацкія коопэратыўныя гнёзды таксама праз банкі і да т. п. будуць урастаць у тую-ж сыстэму“, гэта значыць у сыстэму соцыялізму.

Правыя опортуністыя казалі: „Селянін ня пойдзе ў калгас“.

Правыя опортуністыя выказвалі думку, што будаўніцтва коопэрацыі, тым самым і будаўніцтва соцыялізму, у нас будзе праводзіцца рукамі кулакоў. „Кулак урастае ў соцыялізм".

Вельмі добры адказ дае на гэта т. Сталін ухілістым, ён гаворыць:

> „Нельга зьмешваць сялянства Савецкага Саюзу з сялянствам захаду; сялянства, якое прайшло школу трох рэволюцый, якое змагалася супроць цара і буржуазнае ўлады разам з пролетарыятам, на чале з пролетарыятам, сялянства, якое атрымала зямлю і мір з рук пролетарскае рэволюцыі і якое стала ў зьвязку з гэтым рэзэрвам пролетарыяту,—гэтае сялянства ня можа не адрозьнівацца ад сялянства, якое змагалася ў часе буржуазнае рэволюцыі на чале з лібэральнай буржуазіяй, якое атрымала зямлю з рук гэтае буржуазіі і якое стала ў зьвязку з гэтым рэзэрвам буржуазіі. Ці патрэбна даводзіць, што савецкае сялянства, якое прывыкла шанаваць політычнае сяброўства і політычнае супрацоўніцтва з пролетарыятам і вінна за сваю свабоду гэтаму сяброўству і гэтаму супрацоўніцтву, ня можа не складаць выключна спрыяючых матар'ялаў для *экономічнага* супрацоўніцтва з пролетарыятам".
>
> „Ленін,—гаворыць т. Сталін,—паказаў у артыкулах аб коопэрацыі, што разьвіцьцё сель кае гаспадаркі ў нас павінна ісьці па новаму шляху, па шляху ўцягненьня большасьці сялян у соцыялістычнае будаўніцтва праз коопэрацыю, па шляху паступовага ўнядрэньня ў сельскую гаспадарку пачатку колектывізму перш *у галіне збыту, а потым у галіне вытворчасьці продуктаў сельскае гаспадаркі*" (падкрэсьлена мною—*Ц. П.*).
>
> „Ці патрэбна даводзіць, што значная колькасьць сялян з ахвотаю стане на гэты новы шлях разьвіцьця, адкіне прэч шлях прыватна-капіталістычных латыфундый і наёмнага рабства, шлях нішчаньня і разбурэньня" (Сталін, „Вопросы ленинизма", выд. 1929 г., ст. 57—58).

Гэта бязумоўна яскрава адпавядае жыцьцю, і зусім ня маюць рацыі троцкістыя і правыя опортуністыя, якія ня хочуць ці ня могуць убачыць на практыцы, як ленінскі коопэрацыйны плян ажыцьцяўляецца, як мільёны батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства яго ўсьвядомілі і самі яго выконваюць і праводзяць у жыцьцё.

Паглядзімо, як у нашых беларускіх умовах можа ажыцьцяўляцца коопэрацыйны плян Леніна, а ён ужо з посьпехам ажыцьцяўляецца, як праз коопэрацыю збыту, так праз коопэрацыю таваразвароту, пры дапамозе контрактацыі, якая, на вялікі жаль, у БССР разьвіваецца слаба, даходзячы ад коопэрацыі паасобных галін сельска-гаспадарчае вытворчасьці да суцэльнае колектывізацыі.

Возьмем, напрыклад, лён, адну з найгалоўных тэхнічных культур Беларусі, калі прасачым разьвіцьцё гэтае культуры пры дапамозе коопэрацыі, дык убачым мэтазгоднасьць і вялізарнейшую эфэктыўнасьць яе пры колектывізацыі.

У кожнага бедняка і серадняка, які культывіруе лён, асноўная мэта—з найменшай затратай працы атрымаць найлепшую эфэктыўнасьць, найрацыянальней затраціць працу, найбольш атрымаць прыбытку. Паасобныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі шмат трацяць у паасобку працы, а прыбытку маюць мала. Такое становішча раздробленых паасобных гаспадарак.

Збытавая коопэрацыя, якая зацікаўлена ў павялічэньні вытворчасьці мануфактурных тавараў для задавальненьня патрэб сваіх членаў, добра разаўе контрактацыю, калі растлумачыць, як сьлед, гэтае пытаньне

бядняцка-серадняцкім масам, заключаючы з імі ўмовы на іх ільняную продукцыю. Ва ўмовах збытавая коопэрацыя патрабуе ад сялян добрае апрацоўкі зямлі, своечасовага засеву, уборкі ільну і г. д., а з свайго боку, у той-жа ўмове, збытавая коопэрацыя для ўсяе бядняцка-серадняцкае масы абавязуецца (і ажыцьцяўляе) даць лепшае насеньне, даць у крэдыт с.-г. прылады, штучнае ўгнаеньне, аградапамогу, машыны для першапачатковай апрацоўкі ільну, абавязуецца і дае складаныя с.-г. машыны, трактары і г. д. Самастойна ўсяго гэтага бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ня могуць набыць і зрабіць. А ўсё гэта на шмат павялічвае ўраджайнасьць палёў, паляпшае якасьць продукцыі, павялічвае ў некалькі разоў экономічную эфэктыўнасьць гаспадаркі, павялічвае прыбытак і разам з гэтым, дзякуючы ўжываньню машын, палягчаецца праца.

Усё гэта ў сваю чаргу паляпшае экономічна-культурныя і бытавыя ўмовы бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

Пры такіх умовах бядняцка-серадняцкія масы сялянства разумеюць немэтазгоднасьць працаваць на вузкай паласе, апрацоўваць яе драўлянай бараной і плугам, яны аб'ядналюць свае палоскі, яны бачаць, што на абагуленай плошчы можна ўжыць складаныя с.-г. машыны, што на абагуленай плошчы рацыянальна скарыстоўваецца праца, палягчаецца праца і атрымліваецца шмат лепшы эфэкт ураджайнасьці.

Аб'яднаўшы адну галіну сельска-гаспадарчае вытворчасьці, пры дапамозе таваразваротнае коопэрацыі, бядняцка-серадняцкія масы сялян прыступаюць да абагуленьня і другіх галін с. г. вытворчасьці.

За ільном можа пайсьці жывёлагадоўля, якая ў беларускіх умовах мае вялікае значэньне і заслугоўвае вялікае ўвагі. Разам з жывёлагадоўляй у некаторых раёнах і малочная вытворчасьць.

Таваразваротная коопэрацыя зацікаўлена ў здавальненьні сваіх членаў—пайнікаў мяснымі і малочнымі продуктамі ў належнай колькасьці і належнай якасьці.

Бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія маюць магчымасьць весьці гаспадарку з жывёлагадоўчым ухілам ці ў малочным напрамку, таксама зацікаўлены атрымаць больш прыбытку, зацікаўлены натуральна больш атрымаць за сваю працу, рацыянальней яе прымяніць.

Таваразваротная коопэрацыя праз контрактацыю дае бядняцка-серадняцкім гаспадаркам лепшы завод жывёлы прыстасоўча да напрамку гаспадаркі—мясное ці малочнае; організуе злучныя пункты, дае насеньне кармавых траў, складаныя машыны для апрацоўкі зямлі і першапачатковай апрацоўкі малака, дае крэдыт на пабудову сіласовень, дае зоотэхніка, вэтэрынарнага доктара. Таваразваротная коопэрацыя будуе заводы па пераапрацоўцы жывёлагадоўчых і малочных продуктаў на гэтых заводах, скарыстоўваецца, якая ёсьць на вёсцы, вольная рабочая сіла.

Бязумоўна, гэта дае шмат лепшай якасьці і шмат большай колькасьці продукцыі і бядняцка-серадняцкія масы гэта разумеюць; яны самі прыступаюць да абагуленьня пашы, агульна гадуюць маладняк, агульна кормяць жывёлу на мяса, агульна дастаўляюць малако ў належнае месца, а гэта выклікае абагуленьне транспарту, стойлаў, якія будуюцца пад наглядам зоотэхніка, якія павінны адпавядаць належным навуковым патрэбам.

Агульныя хлявы, аборы будуць будавацца не каля хаты ў вёсцы, а на полі, з-пад хатняга ганку разам з аборай у поле пойдзе бруд, пыл, гной, пах і г. д., гэта ў лепшы бок адаб'ецца на бытавых умовах, на санітарыі і на здароўі вёскі, зьменшыцца ў вёсцы распаўсюджаньне соцыяльных хвароб.

Дакладна давесьці гэта бядняцка-серадняцкім масам, паказаць на практыцы і яны ахвотна пойдуць на коопэраваньне жывёлы, а потым і другіх галін свае гаспадаркі.

Бядняцка-серадняцкія масы пераконваюцца ў немэтазгоднасьці рабіць пашу на сваёй паласе, сеяць кармавыя травы на сваёй паласе, сеяць пад драўляны плуг і барану. Яны абагульваюць зямлю, абагульваюць сродкі вытворчасьці. На абагуленай зямлі лепш прымяняюцца складаныя с.-г. машыны, можна прымяніць трактар. Усё гэта шмат больш дае прыбытку і з ужываньнем машын палягчае працу.

Асноўная маса сялян гэта разумее і паступова праз таваразваротную коопэрацыю, праз спажывецкую, праз контрактацыю коопэруюць адну за другою галіны с. г. вытворчасьці, даходзяць, і ў вялікай колькасьці праводзяць суцэльную колектывізацыю.

Так ажыцьцяўляецца коопэрацыйны плян Леніна, які вядзе да суцэльнае колектывізацыі, да ліквідацыі, кулака як клясы, да пабудовы соцыялізму.

У БССР вялікая колькасьць бядняцка-серадняцкіх мас сялянства зразумела, да чаго вядзе коопэратыўны плян Леніна, зразумела яго каштоўнасьць і выгоднасьць для сябе, для грамадзтва.

„Па сутнасьці кажучы,—піша Ленін у артыкуле аб коопэрацыі,—коопэравацьу дастатковай ступені шырока і глыбока расійскае насельніцтва пры панаваньні НЭПу—ёсьць усё, што нам патрэбна, таму што цяпер мы знайшлі тую ступень аб'яднаньня прыватнага інтарэсу, прыватнага гандлёвага інтарэсу, праверкі і кантролю яго дзяржавай, ступень падпарадкаваньня яго агульным інтарэсам, якія раней служылі каменем спатыканьня для шмат якіх соцыялістых. Сапраўды, улада дзяржавы на ўсе буйныя сродкі вытворчасьці, улада дзяржавы ў руках пролетарыяту, саюз гэтага пролетарыяту з многімі мільёнамі дробных і драбнюткіх сялян, забесьпячэньне кіраўніцтва за *гэтым пролетарыятам* у адносінах да сялянства і г. д.,—хіба гэта ня ўсё, што патрэбна для таго, каб з коопэрацыі, з аднэй толькі коопэрацыі, якую мы раней трэтыравалі, як гандлярскую і якую з пэўнага боку маем права трэтыраваць цяпер пры НЭП'е таксама, хіба гэта ня ўсё неабходнае для пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадзтва“ (Ленін, т. XVIII, ч. II, стар. 139—140).

---

А. Курцік

# За бальшавіцкую якасьць нашага друку*)

Жыцьцё шагае ўперад сямімільнымі крокамі.

Напружанае соцыялістычнае будаўніцтва, рашучае выкарчоўваньне карэньняў капіталізму, абвастрэньне клясавае барацьбы, што выклікаецца супраціўленьнем капіталістычных элемэнтаў нашаму наступу, выкананьне гістарычнае задачы ліквідацыі кулацтва як клясы, на глебе суцэльнае колектывізацыі, барацьба за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады,—усё гэта разам узятае насычае нябывалай дынамікай нашыя тэмпы.

Партыя на сваіх зьездах узважыць і ацэніць пройдзены за апошнія два гады этап соцыялістычнага будаўніцтва, этап насычанае вопытам напружанага змаганьня і мобілізацыі працоўных мас вакол барацьбы за генэральную лінію партыі, і ў гэтай напружанай барацьбе за соцыялістычнае будаўніцтва вялікае месца належыць партыйна-савецкаму друку, які, гаворачы словамі тав. Сталіна, мае вялізарнейшае значэньне, бо „...іншых сродкаў працягнуць духоўныя ніткі паміж партыяй і клясай, другога такога гібкага апарату ў прыродзе ня існуе“.

Мы нядаўна—5-га мая сьвяткавалі дзень бальшавіцкага друку.

Гэта было сьвята будняў, сьвята ня толькі падвядзеньня вынікаў, але і вызначэньня далейшае барацьбы за генэральную лінію партыі, за перамогу пролетарскае рэволюцыі ва ўсім сьвеце.

Успамянуўшы аб 5-ым мая—баявым сьвяту баявога бальшавіцкага друку, трэба застанавіцца на ролі таго, хто быў першым „хрэсным“ пролетарскага друку, яго організатарам і кіраўнікам, на ролі Уладзімера Ільліча Леніна.

На тэму „Ленін і друк“ напісана шмат артыкулаў, але, чытаючы яшчэ і яшчэ раз радкі ленінскіх твораў, чытаючы матар‘ялы, якія характарызуюць ролю Ільліча ў разьвіцьці бальшавіцкага друку часта знаходзіш новыя тонкія рыскі, новыя асобныя фармуліроўкі, якія яшчэ з большай выразнасьцю вырысоўваюць твар Леніна—аснова-закладцы бальшавіцкага друку, яго першага організатара і кіраўніка.

Кожны ленінскі радок аб задачах друку, аб яго ролі і мэтадах, яго работы, дыхае глыбейшай верай у творчыя сілы рабочае клясы, у неабходнасьць яшчэ мацней, яшчэ неразрыўней зьвязаць друк з рабочай масай, рабіць газэту рукамі рабочых мас.

Характэрны выпадак апісвае т. Рэгінін у сваіх успамінах аб рабоце Леніна ў газэце „Новае Жыцьцё“**).

---

*) У падставу гэтага агляду ўзяты асобныя артыкулы, якія ў свой час друкаваліся ў газэце „Зьвязда“, таксама ўзят даклад, зроблены на першай усебеларускай нарадзе рэдакцыйных калегій фабрычна-завадзкіх друкаваных газэт.

**) Прыводзім па зборніку т. Філова „Ленин и печать“ („Прибой“—1924 год).

— *Таварышы,*—піша Рэгінін аб словах Ільліча, якія належалі да бліжэйшых супрацоўнікаў газэты, якія знаходзіліся ў друкарні, *дрэнна ў нас пастаўлены рабочы аддзел, дзе галасы з фабрык і заводаў? Чаму ў хроніцы так мала месца аддаецца інтарэсам мас? Трэба падцягнуць і падсьцёбнуць раённых работнікаў. А ўвесь гэты хлам,*— паказаў Ільліч на кучу гранак з допісамі профэсыянальных рапарцёраў—*толькі баласт для газэты, сьмяцьцё*".

У тыя далёкія часы, калі толькі зараджалася, афармлялася партыя, знаходзіліся таварышы, якія недаацэньвалі палітычнага і організуючага значэньня газэты.

І надзвычайна—характэрна, якое вялізарнае, рашаючае значэньне ўжо ў той час Ільліч аддаваў газэце:

„...*Пастаноўка агульна-рускай палітычнай газэты, гаварылася ў „Іскры"—павінна быць асноўнай ніткаю, трымаючыся за якую мы маглі-б няўхільна разьвіваць, паглыбляць і пашыраць гэтую організацыю (г. зн. рэволюцыйную організацыю, заўсёды гатовую да падтрыманьня ўсялякага протэсту, усялякай успышкі). Скажэце, калі ласка, калі каменшчыкі кладуць у розных мясцох каменьні вялізарнай і сучаснай нябачнай будоўлі—ці не „папяровая" гэта справа правядзеньне ніткі, што дапамагае знаходзіць правільнае месца для кладкі, якая паказвае канчатковую мэту агульнае працы, якая дае магчымасьць пусьціць у ход ня толькі кожны камень, але і кожны кавалак каменя, які з папярэднімі і наступнымі выводзіць закончаную і ўсеабдымную лінію. І няўжо мы не перажываем якраз такога моманту, у нашым партыйным жыцьці, калі ў нас ёсьць і каменьне і каменшчыкі, а не хапае менавіта бачнай для ўсіх ніткі, за якую ўсе маглі-б узяцца*". (З брошуры т. Леніна „Что делать").

Словы Леніна аб друку, як ня толькі аб колектыўным пропагандысту, але і колектыўным організатары—цяпер баявы сьцяг нашага друку, яе вядучы пачатак.

Якой вялізарнейшай празірклівасьцю цяпер, у 1930 годзе, здаюцца словы Ільліча, сказаныя ім шмат год таму назад, калі, зразумела, не магло быць і думкі аб магчымасьці організацыі такой магутнай, шырока разьветленнай сеткі рабселькораў, якая існуе ў нас цяпер і з асяродзьдзя якое высоўваюцца сотні і тысячы новых організатараў і кіраўнікоў социялістычнага будаўніцтва.

„...*І калі мы злучым свае сілы на выпуск агульнае газэты, дык такая работа падрыхтуе і высуне ня толькі ўмелых пропагандыстых, але і больш умелых організатараў, але і найбольш таленавітых палітычных правадыроў партыі, якія могуць у патрэбную хвіліну даць лёзунг да рашучага бою і кіраваць ім*". („Что делать").

„...*Газэта стала часткаю вялікага кавальскага меху, які раздмухвае кожную іскру клясавае барацьбы і народнага абурэньня ў агульны пажар.. Па рыштаваньнях, ці падмостках гэтай агульнай організацыйнай будоўлі хутка падняліся і высунуліся-б з нашых рэволюцыянэраў соцыял-дэмократычныя Жэлябавы, з нашых рабочых—рускія Бебелі*"... („Что делать").

І ў шэрагу сваіх артыкулаў і лістоў Уладзімер Ільліч Ленін з асаблівай увагай, настойлівасьцю падкрэсьлівае думку аб неабходнасьціператварыць наш друк у сапраўды масавага організатара і пропагандыстага.

У сваім лісьце „Да таварышоў", які быў напісаны 12 сьнежня 1904 г., напярэдадні выхаду газэты „Вперед" т. Ленін пісаў:

„...*Няхай усякі, хто лічыць гэты орган сваім і хто будзе ведаць абавязкі членаў соцыял-дэмократычнае партыі, адмовіцца раз наза-*

*ўсёды ад буржуазнай прывычкі думаць і дзейнічаць так, як гэта прынята ў адносіне да легальных газэт: моў іх справа напісаць, а нашая прачытаць*".

„...*Зразумела, не ва ўсякага ёсьць уменьне і ахвота пісаць, але.. не кажы не магу, а кажы не хачу.*

*Заўсёды, калі захочаце, у гуртку, у кожнай нават драбнейшай, нават другараднай групе (другарадныя часта асабліва цікавы, бо яны калі-ні калі робяць найбольш важную, хоць і нябачную частку справы) можна знайсьці аднаго-двух таварышоў, якія маглі-б пісаць, знайсьці аднаго-двух—гэта значыць організаваць сетку рабкораў*".

Тав. Ленін яшчэ у тыя даўнія гады, калі першыя ніткі рабкораўскай сеткі толькі-толькі завязваліся, ужо тады з усёй настойлівасьцю папярэджваў аб небясьпецы аказёніць, засушыць рабкораўскі рух.

„..*Асабліва перасьцярагаць жадалі-б мы нашых таварышоў ад прыёму концэнтрацыі перапіскі толькі ў камітэце і толькі ў сакратароў. Няма нічога шкадней такой монаполіі. Наколькі абавязковага адзінства дзейнічаньня ў рашэньні, нагэтулькі яно недарэчна ў агульным інформаваньні, у перапісцы. Вельмі і вельмі часта бывае, што асабліва цікавыя лісты параўнача староньніх (і далёкіх ад камітэту) людзей больш сьвежа ўспрыймаюць шмат такога, што выпускаецца з увагі вопытнымі старымі работнікамі*" (з „Ліста да таварышоў").

З багацейшага арсэналу ленінскіх думак аб пралетарскім друку і яго задачах мы прывялі толькі асобныя вытрымкі.

Але і гэтыя асобныя вытрымкі пераканаўча і яскрава гавораць аб тым, якія павышаныя *Ленінскія* патрабаваньні наша партыя мае рацыю прад'явіць і прад'яўляе ўсяму партыйна-савецкаму друку.

Мы ніжэй пастараемся на прыкладах будзённай работы партыйна-савецкага друку Беларусі, на конкрэтных фактах сёньняшняга дню, паказаць твар нашых газэт. Гэтая нататка не прэтэндуе на вычарпальны агляд усяго таго, сапраўды гіганцкага шляху, які наш друк, сумесна з усёй партыяй, пад яе кіраўніцтвам, прарабіў. Гэтая нататка—афармленьне пасьпешных запісаў з запісной кніжкі партыйнага работніка, які ў сваёй рабоце шчыльна сутыкаецца з пытаньнямі друку.

* * *

Партыйна-савецкі друк Беларусі мае шэраг бясспрэчных дасягненьняў. Газэты, на чале з ЦО КП(б)Б газэты „Зьвязда" правялі і праводзяць пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б рашучае змаганьне з правым ухілам, як найбольш небясьпечным на даным этапе, з „левымі" заскокамі, з скажэньнямі лініі партыі ў колгасным будаўніцтве з нацыянал-опортунізмам, беларускім нацыянал-дэмократызмам, з шовінізмам усіх колераў. Газэта „Зьвязда" з сапраўдным бальшавіцкім агеньчыкам організавала і правяла генэральную праверку падрыхтоўкі Беларусі да пасеўнай кампаніі.

У Менску ў дорэволюцыйны час, у Менску, які меў адну-дзьве жоўтых газэткі, цяпер выдаецца дзесяць цэнтральных газэт, з якіх палова штодзённыя і пяць газэт выдаецца ў акругах Беларусі. Агульны разавы тыраж усіх газэт, разам узятых, складае 550 тысяч экзэмпляраў, а гадавы тыраж складае 88 мільёнаў экзэмпляраў.

Такая, прыблізна шырокая разгалінавая сетка газэт на мовах асноўных нацыянальнасьцяй Беларусі, значная колькасьць рабселькораў,—адна з найбольш моцных зброй ЦК КП(б)Б ў справе мобілізацыі працоўных мас у барацьбе за генэральную лінію партыі.

# I. Друк у барацьбе за прамфінплян

## Перайсьці на вышэйшую ступень барацьбы за прамфінплян

За першыя пяць месяцаў бягучага гаспадарчага году прамысловасьць Беларусі недавыканала прамфінплян на 7,4 проц.

Гэтая лічба, плюс 5 проц. недавыкананьня за апошнія чатыры месяцы прамысловасьцю зьніжэньня сабекошту — вось той мінус, які неабходна паставіць і ўсяму, бяз выключэньня, друку Беларусі.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б у сваім лісьце, разасланым больш месяца таму назад усім рэдакцыям газэт і фракцыям гаспадарчых і профсаюзных організацый, выразна напісаў, што ўвесь наш друк, кожная газэта паасобку нясе *адказнасьць* ня толькі за *асьвятленьне* на старонках самой газэты пытаньняў прамфінпляну, але нясе адказнасьць разам з усім „трохкутнікам“ пролетарская грамадзкасьць тых ці іншых прадпрыемстваў вакол справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну.

Шэраг прадпрыемстваў, якія далі прарывы ў выкананьні прамфінпляну, цяпер прымацаваны ЦК КП(б)Б да пэўных газэт. Газэты гэтыя сумесна з грамадзкасьцю прадпрыемства павінны весьці *змаганьне* за прамфінплян, адказваючы перад ЦК КП(б)Б за зрыў і недавыкананьне прамфінпляну.

Такі павышаны крытэры патрабаваньняў да друку рубам ставіць пытаньне аб неабходнасьці газэтам перайсьці на больш высокую ступень барацьбы за прамфінплян.

„Сучасны пэрыод нашага будаўніцтва характарызуецца тым, што мы ўступілі ў такую паласу, калі сапраўды „соцыялізм“ з галіны догмы, з галіны кніжкі і програмы перайшоў у галіну, якую ўтвараюць сваёю рукою рабочыя і сялянскія масы“ (Ленін).

Навочна паказаць гэтую соцыялістычную будоўлю, *кіраваць* гэтай будоўляй, мобілізоўваць навакол соцыялістычнага будаўніцтва, навакол партыі мільённыя масы будаўніцтва—асноўная задача друку.

Нашыя газэты аўладалі мэтадам узьдзейнічаньня па-ўдарнаму, крытыкай ужо выяўленых недахопаў вытворчасьці, але газэты часам дзейнічаюць урыўчата, няма давядзеньня да канца найбольш важных узьнятых пытаньняў. Нашаму друку не хапае больш-менш роўнага, з паступова ўзрастаючым напружаньнем, тэмпу, упартага і штодзённага змаганьня за прамфінплян, сігналізацыі, што папярэджвала-б магчымыя прарывы.

Гаворачы з усёй рэзкасьцю і паўнатой аб недахопах, неабходна адзначыць і тую сапраўды вялізарную работу, якую значная частка газэт Беларусі прарабіла ў справе барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну. Вось што піша ў сваім лісьце ў Сэктар Друку Культпропу ЦК КП(б)Б адна з лепшых у справе вядзеньня кампаніі за прамфінплян—газэта „Палеская Праўда“.

„У лютым 1930 году газэта „Палеская Праўда“ пачала організацыю брыгад рабкораў на прадпрыемствах.

Папярэднія вынікі ў справе стварэньня брыгад рабкораў наступныя:

1. Брыгады даюць газэце „Палеская Праўда“ найбольш каштоўны і актуальны матэрыял. Дзякуючы гэтаму рэдакцыя газэты за апошні час атрымала магчымасьць згрупаваць матэрыял па асобных пытаньнях (ударніцтва, вытворчыя нарады, якасьць продукцыі і г. д.).

2. Адносная вага гэтага матэрыялу значна вышэй індывідуальных допісаў; гэты матэрыял піша цэлая група рабкораў, папярэдня яго

абмеркаваўшы. Матэрыял гэты больш дзейсьніць, па ім хутчэй рэагуюць.

3. Аўторытэт рабкораў узрос, яны становяцца актыўнай сілай на прадпрыемстве (напрыклад, у брыгады па самаправерцы соц. умоў амаль усюды ўключаюцца таварышы з брыгад), альбо брыгадзе ў цалку даюцца на самым прадпрыемстве асобныя заданьні.

Мы маем магчымасьць праз брыгады ўзьдзейнічаць на значную масу рабкораў і іх продукцыю.

У сувязі з апошнімі дырэктывамі ЦК КП(б)Б аб прымацаваньні да нас групы прадпрыемстваў, за якія мы нясем адказнасьць, мы, кіруючыся парадай сэктару друку Культпропу ЦК КП(б)Б, стварылі ў канцы сакавіка спэцыяльныя брыгады нашай газэты, мобілізавалі праз АК групу актыўных рабкораў, зьняўшы іх на паўтара мясяцы з іншае работы. Ужо працуюць наступныя брыгады: на „Везувіі“, на „Дняпро“, на фабрыцы „Праца“, „Пролетары“, на „Рухавіку Рэволюцыі“, на заводзе імя Ланцуцкага, на „Колектыўнай Працы“.

Варта падкрэсьліць адну вельмі значную работу, якую праводзяць брыгады: яны рыхтуюць і праводзяць вечары рэагаваньня на прапановы рабочых і на допісы ў друкаваных і насьценных газэтах. У правядзеньне вечароў уцягваецца „трохкутнік“, тэхнічныя сілы, вытворчыя нарады і інш. Вечары выклікаюць вялікую зацікаўленасьць і даюць штуршок справе рэагаваньня на крытыку і прапановы рабочых.

Кожная брыгада „Палескай Праўды“ працуе, выходзячы з умоў свайго прадпрыемства. Брыгадам давялося працаваць ў час самаправеркі соцумоў. Усе яны дапамагалі організаваць дабрахвотныя брыгады навакол праверкі. Брыгада на „Везувіі“ сумесна з рэдколегіяй „Трускі“ выпусьціла пяць бюлетэняў аб ходзе праверкі. Пры чым, тыя асобныя недахопы, аб якіх пісалася ў бюлетэнях, выпраўляліся на хаду. Брыгадзір на „Сельмашу“ організаваў брыгады ўдарнікаў, паколькі іх на „Сельмашу“ зусім ня было.

Значную работу прарабілі брыгады ў справе ажыўленьня работы вытворчых нарад. На агульным фоне значнага паслабленьня работы вытворчых нарад за апошні час, мы ў нашых умовах, праз „Палескую Праўду“ і работай брыгады зрабілі штуршок у гэтай галіне. Так, на „Кол. працы“, нарада не працавала. Брыгадзір здолеў падхапіць асноўныя пытаньні вытворчасьці і высунуць іх перад вытворчай нарадай. Гэткімі пытаньнямі былі: а) аб рамонце заводу; да гэтага пытаньня прыцягнута ўвага ўсіх рабочых. Паступіла ў камісію звыш 100 прапаноў, з якіх 40 будуць выкарыстаны ў час рамонту, 22 пасьля рамонту; б) аб пераходзе на непарарыўкі; в) аб давядзеньні прамфінпляну да цэхаў. На сёньняшні дзень плян ужо даведзены. Актыўны ўдзел і дапамогу вытворчым нарадам падалі брыгады на „Пролетары“, „Дняпры“ і інш. Можна адзначыць, што нарады гэтых прадпрыемстваў цяпер ажывілі сваю работу.

Брыгада на „Пралетары“ ўдзельнічала актыўна ў рабоце тэхнічных нарад і актыўнымі захадамі дамагалася ўвязкі работы паміж цэхаў, прымала ўдзел у вырашэньні пытаньня аб абсталяваньні кацёльнага цэху, дамагалася зьмены двух майстроў і зьнішчэньня асобных фактаў безгаспадарчасьці. Рабкораўская брыгада на „Руху Рэволюцыі“ дамаглася ўцягненьня рабочых у абмеркаваньне пытаньня аб пэрспэктывах заводу. Брыгада на „Кол. Працы“ разам з фабзавкомам, праводзіла нарады тэхпэрсоналу па пытаньні зжыцьця тэхнічных замінак, аб якасьці продукцыі і аб рацыяналізацыі работы складу. Па пытаньнях адзінаначальля ўсімі брыгадамі праводзіліся гутаркі ў цэхах і сярод паасобных рабочых.

За гэты час, акрамя раней існуючых, узьніклі шэрагі новых брыгад, іх ужо цяпер да 30-ці. Брыгадам мы кожны тыдзень пасылаем спэцыяльныя лісткі, дзе завастраем іх увагу на найбольш важных пытаньнях. Удзельная вага гэтых брыгад на прадпрыемствах і на старонках „Палескай Праўды“ яшчэ больш узрасла. Характэрна адзначыць і тое, што дзейнасьць гэтых брыгад у ацэнцы гаспадарнікаў таксама вельмі станоўчая. Па матэрыялах брыгад, мы атрымоўваем значна менш абвяржэньняў, у параўнаньні з індывідуальнымі допісамі, пры чым дзейснасьць гэтых колектыўных допісаў значна большая.

За гэты час мы работу вытворчага савету (журы) пры рэдакцыі газэты цалкам увязалі з работай нашых брыгад.

Вытворчы савет заслухаў даклады аб наступных прадпрыемствах: завод „Пролетары“ (два разы), фабрыку „Везувій“, фабрыку „Комінтэрн“ і фабрыку цукерак. На гэтых прадпрыемствах заслухоўваліся даклады дырэктараў, партколектыву і фабкому і садаклады брыгады. Савет таксама заслухаў даклад аб рабоце рэдколегіі „Красное Шило“ і вынёс пастанову аб організацыі грамадзкага суду над ёю. Акрамя гэтага савет вынёс пастанову аб тым, каб высунуць на чале першамайскай дэмонстрацыі калёны рабочых тых прадпрыемстваў, якія аказаліся лепшымі ў барацьбе за прамфінплян.

Пасяджэньняў вытворчага савету за $1^{1}/_{2}$ месяцы было 5, большасьць пастаноў савету друкавалася ў газэтах (апошнія пастановы ў першамайскім нумары). Улічваючы значны зрух у выкананьні пляну, вытворчы савет зьняў два цэхі фабрыкі „Везувій“ з „чорнай дошкі“ і занёс асобныя групы лепшых ударнікаў на „Чырвоную дошку“. Гэтую пастанову сустрэлі з вялікім энтузіязмам. „Чорная“ і „Чырвоная“ дошкі сталі сьцягам, навакол якога разгортваецца барацьба за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну па асобных прадпрыемствах. Гэта бясспрэчны факт у нашых умовах. Разам з тым мы лічым нашу работу ў напрамку прыцягненьня тэхнічных сіл яшчэ зусім недастатковай.

Характэрна, што нават работа аднэй з найлепшых нашых газэт „Палескай Праўды“, на дасягненьнях якое мы вышэй так падрабязна застанавіліся, і то ня можа лічыцца зусім здавальняючай.

Вось што кажуць гомельскія ўдарнікі аб недахопах газэты „Палеская Праўда“ ў справе барацьбы за прамфінплян:

— *Тав. Пракудзін, з брыгады ліцейшчыкаў (завод „Рух Рэволюцыі“)*: — сталых конкрэтных указаньняў, мы, ударнікі, у сваёй рабоце ад „Палескай Праўды“ не атрымалі. Фактычнага кіраўніцтва ўдарніцтвам у барацьбе за прамфінплян з боку газэты не адчуваецца. Вельмі часта „Палеская Праўда“ затрымлівае, альбо зусім не прапушчае надзвычайна важныя допісы.

*Тав. Шыльман, ударнік-сьлесар („Рух Рэволюцыі“)*: — Факт марынаваньня допісаў трэба адзначыць раней за ўсё. На „Сельмашы“, напрыклад, цэлы цэх вымушаны карыстацца адным комплектам інструмантаў. Корэспондэнцыі аб гэтым пасылаліся некалькі разоў, але лёс іх нікому невядомы. Часта брыгады „Палескай Праўды“ не дасягаюць свае мэты. Напрыклад, ізноў выпадак з „Сельмашам“, дзе брыгада конкрэтна гэтак нічога ня высьвятліла.

*Тав. Сямёнаў, ударнік-токар (Рух Рэволюцыі“)*: — Пасьля зьмяшчэньня нататкі „Палеская Праўда“ ня цікавіцца сьледзтвам яе і вельмі часта ўдары газэты выходзяць халастымі. Трэба адзначыць, што сыгналізацыя аб прарывах, амаль заўсёды бывае сваячасовай, але часта абмяжоўваецца агульнымі фразамі.

*Тав. Малейка, з брыгады дрэваапрацоўшчыкаў*: — Завод „Соцыялізм“ ня выконвае абавязацельстваў па забесьпячэньню нас патрэбнай дра-

вясінай. Рабкоры сваячасова пісалі аб гэтым, але газэта змазала пытаньне і агіднасьці цягнуцца. Барацьба за прамфінплян на ўсіх прадпрыемствах Гомеля ў „Палескай Праўдзе" асьвятляюцца не рэгулярна. Звычайна пішуць толькі аб прарывах. Дзякуючы гэтаму, мы, ударнікі, працуем, ня ведаючы агульнага становішча на фронце. Патрабуем больш частых рэгулярных сводак выкананьня прамфінпляну літаральна на ўсіх Гомельскіх прадпрыемствах.

*Тав. Фурман, арматуршчыца, член комуны „Пролетарыя":*—Становішчу на нашым заводзе „Палеская Праўда" прызначала шмат месца. Аднак. вельмі часта па допісах ня было ніякіх палепшаньняў, зрухаў, і допісы гэтак і прападалі бясьсьледна. Практычнага кіраўніцтва, мы, як ударнікі, ад газэты не атрымоўваем.

*Тав. Лісковіч, комуністычны кацёльны цэх „Пролетарыя":*—Кіруючых матэрыялаў, мы, як ударнікі, ад „Палескай Праўды" маем мала. Ход работы на рэшце прадпрыемстваў асьвятляецца нерэгулярна. У нас у цэху выкрыўся недахоп матэрыялаў і толькі, дзякуючы гэроічным намаганьням рабочых, цэх уникнуў прарыву. Аб гэтай выключнай, па сваіх выніках, рабоце ўдарнікаў „Палеская Праўда" не сказала нічога і рабочыя іншых прадпрыемстваў ня ведаюць".

Гэта праўда некалькі суровая і некалькі згушчаная характарыстыка недахопаў газэты „Палеская Пааўда", з асаблівай настойлівасьцю, з асаблівай выразнасьцю гаворыць аб тым, што наш друк павінен перайсьці на больш высокую ступень штодзеннай барацьбы за прамфінплян. Нам трэба браць упірышча на перавыкананьне прамфінпляну, на перакрыцьце розных об'ектыўных фактараў і „вузкіх месц" (на якія ў нас гэтак любяць спасылацца), на адшуканьне ўнутраных рэсурсаў прадпрыемства з тым, каб забясьпечыць выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Асноўнымі паказальнікамі, якія вызначаюць занясеньне на адну з дошак, зьяўляюцца: якасныя паказальнікі выкананьня прамфінпляну, процант выкананьня програм, зьніжэньне сабекошту, давядзеньне прамфінпляну да цэху і рабочага, ажыцьцяўленьне адзінаначальля і г. д. Прычым, паказальнікі бяруцца не ў паасобку, а ў агульнай суме. Побач з занясеньнем прадпрыемстваў у цэлым на тую ці іншую дошку, асобныя газэты практыкуюць, прыстасоўваючыся да конкрэтных абставін кожнага ў паасобку выпадку, дыфэрэнцыяцыю пры занясеньні на дошку (прадпрыемства ўцалку на чорную дошку, а асобныя, якія добра працуюць, цэхі на чырвоную і г. д.).

Цэнтральны Комітэт КП(б)Б у сваіх апошніх рашэньнях запісаў, што друк нясе адказнасьць ня толькі за *асьвятленьне* барацьбы за прамфінплян, але і за мобілізацыю грамадзкасьці конкрэтных прадпрыемстваў вакол справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну.

„Наш друк, разам з усім „трохкутнікам" прадпрыемстваў, нясе адказнасьць ня толькі за асьвятленьне ў газэтах пытаньняў, зьвязаных з прамфінпланам, але і за канкрэтныя вынікі па мобілізацыі пролетарскае грамадзкасьці пэўных прадпрыемстваў вакол справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну" (з рэзолюцыі Пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу ВСНГ БССР аб выкананьні прамфінпляну).

Для забесьпячэньня больш дзелавой эфэктыўнасьці ўдзелу друку ў барацьбе за прамфінплян, ЦК КП(б)Б прымацаваў да кожнае з цэнтральных і акруговых газэт конкрэтную групу прадпрыемстваў, на кожным з якіх маюцца прарывы ў выкананьні прамфінпляну. У задачы газэт пастаўлена:

— Не спыняючы асьвятленьня пытаньняў барацьбы за прамфінплян ва ўсёй прамысловасьці Беларусі, рабіць штодзеннае *ўпірышча* на прымацаваныя прадпрыемствы.

Згуртоўваючы асаблівую ўвагу на гэтых прымацаваннных прадпрыемствах, газэты абавязаны, мабілізуючы ўсю грамадзкасьць, дамагчыся рэзкага пералому ў выкананьні і перавыкананьні прамфінпляну на гэтых прадпрыемствах. Цэнтральны Комітэт КП(б)Б папярэдзіў, што ўдзел газэт у барацьбе за прамфінплян будзе расценьвацца ня толькі па размаху асьвятленьня гэтага пытаньня на старонках газэты, але, пераважна, і па тых конкрэтных якасных і колькасных паказальніках, якія дадуць у выкананьні і перавыкананьні прамфінпляну прымацаваныя да газэт прадпрыемствы.

Недахопаў ў нашых газэт у справе арганізацыі барацьбы за прамфінплян—багата.

Газэты да гэтага часу ня ўключылі ў свой кругагляд і крытычны абстрэл кіруючыя зьвеньні социялістычнага спаборніцтва—вытворчыя нарады і камісіі. У матэрыялах газэт на правох тарычэлевай пустаты вісіць пытаньне аб кіраўніцтве ўдарнікамі. Тымчасам гэта пытаньне— аб кіраўніцтве ўдарнікамі—адно з асноўных, рашаючых і цэнтральных пытаньняў організацыі працы на вытворчасьці.

У газэтах замоўчваюцца пытаньні тэхнікі, разумеючы пад гэтым ня тэхнічную базу вытворчасьці, як рэконструкцыю, а тэхнічнае ўзбраеньне і пераўзбраеньне рабочых мас у сувязі з рэконструкцыяй прамысловасьці і ажыцьцяўленьнем социялістычнай рацыяналізацыі.

Газэты пакуль што шмат гавораць аб перабудове работы профсаюзаў „тварам да вытворчасьці“, але няма паказу, як трэба перабудавацца, новыя мэтоды выяўляюцца няўпэўнена, не даюцца станоўчыя прыклады.

Якая з нашых газэт па-сапраўднаму, *глыбока* і *ўпарта* праводзіць кампанію за ўпарадкаваньне кіраўніцтва вытворчасьцю і ўстанаўленьне адзіначальля? Якая з нашых газэт *умела* выкарыстаць мэтод чырвоных і чорных дошак, рэкомэндаваны ў адозьве ЦК УсеКП(б) ад 26 студзеня і падрабязна распрацаваны ў спэцыяльным лісьце ЦК КП(б)Б?

Друк Беларусі, за малым выключэньнем, дрэнна і няўмела выкарыстоўвае рэкомэндаваны яшчэ 12 год таму назад тав. *Леніным* мэтод зьмяшчэньня ў газэтах чырвоных і чорных дошак, як аднэй з дзейных форм організацыі барацьбы за прамфінплян.

> „Чорная дошка адсталых фабрык, пасьля нацыяналізацыі, якія засталіся ўзорамі разброду, распаду, бруду, хуліганства, дармаедзтва,—дзе яна. Яе няма. А такія фабрыкі ёсьць. Мы ня ўмеем выконваць свае справы, не вядучы вайны супроць гэтых захавальнікаў традыцый капіталізму. Мы не комуністыя, а трапачнікі, пакуль мы моўчкі церпім такія фабрыкі. Мы ня ўмеем весьці клясавае барацьбы ў газэтах, так, як яе вяла буржуазія. Прыпомнеце, як добра травіла яна ў прэсе сваіх клясавых ворагаў, як зьдзеквалася над імі, як рамізіла іх, як зжывала іх са сьвету. А мы. Хіба клясавая барацьба ў эпоху пераходу ад капіталізму да социялізму не састаіць у тым, каб ахоўваць інтарэсы рабочае клясы ад гэтых жменек, груп, пластоў рабочых, якія ўпарта трымаліся традыцый, прывычак капіталізму і не пакідаюць глядзець на Савецкую дзяржаву па-ранейшаму: „Даць ёй“ работы паменш, і горш,—садраць з „яе грошай пабольш“. Хіба мала такіх мярзаўцаў хоць-бы і сярод наборшчыкаў савецкіх друкарань, сярод

сормаўскіх і пуцілаўскіх рабочых і г. д. Колькі з іх мы зславілі, колькі выкрылі, колькі прыгвазьдзілі да ганебнага слупа" (Ленін,— „Об характере наших газет"—„Правда" ад 18 верасьня 1918 г.).

Роля чырвоных і чорных дошак ні ў якім выпадку не павінна зводзіцца толькі да фіксацыі лічбовых дасягненьняў, альбо недахопаў таго ці іншага прадпрыемства.

Асноўная задача газэт не прытупляючы вельмі частым занясеньнем прадпрыемстваў на тую ці іншую дошку вострасьці выхаваўчага значэньня гэтае формы вытворчага выхаваньня, здолець разгарнуць вакол чырвоных і чорных дошак, большую, штодзённую, арганізацыйна-выхаваўчую работу, праяўляючы ініцыятыву ў ужываньні форм гэтае работы, масавасьці і дзелавой эфэктыўнасьці гэтых мерапрыемстваў.

Побач з дошкамі, якія павінны зьмяшчацца параўнаўча рэдка, неабходна завесьці сталы аддзел *кандыдатаў* на чорную дошку.

Заносячы тое ці іншае прадпрыемства на чорную дошку, газэта ў радзе наступных сваіх нумароў, павінна арганізаваць плянамерную барацьбу, шляхам мобілізацыі ўсяе грамадзкасьці пэўнага заводу, за зьняцьце заводу з чорнае дошкі.

Газэтам належыць практыкаваць пасылку рабочых брыгад з прадпрыемстваў, занесеных на чырвоную дошку, у дапамогу аднатыпным заводам, але якія папалі на чорную дошку.

Культпроп ЦК КП(б)Б у сваім падрабязным лісьце аб чорных і чырвоных дошках, разасланым рэдакцыям усіх газэт, раіць у дзень занясеньня таго ці іншага прадпрыемства на чорную дошку, практыкаваць арганізацыю на гэтых прадпрыемствах лятучых мітынгаў рабочых, прысьвечаных пытаньню арганізацыі сумеснай барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну і тым самым за зьняцьце прадпрыемства з чорнае дошкі. Газэтам таксама рэкомэндована практыкаваць на сваіх старонках мітынгі-пераклічкі паміж аднатыпнымі прадпрыемствамі аднэй і той самай галіны прамысловасьці.

Вышэйпералічаныя пытаньні, якія ў газэтах амаль ня ставіліся і як масавыя мерапрыемствы, газэтамі не праводзіліся, зьяўляюцца, разам з іншымі пытаньнямі, нутром, цэнтрам барацьбы за прамфінплян.

З гэтага шэрагу пытаньняў, якім цэнтральныя і акруговыя газэты Беларусі пакуль што прызначаюць мала ўвагі, вывад адзін—нашым газэтам мала займацца з нумару ў нумар „алілуем" у гонар прамфінпляну, трэба ўмець арганізоўваць барацьбу за прамфінплян.

## Умець выбіраць асноўнае зьвяно

Тав. Молатаў у адным з сваіх выступленьняў сказаў: „Пасеўная кампанія гэта асёлак, на якім усё наточваецца, разьмяжоўваецца і паказвае сваю жыцьцёвасьць". Наш друк дружна і напорыста вядзе барацьбу за бальшавіцкую пасеўную кампанію. Але ў большасьці газэт няма на фоне агульных задач, якія стаяць перад друкам у сувязі з пасеўнай кампаніяй таго, каб выбіраць такі стрыжань, такое зьвяно, якое зьявілася-б найбольш характэрным для данай конкрэтнай газэты, і разам з тым зьяўлялася-б органічнай часткаю агульнаю барацьбы за бальшавіцкую пасеўную кампанію. Ці можа быць лепшая характарыстыка для газэты, як тое, што мясцовыя нізавыя работнікі гавораць, напрыклад, наступнае: „Цяжка цяпер без „Зьвязды" ў пасеўную кампанію працаваць" (са слоў сакратара Дрысенскага РК КП(б)Б).

Газэты, як „Рабочий", „Віцебскі Пролетары", „Палеская Праўда", шмат пішуць аб пасеўнай кампаніі, але пішуць „наогул", ня робячы,

напрыклад, упірышча на прадпрыемствы, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку, на работу профсаюзаў па пасеўную кампанію, на работу рабочых зьвязаных з вёскай і г. д.

Опэратыўны мэтод работы газэт гэта ня толькі зьмяшчэньне опэратыўных зводак „з пасеўнага фронту", альбо з „фронту індустрыялізацыі". Опэратыўны мэтод работы—гэта ўменьне ўхапіцца за галоўнае, кіруючае зьвяно і пераключыць зьмест газэты, пераключыць работнікаў газэты на мэтаімкненнае вырашэньне гэтага стрыжнявога пытаньня. Опэратыўныя мэтоды не павінны падменьвацца павярхоўным сьлізганьнем па дзесятках пытаньняў.

„Па-сапраўднаму опэратыўным дзейным кіраўніцтва друку зьяўляецца толькі тады, калі друк выяўляе прычыны аснаваньня, корні расхлябанасьці, конкрэтныя недахопы ў організацыі працы, калі ён конкрэтна паказвае ўзоры добрай і дрэннай работы і ўнутраны „мэханізм" тае і тае. Толькі ў гэтым выпадку барацьба з недахопамі набудзе больш рэальны дзейны характар, а з другога боку, добрыя прыклады будуць атрымоўваць усё больш шырокае ўжываньне і распаўсюджваньне. Гэта патрабуе аднак далейшай зьмены мэтодаў, работы газэт: больш моцнае сувязі з рабкорамі і селькорамі, з ударнымі брыгадамі, з вытворчымі нарадамі, з гаспадарнікамі, з мясцовымі пролетарскімі організацыямі" (з артыкула т. Стэцкага ў „Правде").

Зусім зразумела, што падвышэньне патрабаваньняў да друку ставіць пытаньне аб перабудове работы ўнутры рэдакцыі.

Ленін пісаў, што „...усякая форма барацьбы патрабуе адпаведнае тэхнікі і адпаведнага апарату".

Зусім зразумела, што прынцыпы перабудовы партыйнага апарату пашыраюцца і на рэдакцыі газэт.

— „Замест унівэрсалізму, аб'яднаньня ў адным аддзеле розных функцый толькі таму, што яны па вонкаваму выгляду родственныя, мы падзяляем апарат у адпаведнасьці з асноўнымі баявымі задачамі партыі" (З прамовы Л. М. Кагановіча).

Не даючы рэдакцыям газэт ніякіх трафарэтных форм перабудовы работы зьверху (няхай то будзе сыстэма сакратароў, ці ўдарныя брыгады, функцыянэры ці што небудзь іншае), мы лічым, што ў хадзе работы па сапраўднаму выкананьню газэтамі падвышаных да іх запатрабаваньняў само жыцьцё выявіць найбольш жыцьцёвыя формы.

Побач з перабудовай газэты, форм і мэтодаў яе работы, няўхільна павінна адбыцца перасоўваньне ў складзе рабкораў і селькораў і наогул актыву пролетарскае грамадзкасьці, якая групуецца вакол газэты, з упірышчам на рабкора-ўдарніка, на селькора-актывістага, колгасьніка і на стварэньне пры газэтах інжынэрна-гаспадарчага актыву.

## II. Фабрычна-заводзкія друкаваныя газэты

Адзінаццаць год таму назад напружанасьць дзён грамадзянскае вайны выклікала нябачную да гэтага часу рознастайнасьць друку. Шматлікія выданьні „Роста" і бюлетэні, якія друкаваліся на рознаколернай, на жоўтай, абгортачнай і на папяроснай паперы, на шэрых і блакітных зрывах—былі тым „Колектыўным організатарам і пропагандыстым", праз які ў той час партыя заклікала і організоўвала масы на барацьбу з белагвардзейшчынай.

Насьценная „Роста", газэты на папяроснай і абгортачнай паперы—былі дзіцянём дзён нябачнай, героічнай напружанасьці краіны Саветаў у барацьбе за замацаваньне пролетарскае дыктатуры.

А цяпер напружаныя дні шпаркіх тэмпаў рэканструкцыйнага пэрыоду, дні боек за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва выклікалі да жыцьця нябачаны ў капіталістычным сьвеце тып газэты—фабрычна-заводзкую друкаваную газэту, якая робіцца рукамі саміх рабочых.

Сакратарыят Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б у красавіку 1930 году прыняў спэцыяльную пастанову аб фабрычна-заводзкім друку Беларусі.

Гэтая пастанова выразна і выстарчальна акрэсьлівае асноўную задачу фабрычна-заводзкага друку—упартую і настойлівую барацьбу за прамфінплян, за яго выкананьне і перавыкананьне, за ўцягненьне ўсяе рабочае масы ў барацьбу за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за ўзмацненьне кіруючае ролі рабочае клясы ў справе соцыялістычнае рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, за замацаваньне дыктатуры пролетарыяту.

Сакратарыят ЦК КП(б)Б канстатаваў: *„нездавальняючае кіраўніцтва работай рэдколегій фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт з боку пераважнае большасьці партыйных ячэек і райкомаў, з боку ўсіх, без выключэньня, акругкомаў КП(б)Б“.*

Характэрна адзначыць, што толькі ў зьвязку з скліканьнем усебеларускае нарады, значная частка партыйных ячэек фактычна ўпяршыню заслухала і абмеркавала справаздачы рэдакцыйных колегій фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт. Бюро аднаго з найбольш буйных рабочых партыйных колектываў—гомельскага заводу імя Ланцуцкага—у сваёй пастанове па дакладзе рэдколегіі шматтыражкі досыць самакрытычна піша:

„...Бюро партыйнага колектыву лічыць работу рэдколегіі нездавальняючай, што выяўляецца ў несваячасовым выпуску газэты, слабой рабоце з рабкорамі, слабым завастрэньні ўвагі на пытаньнях выкананьня прамфінпляну, атсутнічаньні патрэбнага кіраўніцтва цэхавымі насьценнымі газэтамі, затрыманьні допісаў, поўным атсутнічаньні ў газэце паведамленьня аб выніках па зьмешчаных допісах“...

Праўда, ня ўсе партыйныя ячэйкі, якія заслухоўвалі даклады рэдколегій шматтыражак, палічылі для сябе магчымым досыць шчыра прызнаць недастатковасьць, а часамі і поўнае адсутнічаньне партыйнага кіраўніцтва з тым, каб на хаду, опэрацыйна, гэты прабел запаўняць. Так, напрыклад, бюро партыйнага колектыву шклоўскай папяровай фабрыкі „Спартак“ ухваліла вельмі гумовую рэзолюцыю, у якой піша, што „...абраная ў лютым месяцы 1930 г. рэдколегія *ў асноўным справілася з сваёй працай“*, і тут-жа у гэтай рэзолюцыі двума радкамі ніжэй зазначае: „...але газэта „Спартакавец“ не зьяўляецца яшчэ цэнтрам мобілізацыі ўвагі рабочых вакол асноўных галін работы і жыцьця фабрыкі“.

Зусім зразумела, што работа тэй фабрычнай газэты, якая ня здолела яшчэ да гэтага часу зрабіцца, пры дапамозе і пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі, цэнтрам мобілізацыі ўвагі рабочых вакол асноўных галін работы і жыцьця фабрыкі,—ні ў якім разе ня можа быць прызнана здавальняючай. У тым якраз і галоўная задача, каб зрабіць фабрычную газэту як зброю рабочае клясы і яе комуністычнае партыі—„цэнтрам мобілізацыі ўвагі рабочых вакол асноўных галін работы і жыцьця фабрыкі“.

Прыведзеныя вышэй асобныя прыклады, на вялікі жаль, зьяўляюцца пакуль што характэрнымі для ацэнкі якасьці кіраўніцтва работай фабрычных газэт з боку значнае часткі партыйных ячэек. І таму надзвычайна сваячасовай і патрэбнай зьяўляецца спэцыяльная пастанова ЦК КП(б)Б аб фабрычных газэтах, якая, лічачы факты нездавальняючага партыйнага кіраўніцтва фабрычнымі газэтамі ў корані ненор-

мальным зьявішчам, што не забясьпечвае ажыцьцяўленьня партыйнага кіраўніцтва, адным з найадказных вучасткаў нашага друку—фабрычна-заводзкімі газэтамі, абавязвае ўсе партыйныя організацыі, фракцыі ЦП профсаюзаў і партчастку ВСНГ Беларусі:

„...Узмацніць партыйнае кіраўніцтва работай рэдколегій друкаваных газэт, часьцей заслухоўваючы іх даклады і содаклады спэцыяльна вылучаных камісій ня толькі аб усёй дзейнасьці ўцалку, але і па асобных пытаньнях.

— Даклады рэдколегій друкаваных заводзкіх газэт пэрыодычна заслухоўваць на паседжаньнях Бюро АК. У выбарачным парадку заслухоўваць даклады двух рэдколегій шматтыражак на Сакратарыяце ЦК.

— Прасіць ЦКК КП(б)Б прадугледзець плянам работ выбарачнае абсьледваньне становішча з дзейнасьцю выкрывальных допісаў, якія зьмяшчаюцца ў фабрычных шматтыражках. Даклад аб выніках абсьледваньня заслухаць на аб'яднаным паседжаньні Бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б.

— Абавязаць усе гаспадарчыя органы, прадпрыемствы, прамысловыя аб'яднаньні і ВСНГ не пазьней, як праз 10 дзён пасьля зьмяшчэньня ў шматтыражках тых ці іншых выкрывальных допісаў, якія датычаць прадпрыемстваў пэўнага аб'яднаньня, дасылаць у рэдакцыю адказ аб ужытых конкрэтных мерапрыемствах“.

Той факт, што пытаньне аб дзейнасьці допісаў зьмешчаных у фабрычных газэтах, будзе спэцыяльна абсьледавана Цэнтральнай Контрольнай Камісіяй, а вынікі абсьледваньня будуць заслуханы на аб'яднаным паседжаньні Бюро Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б і прэзыдыуму Цэнтральнай Контрольнай Камісіі, яшчэ лішні раз падкрэсьлівае тое вялізарнае значэньне, якое наша партыя надае дзейнасьці, дзелавой эфэктыўнасьці кожнага з зьмешчаных у газэце допісаў, *вынікам* гэтых допісаў.

Пытаньне аб забясьпечаньні *рэзультатыўнасьці* кожнага з допісаў, якія зьмяшчаюцца, зьяўляецца цяпер адным з цэнтральных, галоўных пытаньняў ня толькі для газэт, але і для справы як далейшага разгортваньня самакрытыкі, так і замацаваньня ўжо дасягнутых посьпехаў у справе разгортваньня самакрытыкі.

Матэрыялы першай усебеларускай нарады шматтыражак *сыгналізуюць* аб небясьпечным становішчы з дзейнасьцю зьмешчаных допісаў, якое пагражае справе далейшага разгортваньня самакрыткі. Фабрычная друкаваная газэта „Дняпровец“ на 10-IV не атрымала адказу на 103 допісы, у тым ліку не адказалі на 40 допісаў працаўнікі заводакіраўніцтва, на 25 допісаў—фабком, на 15—коопэрацыя, на 7—партыйны камітэт і г. д. З атрыманых рэдколегіяй шматтыражкі заводу імя Ланцуцкага 100 адказаў толькі 30 проц. паводле свайго зьместу можна лічыць здавальняючымі, а рэшта, у пераважнай большасьці, тыпова абвяргальна-хлусьлівыя адказы. І на фоне гэтых ганебных фактаў, якія інакш лічыць нельга як об'ектыўны заціск самакрытыкі, з асаблівай выразнасьцю гучаць словы з пастановы прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б, якія кажуць: „...Лічыць, што няўважлівыя адносіны да рэагаваньня на рабселькораўскія заметкі і зьмяшчэньне ў адказе беспадстаўных абвяргаьняў павінны разглядацца, як самая пэўная адзнака загніваньня апарату, бо гэта паказвае, што ў даным апараце бюрокракратычныя скажэньні прыдушаюць ініцыятыву ў галіне зьнішчэньня недахопаў“.

Выходзячы з гэтага, трэба ва ўсіх выпадках сыстэматычнага ігнараваньня рабселькораўскіх заметак ці „абвярганьня“ прыцягваць да суровай адказнасьці, як за злачынства, вінаватых у ігнорованьні і формальных ды бюрократычных адносінах да крытыкі ў друку.

Таксама трэба лічыць бюрократычным супраціўленьнем крытыцы ў друку і вартымі суровых мер пакараньня, а-ж да прыцягненьня да суровай адказнасьці—факты такіх адказаў на заметкі, якія абмежаваны адным толькі констатаваньнем ці паведамленьнем пра вынікі расьсьледваньня бяз ужываньня сапраўдных захадаў у справе хутчэйшага зьнішчэньня ненормальнасьцяй, адзначаных у заметках.

Прызнаць мэтазгодным у бліжэйшы час правядзеньне некалькіх судовых паказальных процэсаў на прадпрыемствах і ва ўстановах аб няправільных, злосных, бюрократычных абвярганьнях на заметкі і прапановы рабочых (у тым выпадку, калі будзе ўстаноўлена бяссрэчнасьць неўгрунтаванасьці адказу).

У тых выпадках, калі ўстанаўляецца асабістая віна ў дачы няправільных адказаў ці ў цеганіне з дачай адказаў з боку асобных працаўнікоў апарату—адміністратары павінны ўжываць да іх адміністрацыйныя спагнаньні, паведаміўшы аб гэтым праз газэту.

Пастанова прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б аб узмацненьні рэагаваньня на крытыку ў друку і насьценных газэтах апублікаваная шмат часу таму назад, дагэтуль фактычна яшчэ не ператворана ў руках рэдколегій і ўсёй грамадзкасьці прадпрыемстваў у зброю *барацьбы* за тое, каб допіс у газэце не заставаўся выстралам у халастую, пустым месцам.

Кожная рэдколегія, як баявую справу, як „прамфінплян" сваёй газэты, павінна паставіць перад сабой задачу—на кожны выкрывальны допіс дамагацца адказу, прыцягваючы да грамадзкай і крымінальнай адказнасьці тых, хто сьвядома альбо па нядбайнасьці замарыноўвае адказы на допісы, альбо, адказваючы на допіс, ня прымае разам з тым належных захадаў.

Сакратарыят ЦК КП(б)Б фактам прыняцьця спэцыяльнай пастановы аб фабрычных шматтыражках падкрэсьлівае гэтым самым вялізарнейшае палітычнае значэньне гэтага вучастку нашага друку.

Агульнымі патугамі ўсяе пролетарскае грамадзкасьці наш фабрычна-заводзкі друк, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, павінен яшчэ больш ператварыцца ў магутную зброю партыі ў справе барацьбы за генэральную лінію партыі, за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, супроць правага ўхілу і прымірэнчых да яго адносін, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць троцкісцкіх настрояў і „левых" загібаў, супроць нацыянал-опортунізму, супроць беларускага нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў усіх колераў.

### Некалькі лічб аб фабрычных „паўпрэдах" друку

Шматтыражка, друкаваная фабрычна-заводзкая газэта—гэта ўзброенае паліграфічнай тэхнікай дзіцянё рэконструкцыйнага пэрыоду.

Самы факт зьяўленьня друкаваных фабрычна-заводзкіх газэт—зьявішча невыпадковае. Густая сетка друкаваных фабрычных газэт узрасла за апошнія год-два і ўзрасла на бальшавіцкіх дражджах, на дражджах актыўнасьці рабочае масы, самага шырокага разгортваньня самакрытыкі і гэроічнай барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва.

Па Савецкім Саюзе ўжо налічваецца тысяча фабрычных друкаваных газэт з тыражом у 4 млн. экзэмпляраў. Насьценных газэт налічваецца сто тысяч, тым часам як у 1926 г. іх налічвалася ўсяго 36 тысяч. Характэрна адзначыць дынаміку росту колькасьці фабрычных друкаваных газэт—крывая ўвесь час ідзе ўверх, шматтыражкі ўзьніклі, галоўным чынам, за апошні год, за апошнія месяцы апошняга году. Шматтыражкі (друкаваныя фабрычныя газэты), не закрэсьліваючы

фактам свайго існаваньня шматлікія насьценныя газэты, разам з тым занялі цьвёрда і пэўна сваё месца на заводзе, у цэху. Шматтыражкі ўрасьлі ў плоць і кроў прадпрыемства, іх ад нутра прадпрыемства не адарвеш.

Ленін у часы глыбокага падпольля пісаў:

> „Трэба дамагчыся, каб рабочыя непасрэдна пісалі ў газэту. Бяз гэтага газэта ня будзе рабочаю. Нам важна мець таксама рабочых корэспондэнтаў, а іх мала, трэба, каб дзесяткі і сотні рабочых проста непасрэдна пісалі ў газэту.

І „Из письма к товарищу“ Ленін падкрэсьлівае:

> „Мы просім пісаць усіх, і асабліва рабочых. Давайце, як найшырэй рабочым магчымасьць пісаць у нашу газэту; пісаць аб усім рашуча, пісаць, як мага болей, аб будзённым сваім жыцьці, інтарэсах і рабоце“.

Мы зараз дабіліся ня толькі таго, што гэты самы „прамфінплян“ Леніна, складзены ім амаль што 20 год таму назад—цяпер поўнасьцю выкананы, але мы дамагліся і таго, што рабочыя ня толькі непасрэдна пішуць у газэту, але яе непасрэдна і ствараюць, складаюць яе душу.

З 2-3 газэт у пачатку 1929 г. мы маем на сёньняшні дзень 29 фабрычна-завадзкіх друкаваных газэт і 9 газэт, якія выдаюцца іншымі організацыямі (у ВНУ—4 газэты, раённа-колгасных—4, коопэрацыйных—1). З гэтай колькасьці выходзяць: у Менскай акрузе—13 газэт, Віцебскай—10, Гомельскай—9, Аршанскай—2, Бабруйскай—2, Магілёўскай—1 і Мазырскай—1.

Пэрыодычнасьць выданьня газэт у большасьці—3—4 нумары на месяц. Сярэдні тыраж—1.000 экз.

Праглядаючы комплекты фабрычна-друкаваных газэт, ёсьць усе падставы, каб бяз ружовых аркуляраў, бяз „пахлопвания па плячы“ зрабіць вынік аб тэй буйнейшай ролі, якую адыгрываюць шматтыражкі, гэтыя фабрычныя „паўпрэды“ партыйна-савецкага друку.

Калі насьценгазэты чытаюцца на-ляту, урыўкамі, дык друкаваныя газэты чытаюцца ня толькі на прадпрыемствах, але і ў хаце, захопліваючы, такім чынам, у кола свайго ўплыву ня толькі рабочых, але і іх сем'і.

Газэта заводу „Двигатель революции“ паказала яскравы прыклад масавай работы, калі, улічваючы палітычнае значэньне перавыбараў заўкому, пачала выпушчаць газэту неперарыўку і вылучыла рабкораў ва ўсе заўкомаўскія брыгады. Вынік—100 проц. яўка рабочых на сход і іх значная актыўнасьць.

Віцебская шматтыражка „Мэтпромавец“ узьняла пытаньне аб тым, што малярны цэх на чале з бюро партыйнай ячэйкі выступіў супроць рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. Газэта з большавіцкай настойлівасьцю разам з усім партыйным Колектывам, пры падтрыманьні пролетарскае грамадзкасьці, дамаглася ажыцьцяўленьня гэтых рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, якія далі некалькі дзесяткаў тысяч рублёў.

Гомельская шматтыражка „Трускі“ (фабрыка „Везуві“) правяла агляд работы вытворчых нарад.

Гэтая-ж газэта надзвычайна ўдала і ўпарта вядзе барацьбу за ажыцьцяўленьне тых практычных прапаноў адносна палепшаньня вытворчасьці, якія рабочыя ўносяць на абгаварэньне пралетарскай грамадзкасьці прадпрыемстваў.

Газэта змагаецца за працоўную дысцыпліну, друкуе сьпісы прагульшчыкаў з пералічэньнем прозьвішчаў, надзвычайна ўдала тэхнічна апрацоўвае і складае лічбовыя зводкі выкананьня прамфінпляну, кожны

радок якіх навочна прад'яўляе кожнаму цэху, кожнаму аддзяленьню фабрыкі канкрэтныя лічбовыя „абвінавачаньні"-патрабаваньні.

Вось што піша рэдкалегія шматтыражкі „Трускі" аб сваёй канкрэтна-праробленай рабоце:

> „Барацьба за прамфінплян займала галоўнае месца ў рабоце газэты „Трускі". Ужо ў лістападзе 1929 г., падагульваючы вынікі выкананьня прамфінпляну 1928—29 г., газэта, даючы колькасныя і якасныя паказальнікі выкананьня прамфінпляну, мобілізавала ўвагу рабочых мас на ўзмацненьне тэмпаў свае работы.
>
> Уступаючы ў новы гаспадарчы год, які павінен даць значна большы вытворчы эфэкт, рабочыя фабрыкі павінны прыкласьці ўсе сілы да выкананьня дырэктыў партыі і ўраду аб павялічэньні продукцыйнасьці працы, зьніжэньня сабекошту ў будучым годзе з тым, каб адначасова з выкананьнем гэтых дырэктыў—выканаць таксама недавыкананую програму па росту вытворчасьці працы і зьніжэньня сабекошту ў мінулым гаспадарчым годзе".

Адначасова з гэтым ішла популярызацыя прамфінпляну сярод рабочых. Праверка выкананьня соцыялістычнага спаборніцтва, заключэньне новае ўмовы знайшло сваё адлюстраваньне на старонках газэты.

У гэты-ж час газэта дае адпор усім настроям, якія перашкаджаюць пасьпяховаму ходу работы, ускрываючы ганебныя факты з боку паасобных рабочых пакавальнага цэху (п'янкі, нерэагаваньне на гэта бюро парт. ячэйкі, пагрозы рабкору з боку антысэміта і глушыцеля самакрытыкі на фанерным заводзе Бараноўскага і інш.).

Пачынаючы з сьнежня, калі стала пэўным, што прамфінплян за кастрычнік і лістапад ня выкананы па запалках на 10 проц., па фанеры на 20 проц., газэта „Трускі", пад кіраўніцтвам партыйнага колектыву, заняла самую рэзкую лінію ў барацьбе за прамфінплян. Газэта ўскрывае ўсе асноўныя недахопы, якія перашкаджаюць пасьпяховай рабоце.

„Цэх з цэхам ня зьвязаны, а працуе сам па сабе. Загадчыкі цэхамі яшчэ не адчуваюць сабе адказнымі кіраўнікамі цэху і ня хочуць сабе „сэрца рваць". Настроем паасобныхх рабочых, прапырам клясавага ворага, да прыкладу, Пісарэнку Т., якія заяўляў, што „пяцігодка прывядзе да жабрацтва, што пакуль пяцігодку выканаем—застанемся голымі",—газэта дае рашучы адпор.

„Трускі" зварочвалі асаблівую ўвагу рабочага колектыву на дапамогу тэхнічнаму пэрсаналю. Разам з тым газэта бічавала факты нярухавасьці, абломаўшчыны з боку паасобных тэхнічных работнікаў.

Газэта піша: „Няўжо Грынь (інжынэр фабрыкі) ня б'е лындаў? За чатыры месяцы ён „зрацыяналізаваў" свой аўторытэт да нуля, а Шмацін (тэхнік) ператварыўся ў канцылярыстага".

Зазначаючы на гэтыя факты, „Трускі" разам з тым выклікаюць увесь тэхпэрсонал узяцца за выкананьне прамфінпляну, практычна замацаваць сваё жаданьне браць удзел у соцыялістычным будаўніцтве.

У лютым „Трускі" заяўлялі, што „першы квартал організаваў прарыў на нашай фабрыцы"... Студзень справы не паправіў, а пагоршыў". Газэта мобілізуе ўвагу рабочых мас „супроць рабскіх тэмпаў работы".

Паасобныя партыйцы і комсамольцы фабрыкі „Везуві" ня толькі не стаялі на чале барацьбы за прамфінплян, але самі цягнуліся ў хвасьце рабочых. Партыйныя і комсамольскія колектывы не павярнуліся, як належыць, „тварам да вытворчасьці", профсаюзы не прыстасавалі свае работы да новых умоў. Выкананьне прамфінпляну ідзе з дрэннымі паказальнікамі.

Вынікі 20 дзён лютага яшчэ больш пагоршылі выкананьне прамфінпляну. Па запалках ён дайшоў да 91 проц., а па фанэры да 65 проц.

Газэта „Трускі“ выкрыла шэраг недахопаў, патрабуючы рашучага пералому ў справе барацьбы за прамфінплян ад усіх фабрычных арганізацый, і, у першую чаргу, ад парторганізацый, сыгналізуючы, што „люты падвёў нас усутыч да чорнай дошкі“. На зьнішчэньне прарыву мобілізуюцца ўсе магчымасьці. „Трускі“ друкуюць зводкі выкананьня цэхамі ўзятых на сябе пэўных абавязкаў па выкананьні прамфінпляну.

Люты даў нездавальняючыя паказальнікі выкананьня прамфінпляну як па колькасьці, так і па якасьці.

Так, па запалках выканана 87 проц. програмы, па фанэры 68 проц., сабекошт павысіўся на 8 проц. замест зьніжэньня на 11 проц. Усё гэта шчыльна падвяло фабрыку да чорнай дошкі, і газэта „Трускі“ заносіць фабрыку „Везуві“ на чорную дошку, адначасова высоўваючы лёзунг—дамагчыся таго, каб зьняць з „Везувія“ чорную пляму.

„Трускі“ пачынаюць абстрэл цэхаў, якія найбольш астаюцца ў выкананьні пляну. Газэта накіроўвае ўвагу мас на практычныя пытаньні палепшаньня работы ў каробачным, стругальным і канатна-макальным цэхах.

Газэта паказвае конкрэтных носьбітаў зла, віноўнікаў зрыву выкананьня прамфінпляну, патрабуючы палепшаньня як адміністрацыйнага, так і тэхнічнага кіраўніцтва на фабрыцы, адначасова концэнтруючы ўвагу грамадзкіх організацый фабрыкі на няўхільнай патрэбе рашучае перабудовы форм і мэтодаў усяе работы, прыстасоўваючы іх да справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну,

Газэта „Трускі“ ў выніку свае сыстэматычнае барацьбы за выкананьне прамфінпляну, дамаглася некаторае мобілізацыі ўсяго рабочага колектыву вакол справы барацьбы за выкананьне прамфінпляну.

Першыя станоўчыя вынікі ўжо ёсьць. Так, сакавік даў колькасна 110 проц. выкананьня прамфінпляну. Першая дэкада красавіка дае па запалках 101 проц. выкананьня. З фанэрным заводам справа дрэнная. Да гэтага часу тэхнічныя непарадкі ў кацельнай гаспадарцы маюць уплыў на работу заводу. Калі сакавік даў па фанэры 85 проц. пляну, дык першая дэкада красавіка зноў дае зьніжэньне да 73 проц.

Газэта „Трускі“ паставіла сваёй конкрэтнай задачай—мобілізаваць увагу рабочага колектыву на далейшае падвышэньне як якасных, так і колькасных вынікаў выкананьня прамфінпляну, і да 1 мая зьняць фабрыку з чорнае дошкі.

„У справе барацьбы за прамфінплян газэта „Трускі“ асьвятляла лепшую працу брыгад, організацыю комун, мобілізавала рабочую масу на конкрэтных недахопах, рашуча перабудоўвала працу“ *).

Характэрны добры прыклад уплывовае ролі шматтыражкі прыводзіцца ў адным з нумароў газэты „Віцебскі Пролетары“ аб фабрычнай друкаванай газэце „Мэтпромавец“:

„Перад намі 18 нумароў „Мэтпромаўца“, з якіх у кожным галоўнае месца займаюць пытаньні вытворчасьці, высьвятленьне недахопаў і перашкод у галіне выкананьня прамфінпляну, барацьба з імі“.

З новага опэрацыйнага году завод „Чырвоны Мэталісты“ перайшоў на гаспадарчы разрахунак. Газэта, зьмяшчаючы аб гэтым артыкул і адзначаючы невыкананьне програмы за мінулы год, асабліва па зьніжэньні сабекошту, кажа, што трэба адмовіцца ад старых традыцый, трэба зьмяніць сыстэму работы, перабудаваць яе так, каб была забясьпечана магчымасьць поўнага выкананьня прамфінпляну.

*) Вытрымкі з справаздачы рэдколегіі газэты „Трускі“.

З нумару ў нумар газэта ўпарта сыгналізуе аб вялікай колькасьці браку, адсутнасьці ўвязкі паміж цэхамі, аб прагулах, аб дрэннай якасьці продукцыі.

За невыкананьне прамфінпляну ў першым квартале, завод „Чырвоны Мэталісты“ апынуўся на чорнай дошцы, і газэта зараз-жа аддае выключную ўвагу мобілізацыі ўсяе рабочае грамадзкасьці на ліквіданьне прарываў. Тры паласы ў нумары прысьвечаны становішчу, у якім апынуўся завод. „Ганебная пляма павінна быць замыта“,— заклікае газэта і тут-жа высьвятляе прычыны, якія перашкаджалі рабоце, вызначае вінаватых.

Трэба адзначыць упартую работу газэты па замацаваньні шэфскае сувязі з вёскай. Газэта організуе думку рабочых на *пытаньні практычнае дапамогі падшэфнаму колгасу, праводзіцца збор сродкаў на трактарную колёну, асьвятляецца жыцьцё падшэфнага сельсавету, аб якім нават зьмяшчаюцца спэцыяльныя корэспондэнцыі.*

Своечасова паставіла газэта і пытаньне аб пасылцы рабочых на работу ў колгас, здолела згуртаваць на ім увагу рабочых мас. Той факт, што ў падшэфным сельсавеце організаваўся колгас імя газэты „Мэтпромавец“, які трымае цесную сувязь з заводам і рэдколегіяй, кажа, што работа газэты не прапала дарам. „Мэтпромавец“ дасягнуў сваё мэты,—ён адначасова організаваў бядняцка-серадняцкія масы вёскі, мобілізаваў іх на барацьбу з кулаком“.

Гэтая-ж газэта „Мэтпромавец“ перавыбарам заводзкага камітэту аддала вялікае месца. Былі організаваны рабкораўскія налёты на цэхпрофбюро. Перавыбарчая кампанія асьвятлялася ў 6-ці нумарох газэты, і той матэрыял, які зьмяшчаўся, газэта ўвязвала з выкананьнем і перавыкананьнем прамфінпляну.

У зьвязку з тым, што варта да гэтага часу была кепска пастаўлена, газэта організавала рабкораўскі налёт на паставых міліцыянэраў, якія вартуюць завод. У выніку гэтага налёту над двума міліцыянэрамі быў праведзен паказальны суд. Варта заводу ў апошні час палепшылася. Міліцыянэры атрымалі—адзін 3 месяцы прымусовых работ, а другі—2 месяцы.

За апошні час брак у ліцейным цэху павялічыўся з 5 да 8,4 проц. Газэта ня толькі ўзьняла гэтае пытаньне ў друку, яна занесла на чорную дошку цэлы шэраг таварышоў, склікала спэцыяльную нараду адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналю заводу (дзе прысутнічала каля 40 чал.). У той-жа час газэта за добрую работу занесла на чырвоную дошку лепшых рабочых.

У сувязі з праверкай соцыялістычнага спаборніцтва, у організаваную на заводзе добраахвотную брыгаду з 24 чал. увайшло 9 рабкораў, і адначасова з гэтым газэта прыступіла да праверкі вынікаў соцыялістычнага спаборніцтва, выкрываючы ілжэ-брыгады і ілжэ-ўдарнікаў.

На фоне гэтых паасобных конкрэтных фактаў, якіх мы налічваем дзесяткі, відаць, як узрасла вага шматтыражак у політычна-гаспадарчым жыцьці прадпрыемстваў.

Але на фоне гэтых шматлікіх станоўчых, дадатных бакоў, якія гавораць аб найвялізарнай ролі фабрычна-заводзкіх газэт у барацьбе за прамфінплян, нам цяпер патрэбна паказаць недахопы газэты, карэньні гэтых недахопаў, з тым, каб ня толькі фіксаваць факты, памылкі, але, канстатуючы іх, *упірыстча* рабіць на іх выпраўленьне, на падвышэньне якасных паказальнікаў „продукцыі“ нашых шматтыражак.

Наша асноўнае запатрабаваньне да газэт:

Ня будзьце рэгістратарамі „входящих“ і „исходящих“ дописаў. Кожная фабрычная друкаваная газэта павінна быць рукой комуністычнае партыі, якая чула выслухоўвае пульс жыцьця.

> „... Ператварыць сухія, няжывыя, бюрократычныя справаздачы ў жывыя прыклады як адмоўныя, гэтак і прывабныя“... (*Ленін*, „Очередные задачи советской власти“, т. XX, стар. 456, 2-е выданьне).

Фабрычна-заводзкія друкаваныя і насьценныя газэты позна павярнуліся „тварам да прамфінпляну“, тымчасам амаль год таму назад у пастанове ЦК УсеКП(б) ад 9 мая 1929 г. было напісана: „Конкрэтнай задачай спаборніцтва павінна быць выкананьне, перавышэньне прамфінпляну, выкананьне перавышэньня намечаных норм у справе зьніжэньня сабекошту і павялічэньня продукцыйнасьці працы, палепшаньня якасьці продукцыі, змаганьне з прагуламі і бракам, зьмяншэньне накладных выдаткаў, дасягненьне ўзорнае вытворчае дысцыпліны, актыўнага правядзеньня тэхнікі ўдасканаленьня, рацыяналізацыі і вытворчасьці з шырокім прыцягненьнем рабочага вынаходзтва. Савецкі партыйны друк павінен організаваць шырокае, усебаковае высьвятленьне работы фабрык і заводаў, увесь друк, асабліва фабрычна-заводзкі, павінен паставіць пытаньне аб організацыі соцыялістычнага спаборніцтва ў цэнтры свае работы“.

Амаль год таму назад ЦК УсеКП(б) выразна даў заданьне ўсім нашым газэтам, за якое яны ўзяліся са значным спазьненьнем. Цяпер трэба з асаблівай настойлівасьцю дагнаць упушчанае.

### Барацьба за прамфінплян—асноўнае і рашаючае, што вызначае твар газэты

Мы патрабуем ад газэты барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, *па ўсіх правілах гаспадарча-палітычнай „тактыкі і стратэгіі“.*

Шматтыражкі часта коўзаюцца па паверхні пытаньняў, ня ўмеючы выбіраць і ставіць асноўныя, зьвяновыя пытаньні.

Віцебская газэта „Мэтпромавец“ у сваёй справаздачы досыць самакрытычна піша: „Прамфінплян ня быў даведзены да цэху, да кожнага рабочага ў паасобку, а газэта „Мэтпромавец“, вядучы барацьбу за выкананьне прамфінпляну, нічога не зрабіла для таго, каб дапамагчы рабочай масе разабрацца ў прамфінпляне заводу“.

Адна з лепшых у Беларусі шматтыражак—газэта „Трускі“—надрукавала кантрольныя лічбы на 1929-30 г., але гэтыя лічбы паднесла так, што атрымаўся ня ўдарны, запальваючы, організуючы артыкул, а нейкія дзьве даўжэзныя „каўбасы“.

Ёсьць паасобныя шматтыражкі, якія ня толькі ня выконваюць свае ролі ў барацьбе за прамфінплян, але фактычна ставяць сьпіцы ў калёсы. Шматтыражка „Чырвонае Шыла“ (фабрыка „Труд“) у артыкуле аб становішчы фабрыкі піша, прыблізна, наступнае:

„Хто вінаваты ў становішчы на фабрыцы? Вінаваты ўсе, за выключэньнем рабочых“.

*Такая* пастаноўка пытаньня, замест далейшай барацьбы і мобілізацыі сіл грамадзкасьці ўсяго прадпрыемства, толькі дэмаралізуе. Тая-ж самая газэта „Чырвоная Шыла“ дае надзвычайна яскравы ўзор хвасьцізму, адсталых настрояў, калі невыкананьне прамфінпляну тлумачаць тым, што бачыце, вінавата адміністрацыя і... *рэконструкцыя*

*фабрыкі.* Гэта ўжо значыць, што об'ектыўна газэта выкарыстоўваецца для клясава-варожых нам мэт.

Згадзімся з рэдколегіяй, што вінавата заводакіраўніцтва. Але ці можна згадзіцца з газэтай, што ўсе рабочыя працуюць так, як належыць?

Вось аб чым кажуць вытрымкі з гэтай-жа самай газэты фабрыкі „Труд".

„Калі яны (прыбіральшчыцы) перасоўваюць ваганеткі, дык скідаюць боты, а пасьля іх пераблытаюць, і атрымоўваецца няпарны абутак".

„На заднікі скарыстоўваецца матэрыял, які падыходзіць для падэшвы, а на падэшвы ідзе матэрыял, які адкладзены на заднікі, у выніку шмат абутку сапсавана".

Або другая вынятка з допісу:

„Рабочы зьвярнуўся да двух членаў партыі—Еўдосіна і Камісарчыка з скаргаю, што ў яго псуецца работа. Апошнія адказалі: „Якая табе розьніца, усё роўна ты працуеш па-сярэдняму".

Мы можам прывесьці дзесяткі фактаў, якія ілюструюць падзеньне працоўнае дысцыпліны і нядбайныя адносіны да новых машын. А газэта ў гэты час піша: *„Нічога, таварышы рабочыя, вы не хвалюйцеся, вы ні ў чым не вінаваты".*

Газэта таксама скардзіцца на тое, што фабрыка... мэханізуецца. У адным артыкуле так проста і сказана, што з прычыны мэханізацыі рабочыя сталі тупымі вучнямі.

І таму, зусім зразумела, што гэтая газэта „Чырвонае Шыла" (якая сапраўды цяпер становіцца шылам, якога ў мяшку ніяк не схаваеш), становіцца рупарам рвацкіх настрояў, калі піша, што ў час адпускное кампаніі трэба плаціць па сярэдняму заробку тых месяцаў, якія зьяўляюцца лепшымі ў выкананьні прамфінпляну. Вось вам клясычны конвеер рвацтва. Калі да гэтага дадаць, што тая-ж самая газэта „Чырвонае Шыла" піша, што „аб перавыкананьні прамфінпляну цяпер і гутаркі ня можа быць", дык у нас ёсьць усе падставы казаць аб палітычным банкруцтве сучаснае рэдколегіі; трэба зрабіць і адпаведныя вынікі і аб якасьці мясцовага партыйнага кіраўніцтва, якое дапусьціла наяўнасьць у газэце цэлае сэрыі буйных палітычных памылак.

> „...Хіба клясавая барацьба ў эпоху пераходу ад капіталізму да соцыялізму не складаецца з таго, каб ахоўваць інтарэсы рабочае клясы ад тых жменек, груп, пластоў рабочых, якія ўпарта трымаюцца традыцый, звычаяў капіталізму і прыцягваюць глядзець на Савецкую дзяржаву паранейшаму: даць „ёй" работы паменш і пагорш,—садраць з „яе" грошай пабольш?" (Ленін).

### Умець концэнтраваць увагу на галоўным

Шэраг пытаньняў, якія складаюць нутро, асяродак барацьбы за прамфінплян, мы часта выпускаем. У фабрычных шматтыражак няма паказу ролі вытворчых нарад, як актыўнае сілы, якая непасрэдна робіць уплыў на выкананьне прамфінпляну, на праверку таго, ці няма „очковтирательства", пераўмяншэньня прамфінпляну. Замацаваньне соцыялістычнага спаборніцтва ў значнай меры залежыць ад вырашэньня пытаньня аб кіраўніцтве ўдарнікамі ня толькі з пункту погляду скліканьня конфэрэнцый ударнікаў (гэта справа добрая), ня толькі з пункту погляду „барабанных" рэзолюцый, але з пункту погляду організацыі

працы на вытворчасьці, як цэнтральнага, рашаючага пытаньня дзелавой эфэктыўнасьці социялістычнага спаборніцтва, якое павінна зьявіцца штодзённым мэтодам работы прадпрыемстваў.

„Асаблівая ўвага ў справе выкананьня задач социялістычнага будаўніцтва павінна быць зьвернута на социялістычнае спаборніцтва. Социялістычнае спаборніцтва павінна будзе зьяўляцца аднэй з найбольш важных умоў і прадпасылак выкананьня ўсяго пляну ўцалку“. (З рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) па пытаньні аб кантрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1929-30 г.).

Завостраную ўвагу неабходна аддаць палепшаньню тэхнічна-гаспадарчага кіраўніцтва рухам ударнікаў, організацыі іх працы і тэхнічнай дапамозе.

Абавязак фабрычна-заводзкіх шматтыражак і насьценных газэт— зьяўляцца застрэльшчыкамі практычнага замацаваньня шэфства інжынэраў і тэхнікаў над ударнымі брыгадамі і дапамагаць разгортваньню падрыхтоўкі кадраў брыгаднікаў, організацыі барацьбы са стратамі і г. д.

Кожная шматтыражка і насьценная газэта павінна быць першым дапаможнікам фабрычнаму „трохкутніку“ ў справе сыстэматычнай організацыі ўдарных брыгад з уцягненьнем лепшых, найбольш працавітых і ініцыятыўных брыгаднікаў.

Паколькі першачарговай задачай кожнае партыйнае ячэйкі прадпрыемства зьяўляецца поўнае ўцягненьне ўсіх комуністых і комсамольцаў ва ўдарныя брыгады, дык мэтазгодна паставіць пытаньне аб пераглядзе нагрузкі партыйцаў і комсамольцаў, з тым, каб асноўны цяжар партыйнае нагрузкі кожнага комуністага і комсамольца перанесьці на вырашэньне вытворчых задач.

Комуністы, комсамолец, павінен быць лепшым ударнікам, лепшым організатарам і ўдзельнікам социялістычнага спаборніцтва, павінен быць прыкладам для ўсяе рабочае масы ў справе барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Як мы ўжо адзначылі вышэй, ударніцкі рух, організацыя працы ударнікаў, мае надзвычайна важнае значэньне для замацаваньня дзелавой эфэктыўнасьці социялістычнага спаборніцтва.

Шырокі масавы рух ударніцтва вядзе за сабою масавае ўступленьне ў партыю.

Аднак, як гэта адзначана ў пастановах ВЦСПС і ЦСПСБ, буйнейшым недахопам шмат якіх профэсыянальных, гаспадарчых і комсамольскіх організацый зьяўляецца пагоня за формальным, колькасным наборам ударнікаў. Цэлыя цэхі і прадпрыемствы раптоўна абвяшчаюцца ўдарнымі. Гэткая раптоўнасьць, без папярэдняга замацаваньня і організацыі вытворчага ўздыму рабочае масы навокал конкрэтных задач барацьбы за прамфінплян спрыяе стварэньню замест сапраўдных ударных брыгад, цэхаў і прадпрыемстваў—„ударных“... мыльных надзіманак, спрыяе павялічэньню колькасьці „папяровай“ ударнасьці, спрыяе замацаваньню казённага оптымізму асобных работнікаў, прымушае іх глядзець праз ружовыя акуляры.

Ударная брыгада—гэта брыгада, якая зрабіла социялістычнае спаборніцтва штодзённым мэтодам свае работы, якая ў лёскаце станкоў, кожным узмахам молата, кожным рухам станка выконвае задачы, пастаўленыя адозвай ЦК УсеКП(б) ад 25-га студзеня 1930 году: падвышэньне продукцыйнасьці працы, зьніжэньне сабекошту, павялі-

чэньне выпуску і палепшаньне якасьці продукцыі, выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

„...Соцыялізм ня толькі не згашае спаборніцтва, але, наадварот, ўпяршыню стварае магчымасьць ужываць яго сапраўды шырока, сапраўды ў масавых памерах уцягнуць большасьць працоўных на арэну такое працы, дзе яны змогуць праявіць сябе і разгарнуць свае здольнасьці, выкрыць таленты, якіх у народзе непачатыя крыніцы, і якія капіталізм мяў, цісную, душыў тысячамі і мільёнамі. Наша задача цяпер, калі соцыялістычны ўрад на чале ўлады, організаваць спаборніцтва“ (З артыкулу Леніна: „Как организовать соревнование“).

Наш фабрычна-заводзкі друк з недастатковай рэзкасьцю і глыбінёй ускрываў і ўскрывае перагібы і праявы адміністраваньня ў справе соцыялістычнага спаборніцтва, калі мелі мейсца (і зараз у асобных мясцох дапускаюцца) залічэньні ўдарнікаў па разьвёрстцы, вынясеньне пастаноў аб рабоце ў дні адпачынку, аб звыштэрміновай рабоце і г. д.

Трэба памятаць словы сакратара ЦК КП(б)Б тав. Гея, які ў сваім дакладзе на нарадзе комуністых, работнікаў цэнтральных газэт, адзначыў, што друк павінен:

> *„... узьнімаючы і разгортваючы соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, дапамагчы нам выправіць асобныя хібы ў гэтым руху з тым, каб паставіць ударніцтва на найбольш сур'ёзны лад, выкрыць выхваленьне і паказаць сапраўдныя недахопы, выкрыць факты ілжэ-ўдарніцтва, якія дзе-ні-дзе пачынаюць праяўляцца“.*

## Давядзем прамфінплян да рабочага!

Давядзеньне прамфінпляну да кожнага рабочага бязумоўна, мае надзвычайна важнае значэньне, як мерапрыемства, якое спрыяе замацаваньню дзелавых вынікаў барацьбы за прамфінплян.

У гэтых адносінах, давядзеньня прамфінпляну да рабочага, мы пакуль што ў нас, на Беларусі, амаль ня маем практыкі.

Як у нашым цэнтральным друку, гэтак і фабрычна-заводзкіх друкаваных і насьценных газэтах можна сустрэць досыць вялікую колькасьць разважаньняў на тэму і аб мэтазгоднасьці і аб неабходнасьці давядзеньня прамфінпляну да станка, але, пакуль што, ні ў воднай газэце няма *навочнага* паказу, *як* практычна, ва ўмовах пэўнага прадпрыемства, давесьці прамфінплян да рабочага.

Наш друк, асабліва фабрычна-заводзкія друкаваныя і насьценныя газэты, павінны выступіць пачынальнікамі, ініцыятарамі неабходнасьці хутчэйшага давядзеньня прамфінпляну да рабочага.

Але трэба з самага пачатку папярэдзіць небясьпеку правядзеньня гэтай справы голым адміністрацыйным спосабам.

Прапрацоўка прамфінпляну, яго давядзеньне да кожнага цэху, да кожнага рабочага трэба правесьці пры ўдзеле ўсяе рабочае грамадзкасьці прадпрыемства і пры самым актыўным і непасрэдным ўдзеле як усяго „трохкутніка“, так і тэхнічнага пэрсоналу.

Давядзеньне прамфінпляну да рабочага ні ў якім разе не павінна ператварыцца ў габінэтную кампанію, у цыркуляр зьверху. Уся рабочая маса павінна быць актыўным удзельнікам як самога ходу папярэдняе прапрацоўкі прамфінпляну, гэтак і яго практычнага давядзеньня да рабочага.

## Самакрытыка—адна з найбольш моцных зброй у барацьбе за прамфінплян

Фабрычна-заводзкі друк, які самым фактам свайго існаваньня спрыяе разгортваньню самакрытыкі, разам з тым у гэтых адносінах далёка не зрабіў усяго таго, чаго мы павінны патрабаваць ад усяго нашага партыйна-савецкага друку.

„... *ЦК заяўляе, што задачы рэконструкцыйнага пэрыоду ня могуць быць вырашаны бяз самага сьмелага, самага рашучага, самага пасьлядоўнага ўцягненьня мас у справу соцыялістычнага будаўніцтва, праверкі і кантролю з боку гэтых мільённых мас усяго апарату, яго ачышчэньня ад нягодных элемэнтаў...* Лёзунг самакрытыкі, „ня гледзячы на асобы", крытыкі зьверху данізу і зьнізу даверху — ёсьць адзін з цэнтральных лёзунгаў дня". (З ліпеньскай адозвы ЦК УсеКП(б) да ўсіх членаў партыі, да ўсіх рабочых).

Самакрытыка — адна з мацнейшых зброй у барацьбе за прамфінплян.

Абавязак кожнае з нашых газэт—быць на перадавых позыцыях барацьбы за бальшавіцкае разгортваньне самакрытыкі, за яе практычную дзейнасьць.

Тымчасам, на асобных прадпрыемствах бываюць факты недаацэнкі ролі і значэньня нашага друку ў справе самакрытыкі.

Больш таго—на асобных прадпрыемствах прасьледваньні рабкораў застаюцца непакаранымі.

Газэта „Палеская Праўда" (у нумары ад 11-га красавіка) аб становішчы на заводзе імя Ланцуцкага паведамляе так: „Ня гледзячы на тое, што партыйны камітэт неаднаразова займаўся пытаньнем разгортваньня самакрытыкі, патрэбнага пералому ўсё яшчэ няма.

Так, напрыклад, рабкорку Жалонкіну прасьледуе група рабочых за паведамленьне ў друку аб фактах іх грубасьці і няпрыкладнасьці на вытворчасьці. Прасьледуюць рабкорку Андрыеўскую; асабліва актыўнічае кладаўшчык Драздоў. Рабкорку Марачову цкуюць усялякімі плёткамі, робячы захады да таго, каб яе зьнялі з працы".

У заводзкай рэдколегіі з 15 чалавек працуюць толькі 2—3. Газэта „Паравоз соцыялізму" шэрая і сумная. Яна не вядзе барацьбы за прамфінплян.

Матэрыяльна газэта не забясьпечана. Выходзіць яна раз на месяц. Пры падрыхтоўцы апошняга нумару былі знойдзены матэрыялы, паданыя яшчэ ў лістападзе ці сьнежні месяцы мінулага году.

На газэту рэагуюць казённа бюрократычнымі адпіскамі.

Асобныя кіраўнікі газэт нагружаны да немажлівасьці. Так, старшыня рэдкалегіі аднэй цэхгазэты ў той-жа час і старшыня профбюро, і старшыня вытворчай камісіі.

Старшыня рэдколегіі насьценнай газэты ліцейнага цэху Пічура малапісьменны. Перапісвае допісы яго дачка, адгэтуль разгалашэньне аўтараў матэрыялу.

На гэтым конкрэтным прыкладзе мы бачым, як у даным конкрэтным выпадку сама заводзкая друказаная газэта замест таго, каб зьяўляцца барацьбітом, першым дапаможнікам комуністычнай партыі ў справе разгортваньня самакрытыкі, ператварылася ў бязмоўна-бяззубую газэту, газэту рэгістратара, у газэту са значнай палітычнай інваліднасьцю,

Сыгналы аб шматтыражках фабрыкі „Труд“ і заводу імя Ланцуцкага, становішча якіх у нас, зразумела, няма падстаў пашыраць на ўвесь фабрычна-заводзкі друк, разам з гэтым з усёй настойлівасьцю кажуць, *як пра неабходнасьць узмацненьня партыйнага кіраўніцтва фабрычна-заводзкімі і насьценнымі газэтамі, так і штодзённай ім дапамогі і неабходнасьці падняць значэньне і аўторытэт фабрычнага друку.*

### Ня быць „прылізанай“ газэтай

У Гомелі, на акруговай нарадзе шматтыражак, калі ўдзел шматтыражкі „Ратацыя“ ў барацьбе за прамфінплян быў прызнаны нездавальняючым, дык у абарону „Ратацыі“ выступіў сакратар парт‘ячэйкі Палесдруку з наступнай характэрнай аргумэнтацыяй: „Як ты гаворыш аб тым, што ў нас газэта дрэнная? Мы міжнародны дзень асьвятлялі?—асьвятлялі. Юбілей Чырвонай арміі асьвятлялі?—асьвятлялі. Перавыбары бюро ячэйкі асьвятлялі? — Асьвятлялі. Чаго-ж вы хочаце?“ Формальна да мотываў гэтага сакратара парт‘ячэйкі ня прычэпішся, а па сутнасьці зьдзек, бо галоўнае — штодзённая ўпартая організаваная барацьба газэты за прамфінплян (барацьба, а не фіксацыя фактаў) у „Ратацыі“ адчулася слаба. Нам трэба, каб у шматтыражках ня было тое небясьпекі, калі ў газэце з надворнага выгляду будзе ўсё чысьценка, усё прыгладжана, не падкапаешся, на любы пункт адказ, усё на палічках, на кожную кампанію—матэрыял, на кожны чырвоны лісьцік у календару—артыкульчык, а галоўнае — вытворчае „нутро“, штодзённасьць прадпрыемства, барацьба за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады ва ўмовах данага прадпрыемства—будзе адсутнічаць.

Газэты „алілуйшчыцы“ нам непатрэбны. Нам патрэбны газэты барацьбіты, непасрэдныя ўдзельнікі штодзённасьці нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

### Дыханьне барацьбы за прамфінплян павінна адчувацца ў кожным радку

Трэба ўмець прасякваць усю газэту барацьбой за прамфінплян, каб дыханьне гэтае барацьбы за прамфінплян адчувалася ў кожным радку, у кожнай літары газэты.

Уздымаючы пытаньне барацьбы за прамфінплян на прынцыповую вышыню барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, трэба не хаваць нашых цяжкасьцяй, трэба ўмець выхоўваць масы на цяжкасьцях шляхам паказу таго, як перамагаць гэтыя цяжкасьці.

Шматтыражка „Рабочае Вока“ (гарбарня „Бальшавік“) у № 57 зьмясьціла надзвычайна цікавы матэрыял: ліст рабочых Клінцоўскай абутковай фабрыкі аб дрэннай продукцыі гарбарнага заводу „Бальшавік“. Разам з гэтым лістом „Рабочае Вока“ зьмясьціла адказ вытворчай нарады „Бальшавіка“, які аддаваў душком рыцыны бюрократызму і ў якім дрэнная якасьць продукцыі гарбарні „Бальшавік“ тлумачыцца „об‘ектыўнымі прычынамі“.

Газэта, зьмяшчаючы гэтыя два цікавейшыя дакуманты на 3-й старонцы, акрамя невялічкай заўвагі, не зрабіла адпаведнае ацэнкі.

Першая памылка шматтыражкі „Рабочае Вока“ ў тым, што газэта павінна была на даным конкрэтным выпадку разьнесьці ў дрэбезгі, у ляпёшку тое „очковтирательство“ з боку вытворчай нарады, якая замест таго, каб ужыць рашучыя захады, пачала хапацца за рата-

вальны круг сумна-славутых „вузкіх мейсц“ і „об‘ектыўных прычын“. Трэба было гэтую памылку вытворчай нарады, яе бюрократычны адказ узьняць на прынцыповую вышыню таго, як трэба па-сапраўднаму рэагаваць на кожную заўвагу, зьвязаную з выкананьнем і перавыкананьнем прамфінпляну.

Другая памылка ў тым, што газэта „Рабочае Вока“ павінна была ня толькі зьмясьціць ліст Клінцоўскіх рабочых і адказ вытворчай нарады, але павінна была, разам з партыйнай ячэйкай, узяць ініцыятыву ў свае рукі і правесьці нараду па пытаньні якасьці продукцыі, давесьці гэты ліст Клінцоўскіх рабочых да кожнага рабочага, давесьці прамфінплян да кожнага варштату.

„Рабочае Вока“ павінна было гэты конкрэтны выпадак выкарыстаць для таго, каб навочна ўкараніць у сьвядомасьць кожнага рабочага словы т. Леніна, якія ён пісаў у сваёй брашуры „Великий Почин“.

> „Комунізм пачынаецца там, дзе выяўляецца самаадданы, перамагаючы цяжкую працу, клопат радавых рабочых аб павялічэньні продукцыйнасьці працы, аб ахове кожнага пуда збожжа, вугалю, жалеза і іншых продуктаў, што дастаюцца не працуючым асабіста і ня іх „бліжнім“, а „дальнім“, г. зн. усёй грамадзе ў цэлым, дзесяткам і сотням мільёнаў“.

У частцы нашых газэт (і фабрычна-заводзкіх, і цэнтральных, і акруговых) адсутнічае ўменьне *прапітаць* увесь зьмест газэты чарговымі баявымі задачамі партыі—барацьбой за сяўбу, за падрыхтаванасьць да яе колгасаў і прыватнага сэктару сельскай гаспадаркі, за практычнае ажыцьцяўленьне на падставе суцэльнай колектывізацыі ліквідацыі кулацтва як клясы, за замацаваньне і далейшае разгортваньне колгаснага руху, прасякнуць барацьбой за выкананьне і перавыкананьне промфінпляну, органічна ўвязваючы гэтыя задачы з рашучай барацьбой супроць правага ўхілу і прымірэнцтва да яго, як найбольш небясьпечнага на даным этапе, барацьбой з „левымі“ загібамі, з неабходнасьцю разгортваньня самай шырокай пролетарскай самакрытыкі; гэта значыць узьнімаючы пытаньні выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну, пасеўнай кампаніі, колектывізацыі, выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, барацьбы з правай практыкай, з „левымі“ загібамі, са скажэньнямі лініі партыі ў колгасным будаўніцтве, на прынцыповую вышыню барацьбы за генэральную лінію комуністычнай партыі.

### Барацьба за дзейнасьць допісаў — барацьба за разгортваньне самакрытыкі

Становішча з дзейнасьцю, дзелавой эфэктыўнасьцю, вынікамі допісаў, якія зьмяшчаюцца ў газэце, ні ў якім разе нельга прызнаць здавальняючым.

Рэдакцыя Віцебскай шматтыражкі „Мэтпромавец“ піша:

„У выніку неадказу заводакіраўніцтва на допісы рабочых, трэба было-б на сходзе вынесьці пастанову аб прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці заводакіраўніцтва за нерэагаваньне на зьмешчаныя допісы“.

Таксама такі-ж малюнак мы наглядаем, калі праглядаем шматтыражку „Трускі“. Выняткі з 12 розных газэт па пытаньнях аб нерэагаваньні на допісы, пярэсьцяць наступнымі загалоўкамі: „Заговор молчания“, „Чортова пропасть“, „Бездонная бочка“, „Долгий ящик“, „Заколдованный круг“ і г. д.

Гомельская шматтыражка „Цягнік Соцыялізму“ з 100 адказаў на допісы атрымала толькі 30% больш-менш здавальняючых. Па газэце „Трускі“ з 32 рабочых прапаноў выканан толькі 7.

Пры рэдакцыі шматтыражкі „Дняпровец“ створана бюро дасягненьняў, якое займаецца рэагаваньнем на нататкі. Аднак, работа гэтага бюро дасягненьняў—нездавальняючая. „Гробокопатели“ самакрытыкі даюць сябе яшчэ адчуваць. На 10-е красавіка не атрымана адказу на 103 нататкі, у тым ліку на іх не адказалі: парторганізацыя—7, заводакіраўніцтва—40, нізавая адміністрацыя (зав. аддз.)—11, фабком—25, коопэрацыя—15, комсамол—6, Горсавет—3, Райаховыздароўя—2, ЖАКТ—2, Пракурор—1 і г. д.

З усёй вастрынёй і настойлівасьцю трэба паставіць пытаньне аб тым, што нерэагаваньне на допісы, якія зьмяшчаюцца ў друку, „очковтирательские“ адказы павінны разглядацца, як самыя сапраўдныя праявы заціску самакрытыкі, што той, хто не зьвяртае ўвагі на ўжыцьцё патрэбных захадаў па выкрываючых допісах зьяўляецца „гробокопателем“ самакрытыкі. Разам з барацьбой за дзейнасьць допісаў трэба таксама ставіць пытаньне аб неабходнасьці з дню ў дзень выхоўваць рабкораў, яшчэ больш павышаць якасьць іх работы.

### Чым будзе вызначацца якасьць шматтыражкі

Няхай газэта робіцца вельмі бліскуча, але калі на прадпрыемстве ёсьць недавыкананьне прамфінпляну, дык ацэнка можа быць адна:— газэта дрэнная, газэта нездавальняюча спраўляецца з задачамі мобілізацыі рабочых мас вакол справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну. Шматтыражкі разам з усім трохкутнікам нясуць адказнасьць за мобілізацыю рабочых вакол справы выкананьня прамінпляну, нясуць адказнасьць за прарывы ў прамфінпляне.

Красавіковы Пленум Цэнтральнага Камітэту Комуністычнае Партыі (бальшавікоў) Беларусі ў сваёй пастанове аб выніках па выкананьні прамфінпляну за 5 месяцаў 1929-30 г., у адносінах да задач друку запісаў наступнае:

> „... Пленум ЦК КП(б)Б, завастраючы ўвагу на неабходнасьць яшчэ большага разгортваньня самакрытыкі, ператвараючы яе ў сапраўдную зброю барацьбы з усімі недахопамі, прапануе друку, у прыватнасьці фабрычна-заводзкім шматтыражкам, прыняць меры да больш глыбокай пастаноўкі ў газэтах пытаньняў, зьвязаных з работай прамысловасьці, праводзячы на газэтных старонках рашучую барацьбу з усімі недахопамі, якія тармазяць выкананьне прамфінпляну, асабліва даючы адпор усякага роду настроям, якія яшчэ маюцца адносна „об'ектыўных“ цяжкасьцяй, разам з гэтым разгарнуўшы шырокі абгрунтаваны паказ станоўчае практыкі і абмену практыкай асобных прадпрыемстваў у справе барацьбы за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну. Наш друк разам з усім „трохкутнікам“ прадпрыемстваў, нясе адказнасьць ня толькі за асьвятленьне ў газэтах пытаньняў, зьвязаных з прамфінплянам, але і *за конкрэтныя вынікі* па мобілізацыі пролетарскай грамадзкасьці пэўных прадпрыемстваў вакол справы выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну“.

Гэткі павышаны крытэры вымаганьняў да газэт патрабуе, у сваю чаргу, рэзкага палепшаньня і ўдасканаленьня форм і мэтодаў работы шматтыражак і насьценных газэт, іх большай палітычнай

чуласьці, організацыйнай гнуткасьці і яшчэ большай штодзеннай сувязі з рабочай масай.

Гэткі павышаны крытэры да газэт патрабуе, у сваю чаргу, таксама і палепшаньня якасьці як работы саміх рабкораў, так і выхаваўчай работы рэдакцый сярод рабкораў.

### Быць у першых шэрагах тых, хто праводзіць беларусізацыю

Кожная шматтыражка павінна зьяўляцца штурхачом у справе практычнага ажыцьцяўленьня прасоўваньня ў рабочую масу, у быт, беларускай мовы як сродка, які ва ўмовах Беларусі замацоўвае сувязь рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, замацоўвае кіруючую ролю рабочае клясы, яе дыктатуру. Шматтыражкі, зьяўляючыся самі прыкладам ажыцьцяўленьня беларусізацыі, павінны разам з гэтым быць пачынальнікамі барацьбы і за *якасьць* беларускай мовы, якой мы карыстаемся.

### Умець паказваць дасягненьні

Нашы газэты, разгортваючы самую бязьлітасную барацьбу супроць усяго нягоднага і перашкаджаючага ажыцьцяўленьню генэральнай лініі комуністычнай партыі, павінны разам з гэтым, не дэмобілізуючы барацьбы з усім нягодным, таксама ажыцьцявіць думку т. Леніна пра тое, што... не хапае ў нас уменьня скарыстаць лепшыя ўзоры, каб зрабіць іх прыкладамі, абавязковымі для ўсіх". Трэба ня толькі пералічваць дасягненьні, але паказаць *як* гэтыя дасягненьні атрымаліся, трэба *вучыць* на гэтых дасягненьнях. Наш друк яшчэ дагэтуль мала дапамагае тэорэтычна ўзьняцца і ўсьвядоміць вялізарную практыку таму масавіку-актывістаму, які зьяўляецца творцам соцыялізму ў колгасе, на фабрыцы, у раёне (асабліва на прыкладах паказаньня станоўчае практыкі, дакладнага зьбіраньня, праверкі і „анатамічнага" вывучэньня фактаў новага будаўніцтва, праверкі посьпехаў новых пачынаньняў, шырокай агітацыі за праверанымя на практыцы, спосабы і формы работы). Трэба ўмець паказаць „нутро" нашых дасягненьняў ня толькі тое, *што* мы дасягнулі, але і *як* мы гэтыя дасягненьні атрымалі.

> „... Друк павінен служыць зброяй соцыялістычнага будаўніцтва, азнаямляючы ва ўсіх дэталях з посьпехам узорных комун, вывучаючы прычыны іх посьпеху, прыёмы іх гаспадараньня, ставячы, з другога боку, на „чорную дошку" тыя комуны, якія ўпарта захоўваюць „традыцыі капіталізму", г. зн. анархіі, лодырнічаньня, беспарадку, спэкуляцыі". (Ленін. „Очередные задачи советской власти", т. XX, ст. 456).

Да кожнага факта, кожнае лічбы патрэбны цьвярозы, узважаны падыход з тым, каб не дапускаць „очковтирательства" і мыльных пухіроў замест дасягненьняў.

### Забясьпечыць партыйнае кіраўніцтва

*Справа з практычным ажыцьцяўленьнем партыйнага кіраўніцтва фабрычна-заводзкімі друкаванымі газэтамі, якія зьяўляюцца надзвычайна адказным атрадам нашага друку, пастаўлена ў пераважнай большасьці партыйных ячэек—нездавальняюча.*

У большасьці партыйных ячэек даклады рэдакцый былі заслуханы амаль што ўпяршыню і то толькі ў сувязі з скліканьнем усебелярус-

кай нарады. Кіраўніцтва работай рэдколегій шматтыражак і насьценных газэт з боку пераважнай большасьці партыйных ячэек — нездавальняючае, часам формальнае, „штампуючае“.

Пытаньні партыйнага кіраўніцтва рабселькораўскім рухам, рэдколегіямі фабрычных друкаваных і насьценных газэт маюць буйнейшае політычнае і практычнае значэньне.

Трэба асабліва памятаць словы тав. Е. Яраслаўскага, які ў сваёй прамове на Маскоўскай вобласнай нарадзе рабселькораў сказаў наступнае:

„... Нам патрэбна клясавая пільнасьць, патрэбна політычна блізкія нам рабселькоры. А варожыя, політычна і клясава бачаць толькі *дрэнныя бакі*, яны ня бачаць добрага. Вось чаму нам трэба глядзець, што прадстаўляе сабой наша рабселькораўская армія ў політычным сэнсе, у клясавым сэнсе і ў сэнсе свайго культурнага ўзроўню. *Трэба вучыцца* для таго, каб рухацца наперад і штурхаць другіх, для таго, каб выпраўляць памылкі іншых. Трэба *саміх сябе* перарабіць, самім заняцца сур‘ёзнай вучобай“.

Наступныя факты, узятыя намі ў выбарачным парадку з матэрыялаў сэктару друку Культпропу ЦК КП(б)Б, сьцьвярджаюць вывад аб дрэннай якасьці, а часам і аб поўнай адсутнасьці кіраўніцтва работай фабрычных газэт з боку значнай часткі партыйных ячэек.

Рэдколегія газэты на фабрыцы „Дняпроўская мануфактура“ піша:

„Адсутнічала дапамога з боку ўсіх грамадзкіх організацый фабрыкі, партыйнае кіраўніцтва было вельмі слабае (з 100 партыйцаў у газэце ўдзельнічала 2-3 чалавекі). Справаздачы рэдколегіі рэдка ставіліся на паседжаньнях партыйнага колектыву“.

На Добрушскай фабрыцы „Герой Працы“ агульны сход рабочых, на якім прысутнічала 205 чалавек, адзначае:

„Работа рэдколегіі праводзілася недастаткова. З 180 рабкораў у газэце актыўна ўдзельнічае толькі 25 проц. Ня было дастатковага кіраўніцтва і практычнай дапамогі як з боку профсаюзных організацый, так і з боку цэхавых ячэек КП(б)Б“.

Спэцыяльная нарада профактыву гэтай-жа фабрыкі, скліканая ў сувязі з усебеларускай нарадай шматтыражак, досыць самакрытычна запісала ў сваёй рэзолюцыі, што:

„... У сувязі з тым, што з боку фабкому ня было належнае ўвагі і кіраўніцтва, а таксама адсутнічала рэагаваньне на допісы, *рэдколегія распалася*“.

„Бюро партыйнага колектыву,—пішацца ў рэзолюцыі колектыву заводу імя Ланцуцкага, — лічыць работу рэдколегіі нездавальняючай... Адзначыць, што з боку мясцкому адсутнічае ўсякае кіраўніцтва“.

*Бяз дробнай апекі, бяз умешваньня ў дробныя справы, нам трэба забясьпечыць самае ўважлівае політычнае кіраўніцтва работай фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт з боку партыйных організацый.*

(*Працяг будзе*)

Р. Кугель

# Чарговыя задачы ў выкладаньні і вывучэньні гісторыі партыі, ленінізму і гісторыі Комінтэрну

*(Паводле матар'ялаў Усесаюзнай нарады выкладчыкаў гэтых дысцыплін)*

Невыпадкова гэта нарада, першая ў гісторыі нашае партыі, была склікана ў сучасны момант. Практыка нашага жыцьця паставіла цяпер на ўсю шырыню пытаньне аб паглыбленьні і пашырэньні ў масах тэорыі і гісторыі барацьбы за соцыялізм і соцыялістычнае будаўніцтва.

У сучасны момант, калі ў рэволюцыйны рух і ў соцыялістычнае будаўніцтва ўцягваюцца мільёны працоўных, рабочых і сялян усяго сьвету вялізарную ролю, амаль што рашучую, адыгрывае пытаньне тэорыі.

Усе з нас ведаюць славутыя словы Леніна, „што без рэволюцыйнае тэорыі ня можа быць рэволюцыйнага руху". І зусім зразумела, што цяпер, калі барацьба сусьветнага пролетарыяту за комунізм паднялася на такую нябачную ў гісторыі вышыню, пытаньне тэорыі рэволюцыйнае барацьбы, як ніколі адыгрывае вялізарную практычную ролю. Невыпадкова тое, што тав. Сталін, правадыр УсеКП(б) і Комінтэрну, зьвярнуў цяпер увагу ўсяе партыі на актуальнае значэньне пытаньня тэорыі.

Напамінаючы тое, што „тэорыя, калі яна зьяўляецца сапраўднай тэорыяй, дае практыкам сілу орыентыроўкі, яснасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у працы, веру ў перамогу нашае справы", тав. Сталін зьвярнуў увагу на тое, што ў той час, калі „новая практыка нараджае новы падыход" да многіх пытаньняў клясавае барацьбы, мы ў тэорэтычным разуменьні гэтага новага, недапушчальна астаемся.

Зусім ясна, што такое становішча значна пагражае практыцы барацьбы за комунізм.

Мы цяпер знаходзімся на парозе новага этапу тэорэтычнага разьвіцьця нашай партыі. На нашых вачох прайшлі і яшчэ ідуць бойкі на філёзофскім, экономічным і літаратуразнаўчым франтох ідэолёгіі. У гэтых бойках па сутнасьці, галоўным чынам, ішла барацьба па марксыцка-ленінскаму разуменьню прадмету і мэтоду гэтых навук, барацьба з ідэалістычнымі і эклектычнымі скажэньнямі марксызму і ленінізму. Тыя перамогі, якія ёсьць у выніках гэтае барацьбы, адчыняюць зараз перад усімі марксыстымі шырокі прасьцяг для правільнага прымяненьня мэтаду дыялектычнага матэрыялізму да ўсіх прадметаў навукі.

Зараз мы стаімо перад новаю задачаю—распрацаваць марксыцка-ленінскае разуменьне прадмету і мэтоду такіх дысцыплін, як гісторыі партыі, Комінтэрну і ленінізму і абвесьціць рашучую барацьбу ўсялякім ідэалістычным, мэханістычным і эклектычным скажэньням іх.

Нарада, што адбылася ў Маскве выкладчыкаў ленінізму, гісторыі партыі і Комінтэрну ў асноўным займалася гэтымі пытаньнямі і дала ім сваё рашэньне.

Але перш, чым высьвятліць рашэньне нарады па гэтых пытаньнях, трэба застанавіцца на тым, у якім становішчы знаходзіцца цяпер выкладаньне гэтых дысцыплін у нашых навучальных установах.

Трэба сказаць, што дагэтуль мы ня мелі дастаткова вычарпаных указаньняў наконт прадмету і мэтоду вышэйпамянутых дысцыплін. І зусім зразумела, што гэта ўтварыла падставу для розных „адсебяцін“. Мы зусім не памылімся, калі скажам, што ня толькі ў кожным горадзе, але нават у кожнай навучальнай установе, у розных выкладчыкаў назіраўся хаос розных разуменьняў прадмету і мэтоду гісторыі партыі і Комінтэрну, і ленінізму, а таксама ўтвараліся рознастайныя праграмы, якія часта рэзка адрозьніваліся адна ад аднае.

Зусім ясна, што пры такой стыхійнасьці ўтварылася глеба для пашырэньня розных ухілаў ад правільнага разуменьня прадмету і мэтоду гэтых дысцыплін і іх месца ў вучэбным пляне тае ці іншае навучальнае ўстановы. З аднаго боку мы назіраем лінію на зьліцьцё ленінізму з дыялектычным і гістарычным матэрыялізмам, альбо з гісторыяй партыі; на зьліцьцё гісторыі партыі з гісторыяй клясавае барацьбы ў Расіі; на зьліцьцё гісторыі Комінтэрну з гісторыяй клясавае барацьбы наогул. Зусім зразумела, што такая лінія па сутнасьці зацірала і ленінізм, і гісторыю партыі і гісторыю Комінтэрну.

З другога-ж боку, назіралася лінія амаль поўнага адрыву вышэйпамянёных дысцыплін ад іншых дысцыплін, з якімі яны па сутнасьці цесна зьвязаны. Такая лінія прыводзіла, напрыклад, да таго, што пры вывучэньні ленінізму амаль што праводзілі курсы дыялект. і істмата, г. зн, рабілі тое, што не адпавядае ленінізму, як асобнай дысцыпліне.

Калі мы прыгледзімся да канкрэтнага жыцьця нашых навучальных устаноў, то мы заўважым, што найбольш небясьпечнай зьяўляецца лінія на „заціраньне“ ленінізму, гісторыі партыі і Комінтэрну. Возьмем, напрыклад, навучальны плян Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Вы там ня знойдзеце, калі пашукаеце, такіх дысцыплін, як навуковае вывучэньне гісторыі партыі і Комінтэрну, як асобных навуковых дысцыплін. Гэтыя дысцыпліны зьліваліся з гісторыяй Расіі і клясавае барацьбы на Захадзе, Усходзе і Амэрыцы. Мы павінны зазначыць, што такія адносіны да гісторыі партыі, Комінтэрну выхоўваюць у студэнта няправільнае разуменьне ролі партыі ў рэволюцыйнай барацьбе рабочае клясы за комунізм. Гэтае-ж няправільнае разуменьне пераносіцца былымі студэнтамі унівэрсытэту ў тыя навучальныя ўстановы, у якіх яны вядуць сваю пэдагогічную і навуковую працу.

Калі мы спусьцімся крыху ніжэй, у сярэднія зьвеньні навучаньня, дык убачым яшчэ больш сумны малюнак. У гэтых навучальных установах амаль што зусім няма гісторыі партыі і Комінтэрну, а калі ёсьць, дык гэтае вывучэньне зводзіцца да завучваньня колькасьці канфэрэнцый, тэрміну іх склíканьня і паасобных пытаньняў партыйнае тактыкі.

Мы павінны яшчэ адзначыць і тое, што сярод пэўнае часткі навуковых працаўнікоў, сярод якіх ёсьць і партыйцы, існуе думка, што займаньне ленінізмам, гісторыяй партыі і Комінтэрнам не зьяўляецца навуковай працай і што імі могуць займацца ня зусім сур'ёзныя наву-

ковыя працаўнікі. Такім поглядам, якія адбіваюць буржуазныя і дробнабуржуазныя профэсарскія погляды на ролю і значэньне такіх дысцыплін, як гісторыя партыі, Комінтэрну і ленінізму, трэба даць рашучы адпор.

Такое становішча з вывучэньнем гэтых дысцыплін больш нельга цярпець і ўжо прышоў момант, калі трэба ў гэтым напрамку зрабіць рашучы пералом.

Маскоўская нарада, бязумоўна, у гэтым пераломе адыграе вялізарную ролю, як тым, што яна ў пяршыню паставіла пытаньне аб навуковым зьмесьце гісторыі партыі, Комінтэрну і ленінізму, таксама і аб месцы гэтых дысцыплін у навучальных плянах розных ступеняй навучальных установ.

* * *

Гісторыя партыі, як навуковая дысцыпліна, мае вялізарнае значэньне ня толькі для нашае краіны, але і для тых краін, дзе пролетарыят разгортвае сваю барацьбу за дыктатуру пролетарыяту. „Ні ў воднай краіне,—пісаў тав. Ленін,—ня было сконцэнтравана на такім кароткім прамежку часу такога багацьця *форм, адценьняў, мэтодаў* барацьбы *ўсіх* кляс сучаснага грамадзтва. (Ленін, т. XVII, стар. 120, курсыў мой—*Р. К.*). Адначасова тав. Ленін падкрэсьліваў, што наш вопыт клясавае барацьбы не зьяўляецца толькі нацыянальным і што ён мае вялізарнае значэньне для міжнароднага пролетарыяту. „*Вопыт давёў,*—пісаў тав. Ленін,—*што ў некаторых вельмі істотных пытаньнях пролетарскай рэволюцыі ўсім краінам няўхільна прадстаіць праробіць тое, што прарабіла Расія*“ (Ленін, т. XVII, стар. 124).

Гісторыя нашае комуністычнае партыі мае найбагатшы вопыт кіраўніцтва пролетарыятам і сялянствам у буржуазна-дэмократычнай і пролетарскай рэволюцыях, вопыт будаўніцтва новае савецкае дзяржавы, вопыт палітыкі соцыялістычнага будаўніцтва, нацыянальнае палітыкі, кіраўніцтва профсаюзным рухам, вопыт будаўніцтва партыі і г. д. Зусім ясна, што вопыт нашае барацьбы за комунізм патрэбен міжнароднаму пролетарыяту. Правільнае засваеньне нашага вопыту можа ў значнай меры скараціць мукі родаў новага соцыялістычнага грамадзтва.

Улічваючы ўсё вышэйпаказанае, відавочным становіцца актуальнае значэньне пастаноўкі пытаньня аб гісторыі партыі, як навукі.

Кожная навуковая дысцыпліна мае свой прадмет і мэтод вывучэньня.

Што зьяўляецца прадметам гісторыі партыі, як навукі?

На гэтае пытаньне Маскоўская нарада дала наступны адказ: Гісторыя УсеКП(б) ёсьць гісторыя політычнай організацыі пролетарыяту, яго авангарду ў справе кіраўніцтва рабочай клясай і працоўнымі масамі ў барацьбе за дыктатуру пролетарыяту і канечную мэту яго барацьбы—за комунізм. *Прадметам гісторыі партыі зьяўляецца гісторыя яе програмна-тэорэтычных, тактычных і організацыйных поглядаў, унутрыпартыйнае барацьбы і аб‘ектыўных умоў распрацоўкі гэтых поглядаў, організацыйнага будаўніцтва і ўсяе практычна-політычнае дзейнасьці партыі ва ўсёй яе рознастайнасьці* (*многообразий*). Задача гісторыі партыі—шляхам прымяненьня мэтоду гістарычнага матэрыялізму—вывучыць, аб‘ясьніць і апісаць конкрэтны шлях „сапраўднага процэсу жыцьця“ (Маркс) партыі ў яе ўзьнікненьні („які знамянуе ператварэньне з клясы ў сабе ў клясу для сябе“), у яе разьвіцьці, у яе барацьбе за дыктатуру пролетарыяту і за комунізм.

Задача навуковае гісторыі партыі вывучыць яе самарух у цеснай сувязі з усёю клясаваю барацьбою, *устанавіць спэцыфічныя законамернасьці процэсаў яе ўнутранага жыцьця і агульна-палітычнае дзейнасьці партыі пролетарыяту. Спэцыфічныя законамернасьці, якія ўстанаўляюцца гісторыяй партыі ў адрозьніваньні ад законамернасьці разьвіцьця рабочага руху ў цэлым, вызначаюцца тым, што партыя зьяўляецца важнейшым суб'ектыўным фактарам клясавае барацьбы пролетарыяту, прадстаўляе інтарэсы клясы ўцалку і кіруецца ў сваёй барацьбе тымі мэтамі, якія адпавядаюць сапраўднаму шляху гістарычнага разьвіцьця ў сучаснай грамадзе, вызначаюцца спэцыфічнымі формамі дзейнасьці партыі.* Тэорэтычныя і організацыйныя перавагі партыі ў параўнаньні з рабочай клясай уцалку даюць магчымасьць утварэньня больш сьвядомых і плянамерных форм руху партыі ў параўнаньні з рухам рабочае клясы ўцалку, заўсёды, нават пры дыктатуры пролетарыяту ня вольная ад элемэнтаў стыхійнасьці, цэхаўшчыны".

Такое разуменьне прадмету гісторыі партыі, як навукі, кідае яснае сьвятло на ўхілы, якія ёсьць, па вывучэньні гэтае дысцыпліны.

З аднаго боку існуе такая плынь, якая зводзіцца да таго, што гісторыя партыі нічым не адрозьніваецца ад іншых грамадзкіх дысцыплін. Такі погляд на практыцы прыводзіць да таго, што гісторыя партыі зьліваецца з гісторыяй клясавае барацьбы наогул. У чым памылковасьць гэтае плыні? Асноўная памылка гэтае плыні заключаецца ў тым, што яна прыводзіць да „змазваньня ролі партыі, *як важнейшага суб'ектыўнага фактару* барацьбы пролетарыяту і зьмешваньня партыі з клясаю".

Калі ўзяць палітычнае значэньне гэтае плыні, дык яна па сутнасьці ідзе па шляху меншавіцкага разуменьня ролі партыі, не як авангарду рабочае клясы, а толькі рэгістратара і прыдатка рабочага руху. Няма чаго гаварыць аб тым, што такая плынь зьяўляецца варожаю ленінскаму разуменьню ролі партыі і што яна вядзе нас ня ўперад, а назад. Таксама гэтая плынь не дае нам магчымасьці разуменьня гістарычнага процэсу барацьбы за пролетарскую рэволюцыю і комунізм.

З другога боку, назіраем і такую плынь, ня менш, калі ня больш, небясьпечную, якая разумее ролю партыі, як вольнага дэміурга рэволюцыі і гісторыі, якая разглядае гісторыю партыі, як нарматыўную навуку, а процэс гістарычнага яе разьвіцьця, як тэлеолёгічны процэс (тав. Юдоўскі).

Найбольш выразна сваё вырашэньне знайшла гэтая плынь у адным пункце тэзісаў тав. Юдоўскага, кіраўніка катэдры гісторыі партыі ў Сьвярдлоўскім унівэрсытэце, у якім сказана наступнае: *„Калі гісторыю клясавае барацьбы мы вывучаем з пункту гледжаньня законамернасьці, дык гісторыю партыі мы вывучаем з пункту гледжаньня мэтазгоднасьці"*. Таксама ў сваім выступленьні на конфэрэнцыі гісторыкаў-марксыстых тав. Юдоўскі гаварыў, што *пэрыодызацыю гісторыі партыі трэба рабіць з пункту гледжаньня тых мэт, якія сабе партыя ставіла.*

Зусім зразумела, што нарада ў сваёй рэзолюцыі „гісторыі партыі, як навука" павінна была напісаць, што погляды тав. Юдоўскага на прадмет гісторыі партыі зьяўляюцца „скочваньнем да ідэалізму, які прадстаўляе сур'ёзную небясьпеку ў сувязі з ажыўленьнем у апошні час ідэалізму пад марксыцкім сьцягам (рубіншчына)".

Правільны шлях разуменьня гэтага пытаньня прадмету гісторыі партыі, як навукі, дае нам у наступных словах т. Ленін: „Марксызм,— піша ён,—адрозьніваецца ад усіх социялістычных тэорый выдатным

*злучэньнем* поўнае навуковае цьвярозасьці ў аналізе об'ектыўнага становішча спраў і об'ектыўнага шляху эволюцыі і з самым рашучым прызнаньнем рэволюцыйнае энэргіі, рэволюцыйнае творчасьці, рэволюцыйнай ініцыятывы мас,—а таксама, канечна, паасобных асоб, груп, організацый, партый, якія ўмеюць намацаць і рэалізаваць сувязь з тымі ці іншымі клясамі" (Ленін, т. VIII, стар. 450-451).

Тав. Ленін у гэтай вытрымцы, як бачым, гаворыць аб неабходнасьці рашучага прызнаньня ролі рэволюцыйнае партыі, але таксама ставіць задачу перад партыяй намацаць і рэалізаваць сувязь з клясай.

Нарада, якая абвесьціла барацьбу на два фронты—супроць мэханістычнага і ідэалістычнага разуменьня прадмету гісторыі партыі, як навукі—такім чынам ішла па шляху паказанаму тав. Леніным.

Трэба яшчэ адзначыць, што ў асобе тав. Мартынава—былога меншавіка і цяперашняга комуністага—мы маем прадстаўніка тае тэорыі, якая гаворыць, што быццам гісторыя нашае партыі ёсьць продукт зьліяньня бальшавізму з тым дадатным, што было ў гісторыі меншавізму. Бязумоўна, такая „тэорыя" паказвае поўнае неразуменьне Мартынавым сутнасьці двух плыняў: дробна-буржуазнай і пролетарскай. Нарада зусім зразумела абвясьціла вайну таксама гэтай эклектычнай плыні.

Зараз трэба даць адказ, у чым заключаецца *асаблівасьць* мэтаду гісторыі партыі, як навукі. На гэта нарада дала наступны адказ: „Асаблівасьць мэтоду, які прымяняецца ў гісторыі партыі, азначаецца таксама тым, што яна павінна высьветліць адпаведнасьць суб'ектыўных політычных ацэнак і практычных дзеяньняў партыі, якія грунтуюцца на тэорыі марксызму-ленінізму, об'ектыўным умовам грамадзкага разьвіцьця і магчымасьцям клясавае барацьбы на кожным даным этапе, а таксама іх сувязь і адпаведнасьць канечным мэтам барацьбы пролетарыяту за комунізм".

Вышэйсказанае аб прадмеце і мэтодзе гісторыі партыі, як навукі, дае магчымасьць вызначыць тыя задачы, якія стаяць перад гісторыяй партыі.

Перш-наперш трэба адхіліць той погляд, быццам інтарэсы актуальнае барацьбы не даюць магчымасьці выкладаць об'ектыўна, г. зн. навукова, шляхі гісторыі партыі. Гэты погляд грунтуецца на тым, што быццам політыка партыі ня будуецца на глыбокім грунце навукі, што быццам політыка рабочае клясы не зьяўляецца навуковай. Прыхільнікі гэтага пункту гледжаньня забываюць, што партыйнасьць зьяўляецца абавязковай пры вывучэньні ня толькі гісторыі, але таксама пры вывучэньні такое дысцыпліны, як філёзофія. Бязумоўна, такі погляд на гісторыю зьяўляецца струвіанскім поглядам пунктам гледжаньня буржуазнага об'ектывізму, супроць якога Ленін у свой час вёў рашучую барацьбу. Зусім зразумела, бальшавіцкая нарада падкрэсьліла, што „ленінская гісторыя партыі чужая буржуазнаму аб'ектывізму, адарванасьці ад сучаснасьці. Праводзячы ў дасьледваньне пункт гледжаньня найстрогае партыйнасьці, якая аднолькава забясьпечвае сапраўдную навуковасьць дасьледваньня, гісторыя партыі служыць баявым задачам зьнішчэньня капіталізму, у справе будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне і барацьбе за міжнародную рэволюцыю".

Гісторыя нашае партыі ўзьнікла і разгортвае сваю працу ў эпоху імпэрыялізму. Зусім зразумела, што пры вывучэньні гісторыі партыі трэба мець на ўвазе характэрныя асаблівасьці гэтай эпохі, законы яе разьвіцьця і яе ўплыў на рэволюцыйную барацьбу пролетарыяту з буржуазіяй.

Гісторыю нашае партыі трэба вывучаць у цеснай сувязі з гісторыяй рабочага руху нашае краіны, са ўсёю барацьбою рабочае клясы за зьвяржэньне царызму, за рэволюцыйна-дэмократычную дыктатуру пролетарыяту і сялянства і за ператварэньне гэтае дыктатуры ў дыктатуру пролетарыяту, а таксама з барацьбою за соцыялістычнае будаўніцтва.

Таксама трэба вывучаць гісторыю нашае партыі ў сувязі з гісторыяй міжнароднага рабочага руху. Гісторыя нашае партыі ўвабрала ў сябе рэволюцыйную тэорыю, формы і мэтоды рэволюцыйнае барацьбы рабочае клясы на захадзе. Тав. Ленін пісаў, што „ў працягу амаль штопаўстагодзьдзя, прыкладам з 40—90 г. г. прошлага стагодзьдзя, перадавая думка ў Расіі пад уціскам нябачанага дзікага рэакцыйнага царызму, прагна шукала правільнае рэволюцыйнае тэорыі, сочачы з дзіўнай старannасьцю і дакладнасьцю за ўсялякім і кожным „апошнім словам“ Эўропы і Амэрыкі ў гэтай галіне“ (Ленін, т. XVII, выд. I, стар. 119).

Ці можна зводзіць гісторыю ўсяе нашае партыі да гісторыі соцыял-дэмократыі наогул? На гэта нарада дала наступны адказ: „Гісторыя нашае партыі ёсьць гісторыя бальшавізму ў Расіі. Яна ня можа быць зьведзена да гісторыі соцыял-дэмократыі наогул. З гэтага пункту гледжаньня неабходна паставіць вывучэньне гісторыі партыі такім чынам, каб *на ўсім працягу* гісторыі соцыял-дэмократыі з моманту яе ўзьнікненьня выявіць рэволюцыйны струмень разьвіцьця соцыял-дэмократыі, традыцыі якое працягваў і разьвіваў бальшавізм з моманту свайго афармленьня ў асобную палітычную партыю (1903 год). Аб'яднанае суіснаваньне бальшавізму ў вызначаны пэрыод (з 1906—10—11 г. г.) у „блёкі“ з іншымі групамі соцыял-дэмократыі ніколькі не зьмяняе задачы, бо на ўсім працягу свае гісторыі ленінізм прадстаўляў асобую тэорэтычную і палітычную сыстэму поглядаў, заўсёды аддзяляе і прaціпастаўляе сябе другім плыням соцыял-дэмократыі, захоўвае з моманту свайго выдзяленьня ў асобую самастойную організацыю. Гэта ні ў якім разе не азначае, што мы не павінны прызначаць сур'ёзнага месца агульнай гісторыі соцыял-дэмократыі, без чаго немагчыма было-б зразуменьне бліжэйшых умоў гістарычнага разьвіцьця бальшавіцкае партыі, якая вырастала ў барацьбе супроць гэтых груп соцыял дэмократыі“.

Аднэй з асноўных задач зьяўляецца вывучэньне сутнасьці розных ухілаў управа, „ўлева“ ад ленінскае лініі партыі, а таксама і з прымірэнцтвам да іх. „Перамаганьне ўнутры-партыйных разнагалосьсяў,— пісаў тав. Сталін,—шляхам барацьбы зьяўляецца *законам* разьвіцьця нашае партыі“ (Сталін. Об оппозиции, стар. 442).

Пры вывучэньні сутнасьці эволюцыі і розных ухілаў, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на гістарычнае ператварэньне троцкізму ў контррэволюцыйную плынь і галоўным чынам на сутнасьць гістарычных карэньняў правага опортунізму, які зьяўляецца ў сучасны момант галоўнай небясьпекай у партыі, а ў былыя годы зьяўляўся галоўным ворагам бальшавізму.

Гісторыя нашае партыі ня ёсьць толькі гісторыя цэнтральных організацый і ўстаноў партыі. Неабходна вывучаць гісторыю партыі ва ўсёй яе дзейнасьці, ва ўсіх тых месцах, дзе яна вяла барацьбу. Такім чынам неабходна разгарнуць працу па вывучэньню гісторыі мясцовых і нацыянальных організацый, вядучы рашучую барацьбу з імкненьнем утварыць няправільную тэорыю, быццам ня толькі бальшавіцкія організацыі ў гэтых мясцох, якія працавалі ў пачатку гісторыі нашае партыі і далей—зьяўляюцца гістарычнымі карэньнямі комуністычных організацый і партыі сучаснага моманту, але і тыя дробна-

буржуазныя організацыі, якія былі ў гэтых мясцох (РУП, УСДРП, БСГ). Зусім зразумела, што з гэтай тэорыі „двухкарэннасьцяй“, пры вывучэньні гісторыі партыі, трэба вясьці рашучую барацьбу, бо гістарычнымі карэньнямі сучасных мясцовых комуністычных організацый і нацыянальных компартый зьяўляюцца толькі тыя бальшавіцкія організацыі, якія ўзьніклі і працавалі ў гэтых мясцох і вялі ўвесь час барацьбу з дробна-буржуазнымі плынямі і організацыямі.

Асабліва значэньне ў вывучэньні гісторыі партыі мае пэрыодызацыя яе, што набывае ня толькі рабочае, але і вялікае прынцыповае значэньне, хоць-бы з таго, што назіраецца ў сучасны момант імкненьне ідэалізаваць папярэднікаў соцыял-дэмократыі і бальшавізму (Сьцяклоў у сваёй працы аб Чарнышэўскім, Тэодаровіч у сваёй працы аб „Народнай Волі“).

На нарадзе была прынята ў асноўным наступная пэрыодызацыя гісторыі партыі: Нараджэньне соцыял-дэмократыі (70—83 г. „Група вызваленьня працы“) і гістарычная падрыхтоўка бальшавізму (83—903 г.), 2) утварэньне бальшавіцкае партыі і яе барацьба за гегемонію ў рабочым руху і кіраўніцтва сялянствам у эпоху буржуазна-дэмократычнае рэволюцыі (903—917 год), 3) партыя ў пролетарскай рэволюцыі (сакавік-лістапад 1917 г.), 4) партыя ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту (1917 г. і г. д.)“.

„Такая пэрыодызацыя,—як падкрэсьліла нарада,—не выключае, а дапускае больш дэталёвую пэрыодызацыю гісторыі партыі ўнутры кожнага асноўнага пэрыоду ў сувязі з грамадзкімі зрухамі, якія выклікалі зьмену ў тактыцы і організацыі партыі“.

Нарада таксама падкрэсьліла, што ва ўводзінах да гэтае пэрыодызацыі павінна быць распрацавана пытаньне аб *папярэдніках* соцыял-дэмократыі ў расійскім рэволюцыйным руху, карыстаючыся тут ленінскімі ўказаньнямі ў гэтым пытаньні (пытаньне аб „спадчыне“).

Зусім зразумела, што вывучэньне твораў Леніна, гэтага лепшага гісторыка нашае партыі, зьяўляецца важнейшым зьвяном у распрацоўцы навуковае гісторыі нашае партыі. Таксама зусім зразумела, што распрацоўка навуковае гісторыі партыі павінна ісьці паралельна з зьбіраньнем і публікацыяй усіх дакумантаў і матар‘ялаў, асабліва пад тым пэрыодам, які зараз альбо зусім, альбо мала вывучаны (эпоха рэакцыі і ўздыму пасьля кастрычнікавага пэрыоду і г. д.). Трэба адзначыць, што зьбіраньне гэтых матар‘ялаў і іх вывучэньне зьяўляецца важнай прадумовай да ўтварэньня навуковае гісторыі партыі.

Другім важным пытаньнем, якое стаяла на нарадзе, было пытаньне аб ленінізьме, як навуковай дысцыпліне і прадмеце выкладаньня.

У чым сутнасьць ленінінізму, як асобае навуковае дысцыпліны і прадмету выкладаньня? На гэта нарада дала наступны адказ: „Ленінізм, як асобая навуковая дысцыпліна і асобны прадмет выкладаньня ёсьць марксыцкае вучэньне эпохі імпэрыялізму аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту, альбо інакш кажучы, аб програме, стратэгіі, тактыцы, організацыі пролетарыяту ў барацьбе за яго дыктатуру і ажыцьцяўленьне яе задач, г. зн. за ўтварэньне комуністычнага грамадзтва. Прымаючы такое значэньне ленінізму, як асобнае дысцыпліны, мы тым самым адкідваем усе спробы „зьлева“ і справа, ці-то зьменшыць значэньне ленінізму, зводзячы яго да простага прыменьня вучэньня Маркса-Энгельса да практыкі рэволюцыі (троцкісты), ці-то зьвесьці яго да вучэньня, якое вырасла на глебе рэволюцыі ў нашай краіне і толькі да яе належыць, ці-то сказіць асноўны зьмест ленінізму, паказваючы за гэты асноўны зьмест пытаньне аб сялянстве (тав. Зіноўеў)“.

Ленінізм ёсьць далейшае разьвіцьцё вучэньня Маркса-Энгельса. Ленінізм вырастаў у непарыўнай і бязьлітаснай барацьбе з ворагамі ўнутры рабочага руху—правым опортунізмам і дробна-буржуазнай рэволюцыйнасьцю. Ленінізм увесь час падпадаў і падпадае спробам рэвізій, як справа, гэтак і „зьлева“ ў комуністычным лягеры. Ленінізм, як усё на сьвеце падпадае закону разьвіцьця“.

„Такім чынам,—сказана ў рэзолюцыі нарады па гэтаму пытаньню,—ленінізм, як навуковая дысцыпліна і прадмет выкладаньня складаецца з наступных асноўных элемэнтаў: 1) асноўныя палажэньні вучэньня Маркса-Энгельса аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту, аб яго програме, тактыцы і організацыі; 2) барацьба з скажэньнямі гэтага вучэньня ў тэорыі і практыцы II-га Інтэрнацыяналу; 3) ленінскае вучэньне аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пралетарыяту, аб яго програме, стратэгіі, тактыцы і організацыі; 4) прымяненьне і разьвіцьцё гэтага вучэньня ва ЎсеКП і Комінтэрне пасьля Леніна; 5) барацьба на „два-фронты“ з скажэньнямі гэтага вучэньня, рэвізіёнісцкімі плынямі ва ЎсеКП і Комінтэрне і прымірэнцтвам да іх.

Пасьля пытаньня аб асноўным зьмесьце ленінізма, як асобае навуковае дысцыпліны, паўстае пытаньне аб тым, якое месца займае ленінізм сярод рэшты дысцыпліны, якія вывучаюцца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах.

Тэорытычныя асновы ленінізму ляжаць у марксыцкай філёзофіі (матэрыялістычная філёзофія — дыялектыка), марксыцка-гістарычнай тэорыі (гістарычны матэрыялізм) і марксыцка экономічнай тэорыі (марксыцкая палітэканомія). Таксама ленінізм узьнікае і разьвіваецца на вопыце клясавае барацьбы пролетарыяту і яго партыі, зьяўлячыся навуковым абагуленьнем гэтага вопыту.

Як-жа ленінізм павінен ставіцца да гэтых тэорытычных і гістарычных дысцыплін: філёзофіі, істмату, палітэканоміі, гісторыі клясавае барацьбы і гісторыі партыі.

Нарада рашуча выступіла супроць тых, якія зьліваюць ленінізм з усімі гэтымі дысцыплінамі, альбо з аднэй з іх, а таксама супроць тых, якія адрываюць ленінізм ад гэтых дысцыплін. Нарада паказала, што вывучэньне ленінізму павінна ставіцца, „як *завяршэньне* курсаў асноўных грамадзкіх ведаў, як дысцыпліны, якая завяршае сабою вывучэньне агульна-тэорэтычных і гістарычных грамадзкіх дысцыплін“.

Такім чынам, ні тэорэтычная, ні гістарычная дысцыпліна ня вылучаюцца ў ленінізьме, як асобай дысцыпліне, а зьяўляюцца толькі выходнымі момантамі для яго. Але ў той-жа самы час нарада знайшла неабходным падкрэсьліць, што, ня гледзячы на тое, што дыялектыка, як асобная дысцыпліна, ленінізмам не вывучаецца, трэба заўсёды пры вывучэньні ленінізму будаваць гэтую дысцыпліну такім чынам, каб „на кожнай яе проблеме ўскрываўся мэтод, які прымяняецца Марксам і Леніным пры яе пастаноўцы і вырашэньні і каб у выніку ўсяго курсу ленінізму, вывучаючы яго, сапраўды маглі ўладаць маркса-ленінскай дыялектыкай у яе прымяненьні да кожнага пытаньня тэорыі і практыкі пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту“.

Як мы ўжо гаварылі вышэй, ленінізм рос, разьвіваўся і разьвіваецца. Таму пры вывучэньні ленінскіх ідэй, трэба да іх падыходзіць гістарычна, што зьнішчыць небясьпеку ператварэньня ленінізму ў няжывую догму. Адначасова трэба зьвярнуць увагу на тое, каб гістарычны падыход да ленінскіх падзей ня вытравіў з ленінізму яго тэорэтычны зьмест. Ленінізм гэта ёсьць тэорыя і тактыка міжнароднай пролетарскай рэволюцыі, г. зн., што ленінізм, як яшчэ Ленін у свой час пісаў, мае „агульна-прымянімае, агульна-значымае, агульна-абавязковае“ для пролетары-

яту ўсяго сьвету ў яго барацьбе за комунізм. Адсюль-жа і вынікае *асноўная задача* вывучэньня і выкладаньня ленінізму—*умець выдзяляць гэтае „агульна-значымае“, умець спалучаць яго з гістарычна-конкрэтнай пастаноўкаю кожнае проблемы, засвоіць маркса-ленінскі мэтод прымяненьня „агульна-значымага“, „агульна-абавязковага“ да кожнае конкретнае абстаноўкі.* Пры такім вывучэньні ленінізму, мы, з аднаго боку, б‘ем тых, якія ня бачаць ленінскае тэорыі, а таксама тых, якія не разумеюць гістарычнага разьвіцьця ленінскіх ідэй.

Нарада папярэдзіла тую нябясьпеку, якая высьвятлілася ў выкладаньні ленінізму, а менавіта—імкненьне засушыць, заакадэмізіраваць, ператварыць ленінізм у якуюсьці схолястыку. Ленінізм павінен быць увесь *прасякнуты дзейнасьцю.* Усё выкладаньне ленінізму павінна быць так пастаўлена, каб у сьвядомасьці кожнага, хто вывучае ленінізм, ён ператварыўся ў кіраўніцтва да дзейнічаньня. Ленінізм павінен быць прыладаю ня толькі ў разуменьні сапраўднасьці, але і таксама і прыладаю зьмяненьня яе. Ленінізм павінен займацца тымі новымі пастаноўкамі новых пытаньняў, аб якіх гаварыў тав. Сталін на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых. Ленінізм павінен быць баявым курсам. Ён таксама павінен даць падставу для асаблівага вывучэньня такіх галін ведаў, як партыйнае будаўніцтва, экономічная політыка і савецкае будаўніцтва.

З якіх тэм павінна складацца програма па ленінізму?

Нарада вызначыла наступныя тэмы програмы ленінізму:

1) Уступная. *Ленінізм, як асобая навуковая дысцыпліна* (марксызм і ленінізм, іх гістарычныя карэньні, сутнасьць і мэтод). 2) *Агульная тэорыя пролетарскае рэволюцыі.* 3) *Вучэньне аб дыктатуры пролетарыяту.* 4) *Вучэньне аб соцыялістычным будаўніцтве.* 5) *Аграрна-сялянскае пытаньне.* 6) *Нацыянальнае і колёніяльнае пытаньне.* 7) *Вучэньне аб партыі* (стратэгія, тактыка і організацыя партыі). 8) *Дыялектыка і яе прымяненьне па вучэньні тэорыі рэволюцыі.*

Да асобных тэм трэба дадаць асобныя падтэмы, напрыклад, у тэму аб дыктатуры пролетарыяту трэба ўключыць вучэньне аб вайне імпэрыялістычнай і грамадзянскай, да тэмы—вучэньне аб соцыялістычным будаўніцтве—уключыць падтэму аб культуры. Апошняя тэма павінна заключаць увесь курс ленінізму. Таксама нарада падкрэсьліла, што гэтыя падтэмы ў асобных навучальных установах, як, напрыклад, у вайсковых, пытаньне аб вайне, падтэма павінна праходзіць як поўная тэма.

Нарада шмат увагі прызначыла пытаньню мэтоду выкладаньня ленінізму. Яна падкрэсьліла, што найлепшым мэтодам выкладаньня ленінізму зьяўляецца лябораторны. Да лекцыі трэба зьвяртацца ў крайнім выпадку. У іншых выпадках можна перайсьці да сэмінарскага мэтоду. Таксама нарада падкрэсьліла, што пры выконваньні програмы па ленінізму, трэба адрозьніваць розныя ступені вывучэньня: адзін падыход павінен быць пры папулярным вывучэньні ў ніжэйшых зьвеньнях навучальнае сыстэмы, а іншая справа пры навуковым і глыбокім вывучэньні ў вышэйшых установах. У той час, як у першых трэба да вывучэньня ленінізму знаёміць слухачоў больш з тэорэтычнымі і гістарычнымі матар‘ яламі, у другіх, ленінізм павінен вывучацца, як завяршэньне гэтых матар‘ялаў.

На нарадзе стаяла пытаньне аб прадмеце і мэтадзе вывучэньня Комінтэрну. У сваім дакладзе тав. Бела-Кун падрабязна асьвятліў зьмест гэтае новае дысцыпліны ў асноўным, што супадае з прадметам і мэтодам вывучэньня гісторыі УсеКП. Але ў той час, як гісторыя УсеКП(б) зьяўляецца аднэй з сэкцый Комінтэрну, гісторыя Ком-

інтэрну ёсьць міжнародная організацыя. Бязумоўна, што асноўнай задачай вывучэньня гісторыі Комінтэрну зьяўляецца вывучэньне програмы, стратэгіі, тактыкі і організацыі Комінтэрну. Такім чынам, прадмет гісторыі Комінтэрну ня зводзіцца да вывучэньня гісторыі асобных сэкцый Комінтэрну.

Вывучэньне гісторыі Комінтэрну павінна ісьці ў цеснай сувязі з дысцыплінай гісторыі клясавае барацьбы, але ня зьліваецца з ёю, маючы свае асобныя задачы.

Трэба адзначыць, што гэтае пытаньне аб прадмеце і мэтодзе гісторыі Комінтэрну, у сувязі з тым, што гэтая дысцыпліна зусім новая, што цяпер толькі яе пачалі ставіць у навучальных установах, як асобную дысцыпліну, што, такім чынам, маецца яшчэ малы вопыт,— нарада ня прыняла такое падрабязнае рэзолюцыі, якая была прынята па пытаньню гісторыі партыі і ленінізму. Але адначасова трэба адзначыць, што нарада дала значны штуршок у сэнсе пастаноўкі гэтае дысцыпліны, як асобнае дысцыпліны ў навучальных установах.

На нарадзе яшчэ стаялі пытаньні аб гісторыі партыі, як прадмеце выкладаньня, стаяла асобным пытаньнем праграма па ленінізму, стаяла пытаньне аб навуковай біографіі Леніна.

Нарада мае вялізарнае значэньне ў сэнсе ўяўленьня зьместу такіх дысцыплін, як ленінізм, гісторыя партыі і гісторыя Комінтэрну. Унесена яснасьць у выкладаньне вывучэньня гэтых дысцыплін, утворана зразуменьне неабходнасьці прызначаць больш увагі гэтым сугуба партыйным дысцыплінам. Зараз неабходна паставіць усе гэтыя пытаньні нарады на абгаварэньне ўсіх выкладчыкаў грамадаведаў. Таксама трэба разгарнуць працу па навуковаму дасьледваньню гэтых дысцыплін. Вялізарную ролю павінен адыграць у гэтай справе ленінскі інстытут пры ЦК УсеКП.

---

П. Мядзьвецкі

# Аб колектывізацыі сельскае гаспадаркі па творах Леніна *)

„З Расіі нэпаўскай будзе Расія соцыялістычная“ (Ленін).

Бясспрэчна тое, што на аснове суцэльнай колектывізацыі і вытворчае формы змычкі пролетарыяту з сялянствам мы ўступілі цяпер у новы этап разьвіцьця соцыялістычнае рэволюцыі — этап выкарчоўваньня карэньня капіталізму ў вёсцы. Сама-ж колектывізацыя сельскае гаспадаркі для нас у тым вялічэзным маштабе, з тым тэмпам, які разьвінуты ў 1929-30 годзе, з уцягненьнем мільёнаў бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ў соцыялістычнае будаўніцтва—ёсьць ажыцьцяўленьне ленінскага пляну соцыяльна-тэхнічнае перабудовы вёскі, ёсьць разгортваньне яго вялікага коопэрацыйнага пляну.

Дарэмна ў свой час прадракаў нам троцкізм аб невырашымасьці супярэчнасьці і аб няўхільнасьці сутычкі паміж пролетарыятам і сялянствам, дарэмна кажуць і права-ухілістыя на чале з т. Бухарыным, што „колектывізацыя сельскае гаспадаркі не галоўная магістраль, ня шляхавая дарога“ да соцыялізму, што яна ў сучаснасьці ёсьць нешта асобнае ад коопэрацыйнага пляну Леніна, супярэчыць яму і зьяўляецца вынікам *апошняе* політыкі партыі, а Ленін быццам аб колгасах „ставіў толькі ў агульных рысах“. Зразумела, для таго, каб мог адбыцца такі вялічэзны зрух колгаснага будаўніцтва і на яго аснове ліквідацыя кулацтва, як клясы, патрэбна было раней узмацніць вядучую ролю соцыялістычнае прамысловасьці, стварыць прыкладныя, апірлівыя, мэханізаваныя гаспадаркі (колгасы, савгасы, МТС), захоўваючы ўвесь час правільную політыку ў адносінах да серадняка і, організуючы батрацка-бядняцкія масы, пераканаць на вопыце асноўныя масы сялянства. Але пэрспэктыва разьвіцьця сельскае гаспадаркі пры дыктатуры пролетарыяту ўвесь час у Леніна, асабліва калі пытаньне разглядалася ў пэрспэктыве завяршэньня соцыялістычнай перабудовы вёскі, была адна, г. зн. тая, якая цяпер ажыцьцяўляецца партыяй.

* * *

Аграрнае пытаньне Ленін заўсёды зьвязваў з клясаваю барацьбою пролетарыяту, падпарадкоўваючы першае апошняму. Ленін ува ўсіх галінах соцыяльнае рэволюцыі вёў нясупынную барацьбу за чыстату рэволюцыйнага марксызму, як з расійскімі народнікамі, гэтымі прадстаўнікамі т. зв. легальнага марксызму (Булгакаў, Струвэ, Туган-Бара-

*) У сучасны момант, калі пытаньне выпраўленьня памылак і скажэньняў партыйнае лініі ў галіне колектывізацыі зьяўляецца асновай далейшых посьпехаў у справе соцыялістычнай перабудовы вёскі, рэдакцыя лічыць карысным зьмясьціць зводку поглядаў т. Леніна па гэтаму пытаньню, складзеную т. Мядзьвецкім.

ноўскі), меншавікамі (Маслаў), так і з опортуністычнымі, рэвізіёнісцкімі плынямі германскае соцыял-дэмократыі (Давід, Бэрнштэйн і інш.). Раней усяго ён пацьвердзіў, конкрэтызаваў асноўны марксыцкі закон аб пераваземі выцісканьні ў капіталістычных умовах буйною гаспадаркаю дробнае, ня толькі ў галіне прамысловасьці, але і сельскае гаспадаркі, чаго яшчэ шмат „марксыстых“ не прызнавала і цяпер не прызнае. Ленін праз вывучэньне процэсаў капіталізацыі сельскае гаспадаркі ў першую чаргу ў Амэрыцы—пры прымяненьні машын, электрычнасьці, лепшага догляду канстатаваў, што пад уплывам капіталістычных адносін і тэхнікі „рэволюцыянізаваньне земляробства няўхільна“, (т. IX, стар. 75, 1901 г.)

„Рынак,—піша Ленін,—патрабуе ад усякага гаспадара, як бязумоўнае неабходнасьці, падпарадкаваньня новым умовам і хуткага прыстасаваньня да іх. Але без капіталу гэта хуткае прыстасаваньне немагчыма. Дробная гаспадарка няўхільна засуджана, такім чынам, пры капіталізьме на найвялікшую рутыннасьць, адсталасьць, найменшую дапасаванасьць да рынка (т. IX, стар. 175, 1907 г.). Асноўная і галоўная тэндэнцыя капіталізму састаіць у выцісканьні дробнай вытворчасьці буйною і ў прамысловасьці і ў земляробстве, але гэта выцісканьне нельга разумець толькі ў сэнсе неадкладнай экспропрыяцыі. *Да выцісканьня належыць таксама здольнае цягнуцца гадамі і дзесяцігодзьдзямі разбурэньнё, пагоршаньне ўмоў гаспадаркі дробных земляробаў* *). Гэтае пагоршаньне праяўляецца і ў звышмернай працы ці пагоршаным харчаваньні дробнага земляроба, і ў абцяжарваньні яго пазыкамі, і ў пагоршаньні корму і наогул утрыманьня жывёлы, і ў пагоршаньні ўмоў догляду зямлі, апрацоўкі, угнаеньня яе і г. д., у застоі тэхнікі гаспадаркі і г. д. (т. IX, стар. 233, 1913 г.).

На прыкладзе Амэрыкі Ленін выводзіць:

„У агульным і цэлым параўнаньне аднародных даных за адзін і той-жа час адносна прамысловасьці і земляробства паказвае нам, пры непараўнальна большай адсталасьці другога, выдатную аднолькавасьць законаў эволюцыі, выцісканьне дробнай вытворчасьці і тут і там“ (т. IX, стр. 260, 1913 г.).

У. І. Ленін ня выводзіў няшчасьце селяніна, альбо недастатковую прыкладальнасьць капіталу да зямлі з праслаўтага „закону“ зьніжэньня ўрадлівасьці глебы, а вёў няшчадную барацьбу з тымі, хто пладзіў такія або падобныя тэорыі, ён проста паказваў на грамадзкія ўмовы (у Расіі перажыткі паншчыны), як на тормаз, які затрымлівае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі і што не бярэцца пад увагу буржуазнымі ідэолёгамі. Адначасова вызначаючы тактыку партыі ў адносінах да запатрабаваньня і руху сялян, Ленін паказваў на выхад для сялян яшчэ ў 1901 г.: „У чым шукаць выхаду і якімі сродкамі дамагацца палепшаньня лёсу селяніна? Ад гнёту капіталу дробнае сялянства зможа пазбавіцца толькі *далучаючыся да рабочага руху*, дапамагаючы яму ў яго барацьбе за соцыялістычны лад, за *перавярненьне* зямлі як і другіх сродкаў вытворчасьці (фабрык, заводаў, машын і інш.) у *грамадзкую ўласнасьць* (падкрэсьлена мной—М.). Рабіць спробу ратаваць сялянства з абаронай дробнае гаспадаркі і дробнае ўласнасьці ад прыціску капіталізму азначала-б бескарысна затрымліваць грамадзкае разьвіцьцё, абманваць селяніна ілюзіяй магчымага і пры капіталізьме добрага стану, разлучаць працоўныя масы, ствараючы меншасьці прывілеяванае становішча за кошт большасьці“ (том 9, стар. 265). „У адносінах да сялянства мы зусім не бярэм на сябе абарону яго інтарэсаў, як клясы земля-

*) Падкрэсьлена намі—П. М.

ўласьнікаў і землеробаў у сучасным грамадзтве“ (збор. III, стар. 327). Тут трэба мець на ўвазе тое, што ва ўмовах капіталістычнага ладу дробна-буржуазны, саматужны мэтод продукцыі сялянства зьяўляецца рэакцыйным у адносінах да буйное гаспадаркі, і што сялянства, як асноўная галіна дробнай буржуазіі ў капіталістычную эпоху, зьяўляецца няздольным адыгрываць самастойную ролю ў гісторыі і быць рэволюцыйным да канца наогул.

„Усе спробы дробнае буржуазіі наогул, сялян у прыватнасьці, усьвядоміць сваю сілу, пасвойму накіраваць экономіку і політыку канчаліся крахам... Альбо пад кіраўніцтвам пролетарыяту, або пад кіраўніцтвам капіталістых—сярэдзіны няма“ (т. 18, ч. I, стр. 164, 1921 г.). І расійская с.-д., па паказаньнях У. І., павінна была штурхаць, падтрымліваць сялянскі рух у барацьбе з перажыткамі паншчыны (неадчужальнасьць надзелаў, кругавой парукі, забаронай выхаду з абшчыны, аброчнымі выкупнымі плацяжамі за адрэзкі, потым за конфіскацыю), але ўсё гэта рабіць з пункту погляду разьвіцьця клясавае барацьбы ў вёсцы, як крокі ў барацьбе з абшарнікамі і іх уладай для разбурэньня рэштак пут, што тармозяць разьвіцьцё капіталізму і далейшае барацьбы за социялізм.

Ленін ня толькі для партыі, але і для саміх сялян казаў выразна аб абмежаванасьці такіх дэмократычных патрабаваньняў, і паказваў на выйсьце, якое адчыняла адпаведны шлях барацьбы за социялізм. У брошуры да вясковае беднаты ў 1903 г. ён піша: „Усяе кабалы нам напэўна не пазбыць, пакуль ёсьць нужда на сьвеце, а нужды не пазбыць, пакуль зямля і фабрыкі знаходзяцца ў руках буржуазіі, пакуль галоўная сіла на сьвеце грошы, пакуль ня ўведзена *социялістычнае грамадзтва*“ (9 том, стар. 345). Патрабаваў у барацьбе адрозьніваць этапы: „Першы крок у вёсцы—поўнае вызваленьне селяніна, поўныя правы яму, організацыя сялянскіх камітэтаў для звароту адрэзкаў. А апошні наш крок і ў горадзе і ў вёсцы адзін будзе: *забярэм усю зямлю, усе фабрыкі ў абшарнікаў і ў буржуазіі і пабудуем социялістычнае грамадзтва*“ (том 9, стар. 349).

У 1905 г. ён піша: „Поўнае зьнішчэньне прыватнай уласнасьці на зямлю таксама ня зьнішчае ні панаваньня капіталу, ні нішчаньня мас. Думка аб „социялізацыі“ зямлі без социялізацыі капіталу, думка аб магчымасьці зраўнанага землякарыстаньня пры існаваньні капіталу і таварнае гаспадаркі ёсьць аблуда“ (том 7, стар. 19). Праз Думу заклікаючы на барацьбу з абшарніцкай уладай, ён тлумачыць: „Супроць абшарнікаў цалкам падтрымліваюць сялян рабочыя с.-д. Але ня дробнай *хоць-бы* зраўнанай гаспадаркай можна ўратаваць чалавецтва ад жабрацтва, эксплёатацыі і прыгнечаньня чалавека чалавекам. Для гэтага патрэбна барацьба за зьнішчэньне ўсяго капіталістычнага грамадзтва і замена яе *буйною социялістычнаю вытворчасьцю*“ (проэкт прамовы ў Думе—Ленінскі зборнік 4).

Яшчэ раней было паказана Леніным і на тое, што прыдзецца рабіць з адабранай у пануючае клясы зямлёй. „Калі рабочая кляса пераможа ўсю буржуазію, тады яна адбярэ зямлю ад буйных гаспадароў, тады яна пабудуе на буйных экономіях *таварыскую* гаспадарку, каб зямлю апрацоўвалі рабочыя сумесна, вобчаствам“ (том 9, стар. 344). Побач з гэтым для нас будзе цікавую адна заўвага Леніна аб магчымасьці абагуленьня сельскае гаспадаркі тады, калі тэхніка зьяўляецца яшчэ прымітыўнай, але калі ўжо маем адну трэцюю частку буйных гаспадарак у сваіх руках. Разам даюцца і прадрашаюцца ўмовы ўзьдзейнічаньня на неабагулены сэктар у нашых умовах. Вось што ён піша, абагульваючы даныя аб разьвіцьці сельскае гаспадаркі ў Амэрыцы:

„Ручная праца пераважвае яшчэ ў земляробстве, і ўжываньне машын параўнальна занадта слабае. Але прыведзеныя даныя зусім не даводзяць немагчымасьці абагуленьня земляробчае вытворчасьці і на данай ступені яе разьвіцьця. Хто трымае ў руках банкі, той непасрэдна трымае ў руках трэцюю частку ўсіх фэрм Амэрыкі, а пасрэдна пануе над усёю масай іх. Організацыя вытворчасьці па аднаму агульнаму пляну ў мільёне гаспадарак, якія даюць больш паловы агульнае сумы ўсяе вытворчасьці,—рэч пры сучасным разьвіцьці ўсялякіх саюзаў і тэхнікі зносін і транспарту, бязумоўна, мажлівая для ажыцьцяўленьня“ (т. 9, стар. 258).

* * *

Пасьля лютаўскай рэволюцыі часовы ўрад стаў на варце „сьвяшчэннага“ земляўладаньня. Заклікаючы сялянства на барацьбу з буржуазным урадам, да організацыі батрацка-бядняцкіх камітэтаў і фракцый, Ленін ужо прадбачыў у панскіх маёнтках будучыя колектыўныя гаспадаркі, ён бачыў вялікі пералом у сьвядомасьці батрацка-бядняцкай часткі, які прынесены з вайной, з нішчаньнем і рабіў вынік, што гаспадарыць па-старому нельга, а трэба шукаць іншага шляху. „Без агульнага абработку зямлі сельска-гаспадарчымі рабочымі з прымяненьнем найлепшых машын і пад кіраўніцтвам навукова-адукаваных аграномаў няма выхаду з-пад іга капіталізму“... „Другі крок (пасьля організацыі фракцый батрацка-бядняцкіх), які наша партыя прапанавала, састаіць у тым, каб з кожнае буйное гаспадаркі, з кожнае, напр., панскае экономіі, буйнейшае, якіх у Расіі 30.000, створаны былі па магчымасьці хутчэй узорныя гаспадаркі для *агульнага* абработку іх сумесна з сельска-гаспадарчымі рабочымі і навуковымі аграномамі пры ўжываньні для гэтае мэты панскае жывёлы, прылад і г. д. Бяз гэтага абработку пад кіраўніцтвам саветаў, сельска-гаспадарчых рабочых, ня выйдзе таго, каб уся зямля была ў працоўных... Калі-б гэтыя парады, гэта думка адносна агульнага абработку, агульнага інвэнтару, агульнае жывёлы з найлепшым ужываньнем прылад, сумесна з аграномамі, калі-б гэтыя парады былі выдумкай асобных партый, са справай было-б дрэнна, таму што па парадзе якое-небудзь партыі якія-небудзь зьмены ў жыцьці народу не адбываюцца, таму што па парадзе партыі дзесяткі мільёнаў людзей ня ідуць на рэволюцыю“ (т. XIV, ч. I, стар. 171, 1917 г.). Аб гэтымжа было побач з нацыяналізацыяй і конфіскацыяй зямлі сказана ў красавіковых тэзісах. Гэтая-ж адозва з прамовай да сялян падмацоўваецца проектам рэзолюцыі па аграрнаму пытаньню да Ўсерасійскага Савету Сялянскіх Дэпутатаў. „Заахвочваць пераход панскае жывёлы і прылад у рукі сялянскіх камітэтаў для агульнага карыстаньня гэтымі прыладамі і гэтай жывёлай, гэтак сама трэба заахвочаць організацыю з кожнага буйнога панскага маёнтку ўзорнае гаспадаркі з агульным абработкам зямлі найлепшымі прыладамі пад кіраўніцтвам аграномаў і па рашэньню Савету Дэпутатаў ад сельска-гаспадарчых рабочых“ (Том 14, ч. I, стар. 175).

Пасьля Кастрычнікавае Рэволюцыі, пры дыктатуры пролетарыяту, калі апошні стаіць пры старне палітычна-экономічнага жыцьця краіны, стварыліся ўмовы, прадпасылкі для ажыцьцяўленьня ленінскай устаноўкі ў напрамку соцыялістычнай перабудовы жыцьця бядняцка-серадняцкіх мас сялянства. Гэтыя асноўныя масы з сваёю дробнаю таварнаю вытворчасьцю і па сваёй дробна-буржуазнай прыродзе, як і раней казалася аб гэтым, ня могуць стварыць „свайго“ асобнага шляху жыцьця. „Альбо пад кіраўніцтвам пролетарыяту, альбо пад кіраўніцтвам капі-

талістых—сярэдзіны няма". Ня можа быць таксама і мірнага, без абвостранай клясавай барацьбы супроць капіталістычных пластоў, пераходу гэтае дробнае гаспадаркі ў гаспадарку колектыўную. Толькі народнікі, эсэры са сваім „соцыялізмам" наскрозь дробна-буржуазным, які выцякае з погляду, што вобшчына пры капіталізьме мае соцыялістычны характар, ды буржуазныя коопэратары, рэвізіёністыя ўсіх колераў маглі разважаць і пропагандаваць эволюцыйны, бяскласавы і мірны шлях да соцыялізму. А ў нашых умовах з гэтым парадніліся права-ухілістыя. Леніным дан пэўны напрамак, пэўная характарыстыка пераходнага пэрыоду, як „пэрыоду барацьбы паміж капіталізмам, які памірае і комунізмам, які нараджаецца". „Экономіка Расіі ў эпоху дыктатуры пролетарыяту прадстаўляе з сябе барацьбу першых крокаў комуністычна-аб'ядна-най у адзіным маштабе вялізарнай дзяржавы—працы з дробнай таварнай вытворчасьцю і з капіталізмам, які захоўваецца, а таксама і адраджаецца на яе базе" (т. XVI, стар. 348, 1919 г.).

На глебе дробна-сялянскае таварнае вытворчасьці „мы маем надзвычайна шырокую, якая мае вельмі моцныя карэньні, базу капіталізму" (т. VI, стар. 349). Пры гэтым клясавая барацьба ні ў якім разе не зьмяншаецца, а толькі прымае іншую форму. У І. Леніным ясна вызначана, што і пасьля рэволюцыі будаваньне соцыялізму забясьпечваецца толькі тады, калі пролетарыят будзе весьці рашучую барацьбу з капіталістычнымі элемэнтамі вёскі, з кулаком, калі будзе ўзмацняцца база соцыялізму—буйная прамысловасьць, калі будзе праводзіцца такое кіраўніцтва, такая змычка з сялянствам, якая вядзе да пераадаленьня дробнае вытворчасьці і зьнішчае клясы наогул. Гэта задача вельмі цяжкая. Партыя кіруецца данымі паказаньнямі Леніна. „Што гэта значыць кіраваць сялянствам? Гэта значыць, па-першае, весьці лінію на зьнішчэньне клясы, а не на дробнага вытворцу. Калі-б мы з гэтае лініі карэннай і асноўнай зьбіліся, тады мы перасталі-б быць соцыялістымі і папалі-б у лягер тых дробных буржуа, у лягер эсэраў і меншавікоў, якія зьяўляюцца цяпер самымі злоснымі ворагамі пролетарыяту (т. XVIII, ч. I, стар. 249).

„Соцыялізм ёсьць зьнішчэньне кляс. Каб зьнішчыць клясы, патрэбна, папершае, скінуць абшарнікаў і капіталістых. Гэтую частку задачы мы выканалі, але гэта толькі частка і прытым ня самая цяжкая. Каб зьнішчыць клясы, патрэбна, падругое, зьнішчыць розьніцу паміж рабочым і селянінам, зрабіць *усіх работнікамі*. Гэта нельга зрабіць адразу. Гэта задача непараўнальна больш цяжкая ў сілу неабходнасьці, працяжная. Гэта задача, якую нельга вырашыць скіданьнем усё адно якое клясы. Яе можна вырашыць толькі організацыйнай перабудовай усяе грамадзкае гаспадаркі, пераходам ад адзінаасобнае, дробна-таварнае гаспадаркі *да грамадзкае буйное* гаспадаркі" (т. XVI, стар. 351, 1919 г.)

Адначасова з гэтым, Ленін вучыў адмяжоўваць селяніна працоўнага ад селяніна ўласьніка, селяніна работніка ад селяніна гандляра і ў гэтым разьмежаваньні т. Ленін бачыў сутнасьць соцыялізму і з яго ён рабіў вынік аб магчымасьці пераробку, пераводу дробнае вытворчасьці ў аграмаджаную соцыялістычную. Ня здолелі толькі гэтае падвойнасьці ўразумець ні троцкістыя, ні права-ухілістыя, якія падыходзілі заўсёды аднабакова.

* * *

Шмат якім таварышом, якія займаюцца толькі „бягучай політыкай", тым, хто ловіць „апошняе слова", здаецца, што колектывізацыя гэта толькі апошняя політыка партыі, а сам Ленін у бытнасьць сваю пры

старне дзяржавы не намагаў на колектывізацыю, а толькі трымаўся гандлёвае змычкі з сялянствам. Справа колектывізацыі, гэта справа рашаючага характару. У програме партыі, распрацаванай пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле Леніна, гаворыцца на гэтую тэму: „Савецкая ўлада ажыцьцявіўшы поўную адмену прыватнай уласнасьці на зямлю, перайшла ўжо да правядзеньня ў жыцьцё *цэлага шэрагу мер, накіраваных да арганізацыі буйнога социялістычнага земляробства*. Важнейшымі з гэтых мер зьяўляюцца: 1) організацыя савецкіх гаспадарак, г. зн. буйных *соцыялістычных* экономій; 2) падтрыманьне вобчаства, а гэтак сама *таварыстваў* для грамадзкага абработку зямлі; 3) організацыя дзяржаўнага засеву ўсяе, чыя-б яна ні была, незасеянае зямлі; 4) дзяржаўная мобілізацыя ўсіх аграномічных сіл для энэргічных мер па падвышэньню сельска-гаспадарчае культуры; 5) падтрыманьне сельска-гаспадарчых комун як зусім добраахвотных саюзаў земляробцаў для вядзеньня *буйное агульнае* гаспадаркі. Разглядваючы ўсе гэтыя меры як *адзіны* шлях да абсолютна неабходнага падвышэньня вытворчасьці земляробчае працы, УсеКП(б) імкнецца да магчыма больш поўнага правядзеньня ў жыцьцё гэтых мер і да распаўсюджваньня на больш адсталыя вобласьці краіны і да далейшых крокаў у *тым-жа напрамку* (програма).

На першым месцы ў асноўным тут справа ідзе аб організацыі *буйнога соцыялістычнага* земляробства, далейшых крокаў у тым-жа напрамку, як шляху падвышэньня вытворчасьці земляробчае працы. А ў іншых дакумантах? Як і раней, так і ў першы пэрыод рэволюцыі, гэтак і пасьля ўвесь час т. Ленін на гэтым пытаньні часта спыняўся. Яшчэ ў чарнавым накіду програмы да 7-га Зьезду партыі Ленін пісаў, што наша задача „скарыстаць саюз гарадзкіх рабочых і бяднейшых сялян, які даў ужо адмену прыватнай уласнасьці зямлі, і закон аб тэй пераходнай форме ад дробнае сялянскае гаспадаркі да соцыялізму, якую сучасныя ідэолёгі сялянства, якое стала на бок пролетарыяту, назвалі соцыялізацыяй зямлі для паступовага, але няўхільнага пераходу да агульнага абработку зямлі і да *буйнога соцыялістычнага земляробства*" (том XXII, стар. 368). І далей, у гэты-ж пэрыод, на зьезьдзе земаддзелаў, камбедаў, ён кажа „нашай агульнай задачай, нашай агульнай мэтай зьяўляецца пераход да соцыялістычнае гаспадаркі, да колектыўнага земляўладаньня, грамадзкага абработку зямлі". „Наш абавязак накіраваць іх (сялян) на тое, каб самую адсталую вытворчасьць, земляробчую сельска-гаспадарчую, паставіць на новыя рэйкі, каб яеператварыць, і замяніць земляробства з промысла, які вядзецца несьвядома, пастарому, на промысел, які грунтуецца на навуцы і тэхніцы"... „Выхадам, сапраўды трывалым і набліжаючым масу сялян да культурнага жыцьця, сапраўды які ставіць іх у становішча з іншымі грамадзянамі, гэтым выхадам зьяўляецца толькі грамадзкі абработак зямлі, і да гэтага *грамадзкага абработку* зямлі паступовымі мерамі цяпер імкнецца Савецкая ўлада *сыстэматычна*" (XV том, стар. 555, 1918 г.)

Гэтаму напрамку садзейнічае, па выразу Леніна, і сам закон аб зямлі, арт. 11, дзе задачай зьяўляецца „разьвіцьцё *колектыўнае* гаспадаркі ў земляробстве, як больш выгаднае ў сэнсе экономіі працы і продуктаў за кошт гаспадарак адзінаасабовых у мэтах пераходу да соцыялістычных гаспадарак" (там-сама, стар. 553).

Разгорнутая грамадзянская вайна, унутраная контр-рэволюцыя, непасрэдныя напады імпэрыялістых адцягнулі на некаторы час непасрэднае соцыялістычнае будаўніцтва. Вайна яшчэ больш паглыбіла разбурэньне, заняпад як прамысловасьці, гэтак і сельскае гаспадаркі.

Пасьля яе яшчэ дабавіліся недарод і голад. Пры такім становішчы народнае гаспадаркі пасьля сканчэньня вайны, пры перавазе дробнае таварнае гаспадаркі, пры пачаўшым паслабленьні саюзу пролетарыята з сялянствам (бядняцка-серадняцкія масы ўжо не маглі здаволіцца ваенным, палітычным саюзам), патрэбна было думаць аб экономічнай змычцы з сялянствам, аб пераходных этапах, пераходных мерах да социялізму, каб перайсьці, „ад лабавой атакі да асады". Такімі пераходнымі мерамі пры ўведзеным НЭП'е была разьвязана і вольнасьць тавараздвароту, рынак. Раней было патрэбней за ўсё падняць вытворчасьць працы пры тых сродках, якія меліся ў прамысловасьці, павялічыць продукцыю як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы для ўзмацненьня змычкі. Організуецца масавая комуністычная работа па аднаўленьні гаспадаркі (суботнікі і інш.).

„Патрэбна зрабіць так, каб селянін бачыў, што жалезная ўлада пролетарыяту ня толькі разьбівае Калчака, Дзянікіна на фронце ваенным, але і аб'ядвае і організуе работу на фронце працы" (Ленін). Пры гэтым адначасова вырастае на ўвесь рост *асноўная* задача падняць, узмацніць матэрыяльную базу соцыялізму—гэта буйную з высокай тэхнікай прамысловую вытворчасьць якая мае вядучую ролю. „У апошнім лічэньні самай глыбокай крыніцай сілы для перамог над буржуазіяй і адзіным забесьпячэньнем трывалае неад'емнасьці гэтых перамог, можа быць толькі новы, больш высокі спосаб грамадзкае вытворчасьці, замена капіталістычнай і дробна-буржуазнай вытворчасьці, *буйною соцыялістычнаю вытворчасьцю*" (т. XVI, стар. 251, 1919 г.). Далей уся асноўная ўвага аддаецца Леніным прамысловасьці: „Сапраўднай і адзінай базай для ўзмацненьня рэсурсаў, для стварэньня соцыялістычнага грамадзтва зьяўляецца адна і толькі адна—гэта буйная прамысловасьць" і яшчэ далей, што: „Замест нявызначальнай або абстрактнай формы аднаўленьня буйное прамысловасьці, мы цяпер гаворым аб вызначальным, дакладна разьлічаным конкрэтным пляне электрыфікацыі" (Ленін, т. XVIII, ч. I, стар. 240). Аб разьвіцьці прамысловасьці, электрыфікацыі Ленін нясупынна казаў і пасьля, таму, што гэта дыктавалася вонкавымі і ўнутранымі ўмовамі (незалежнасьць, патрэбнасьць ня толькі здаволіць сялянства, але і ўзьдзейнічаць на яго спосаб вытворчасьці, адначасова вырашыць проблему ў барацьбе з капіталістычнымі элемэнтамі" („Хто каго"). Дыктавалася таксама патрэбай падняць тэхніку вытворчасьці наогул.

„У гэтым і толькі ў гэтым,—кажа У. І.—будзе наша надзея. Толькі тады мы будзем мець моц перасесьці, выражаючыся фігуральна, з аднаго каня на другога: менавіта з каня сялянскага, мужыцкага, жабрацкага, з каня экономій, разьлічаных на разбураную сялянскую краіну, на каня, якога чакае і ня можа не чакаць для сябе пролетарыят, на каня буйное машыннае індустрыі, электрыфікацыі, Волхаўбуду і г. д." (т. XVIII, ч. II, стар. 128, 1923 г.). І далей у прамове на III Конгрэсе Комінтэрну Ленін кажа: „Буйная прамысловасьць—адзіны сродак ратаваць сялянства ад нішчаньня і голаду".

* * *

Пры слабасьці і заняпадзе буйное прамысловасьці, пры адсталасьці сельскае гаспадаркі, з наліччам масы дробных распыленых гаспадарак, неабходнасьці васстанаўляць гаспадарку разбураную вайной ды інтэрвэнцыяй патрэбны былі пераходныя меры для забесьпячэньня далейшага прасоўваньня па шляху да соцыялізму. Такія меры складаюць НЭП. Ленін такім вось чынам акрэсьліваў нашыя заданьні ў гэтай галіне:

„Вайна і выкліканыя ёю разбурэньні гаспадаркі зрывалі экономічную змычку. Змычкі паміж экономікай, якая будавалася ў нацыяналізаваных, соцыялізаваных фабрыках, заводах і экономікай сялянскай ня было". Каб ня было такога разрыву, патрэбна было „злучыцца з сялянскімі масамі", рухацца павольней. „Тады хуткасьць гэтага руху ў свой час наступіць такая, аб якой мы зараз і марыць ня можам" (т. XVIII, ч. II, ст. 25, 1922 г.)

Для ажыцьцяўленьня гэтае змычкі Ленін вучыў, што трэба ўмець знайсьці ў кожны момант тое асобнае зьвяно ланцуга, за якое трэба ўсімі сіламі ўхапіцца, „каб уся сялянская маса бачыла, што паміж яе цяжкім, нячувана-разбураным, нячувана-галотным, балючым жыцьцём, цяпер і тэю работаю, якую вядуць у імя далёкіх соцыялістычных ідэалаў, ёсьць *сувязь*" (т. XVII, ч. II, ст. 26—падкрэсьлена мною—П. М.).

Гэтай формай сувязі па неабходнасьці быў пакуль-што гандаль. „Гандаль ёсьць адзіная магчымая экономічная сувязь паміж дзесяткамі мільёнаў дробных землеробаў і буйною прамысловасьцю, калі... калі няма побач з гэтымі землеробцамі добрае, буйное машыннае *індустрыі з сеткай электрычных правадоў*" (т. XVIII, ч. I, стар. 380, 1921 г.).

Зразумела, пры гэтакай форме сувязі рабочае клясы з сялянствам дробна-таварная вытворчасьць няўхільна вылучала капіталістычныя элемэнты нэпмана, кулака, „пакольki капіталізм няўхільны ў пэўнай меры, як стыхійны прадукт дробнае вытворчасьці і памену" (т. XVIII, ч. I, стар. 205, 1921 г.)

Патрэбна было зараз-жа даць і адпаведны напрамак, організацыйныя формы росту бедняцка-серадняцкіх мас для падвядзеньня іх да соцыялістычнае гаспадаркі і выцісканьня капіталістычных элемэнтаў.

Такою адзінаю і ўсебаковаю, простаю і зразумелаю сялянам формаю, такім „простым, лёгкім і даступным для селяніна шляхам", няўхільна рабілася коопэрацыя. Вырастаў на ўвесь свой рост аграмадны, універсальны коопэрацыйны плян Леніна, які зьяўляўся другім па чарзе зьвяном, усьлед за прамысловасьцю, за якое трэба было ўхапіцца і якое павінна было нас спачатку праз простыя формы весьці да буйное соцыялістычнае гаспадаркі. Нават простае аб'яднаньне сялян пры вядучай ролі буйное соцыялістычнае прамысловасьці ў вачох Леніна мела вялізарнае значэньне для справы соцыялістычнага будаўніцтва, якім нельга ігнараваць, і тут выраталі аграмадныя задачы коопэрацыі. „Адна справа,—кажа Ленін,—фантазіраваць наконт усялякіх рабочых аб'яднаньняў для будаваньня соцыялізму, іншая справа—навучыцца практычна будаваць гэты соцыялізм так, каб кожны дробны селянін мог удзельнічаць у гэтым будаваньні. Пры ўмовах поўнага коопэраваньня мы ўжо стаялі-б абедзьвюма нагамі на соцыялістычнай глебе" (т. XVIII, ч. II, стар. 130, 1923 г.). „Коопэрацыя аблягчае аб'яднаньне, організацыю мільёнаў насельніцтва, потым усяго насельніцтва ўсьцяж, а гэтая акалічнасьць у сваю чаргу ёсьць вялізарны плюс з пункту погляду далейшага пераходу ад дзяржаўнага капіталізму да соцыялізму" (т. XVIII, ч. I, стар. 203, 1921 г.).

Ці можна рабіць на падставе гэтых паказаньняў Леніна аб простым коопэраваньні (закупка, збыт) вынік, што простае коопэраваньне ёсьць тое ідэальнае, ёсьць тое канчатковае, што само сабою непасрэдна прыводзіць да соцыялізму, што гэта ўжо забясьпечвае нам мірны пераход, „урастаньне" ў соцыялізм? Так разумелі справу правыя опортуністыя, ня бачачы, што соцыялізм у сельскай гаспадарцы нараджаецца ў барацьбе з кулацкімі імкненьнямі за перайначаньне *самога спосабу вытворчасьці*. У. І. нават і на простую функцыю коопэрацыі—гандаль

інакш глядзеў, глядзеў з пункту погляду праходжаньня *падрыхтоўчае* клясы, пераходу, мосту да разьвіцьця рэволюцыі ў самой вытворчасьці. Вось што ён кажа: „Гуртовы гандаль аб'яднае мільёны дробных сялян экономічна, зацікаўліваючы іх, зьвязываючы іх, падводзячы іх да далейшае ступені: да розных форм сувязі і *аб'яднаньня ў самой вытворчасьці*“ (т. XVIII, ч. I, стар. 340, 1921 г.). А ўвесь сэнс тае простае коопэрацыі, коопэрацыі, якая знаходзіцца ў залежнасьці ад пролетарскае дзяржавы і прамысловасьці, быў у падрыхтоўцы мас, свайго роду школаю, утварэньня організацыйнае базы, утварэньня пераходу да соцыялістычнае вытворчасьці. „Пераход ад коопэрацыі дробных гаспадароў да соцыялізму ёсьць *пераход ад дробнае вытворчасьці да буйное,* гэта значыць пераход больш складаны, але затое здольны ахапіць у выпадку посьпеху больш шырокія масы насельніцтва, здольны вырваць больш *глыбокія* і больш жывучыя *карэньні* старых, дасоцыялістычных, нават дакапіталістычных адносін, найбольш упорчывых у сэнсе супраціўленьня ўсялякай навізьне“, і далей: „Політыка коопэрацыйная, у выпадку посьпеху, дасьць нам уздым дробнае вытворчасьці і палёгку яго пераходу, у нявызначаны тэрмін, да *буйное вытворчасьці* на грунце *добрахвотнага* аб'яднаньня“ (т. XVIII, ч. I, стар. 203). Іншых шляхоў, іншага пераходу не магло быць. „Калі сялянская гаспадарка можа разьвівацца далей, неабходна трывала забясьпечыць і далейшы пераход, а далейшы пераход нямінуча састаіць у тым, каб найменш выгадная і найбольш адсталая дробная абасобленая сялянская гаспадарка паступова аб'ядналася, з'організоўвала-б *грамадзкую,* буйную земляробчую гаспадарку“ (Ленін, т. XVIII, ч. I, стар. 189).

Адначасова побач з простымі відамі коопэрацыі Леніным бязумоўна не забывалася неабходнасьць разьвіваць пры НЭП'е ў сельскай гаспадарцы вытворчыя формы коопэрацыі, у тым ліку калгасы, арцелі, комуны. Напрыклад, пры складаньні наказу Савету Працы і Абароны мясцовым савецкім установам ён выстаўляў: „Уздым сельскае гаспадаркі: а) сялянская гаспадарка, б) савгасы, в) комуны, г) арцелі, д) таварыствы, е) іншыя віды колектыўных гаспадарак“ (т. XVIII, ч. I, стар. 247).

Чаму прыходзілася напіраць з пачатку на больш простыя аб'яднаньні, а не пачаць з самое вытворчасьці? Няўжо Ленін і партыя раней ігноравалі гэтым бакам? Не! Трэба было зрабіць асноўнае, гэта падцягнуць да адпаведнага ўзроўню прамысловасьць, якая магла-б задаволіць *вытворчыя* патрэбы ў сельскай гаспадарцы. Гэты ўзровень цяпер ёсьць і таму, што гандлёвая змычка ў нас зьменьваецца вытворчай (тут трэба агаварыцца, што вытворчая змычка ў сучасных умовах яшчэ не азначае пераходу да соцыялістычнага прадукта—звароту і не азначае непатрэбнасьці рынычнае сувязі, да чаго дзе-ні-дзе дайшлі). Па-другое, патрэбна падрыхтаваць было ўсьведамленьне, стварыць пераходныя коопэрацыйна-організацыйныя формы. Цяпер ужо селянін сам зразумеў, што на кавалачку з асобай гаспадаркай яму нічога ня выседзець. Ленін аддаваў вялізарнае значэньне вопыту мас.

* * *

„Ці магчыма,—кажа Ленін,—ажыцьцяўленьне непасрэднага пераходу ад гэтага, пераважна ў Расіі становішча (патрыярхальшчыны, дзікасьці,—П. М.) да соцыялізму? Ды магчыма да вядомае ступені, але пры аднэй умове, якую мы ведаем цяпер, дзякуючы аднэй вялізнай, скончанай навуковай працы, дакладна. Гэтая ўмова—*электрыфікацыя.* Калі

мы пабудуем дзесяткі раённых электрычных станцый (мы ведаем цяпер, дзе і як іх пабудаваць можна і павінна), калі мы правядзем энэргію ад іх у кожнае сяло, калі мы здабудзем дастатковую колькасць электраматораў і іншых машын, тады не патрабуецца пераходных ступеняй, пасрэдных зьвеньняў ад патрыярхальшчыны да социялізму, альбо амаль не патрабуецца. Але мы добра ведаем, што гэта „адна“ ўмова патрабуе, па меншай меры, дзесятак гадоў толькі для работы першае чаргі, а скарачэньне гэтага тэрміну магчыма ў сваю чаргу, толькі ў выпадку перамогі ў іншых краінах“ (г. XVIII, ч. I, ст. 204, 1921 г.). Толькі прамысловасьць з высокай тэхнікай, „толькі гэта дасьць магчымасьць такое радыкальнае дапамогі, тэхнічнай і социяльнай, што дае горад адсталай і распыленай вёсцы, каб гэтая дапамога стварыла матэрыяльную аснову для аграмаджанага павышэньня продукцыйнасьці земляробства і наогул сельска-гаспадарчае працы, заахвочваючы тым дробных земляробцаў сілаю *прыклада* і дэеля іх *уласнае выгады* пераходзіць да *буйнога колектыўнага машыннага* земляробства“ (т. XX, ч. II, стар. 404, 1920 г.)

Яшчэ шмат раней У. І. думаў аб гэтым і аб тэй ролі, якую ўтварае тэхніка. „Калі-б здалелі заўтра даць сто тысяч першаклясных трактараў, задаволіць іх бэнзынам, задаволіць іх машыністымі (вы добра ведаеце, што пакуль гэта фантазія), тады селянін сказаў-бы, што я за комунію, г. зн. за комунізм. Але для таго, каб гэта зрабіць, патрэбна з пачатку перамагчы міжнародную буржуазію, трэба прымусіць яе даць нам гэты трактар, альбо падняць нашу продукцыйнасьць працы настолькі, каб мы самы маглі іх здабыць“ (т. XVI, стар. 153). Цяпер мы гэтага дасягнулі, мы маем дзесяткі тысяч трактароў і рост вытворчасьці іх. Бяз гэтага разуменьня мы былі-б утопістымі, народнікамі і чым заўгодна, але не бальшавікамі-марксыстымі. Таксама У. І. добра разумеў і вучыў кіруючыя кадры на тым, што патрэбна для радыкальнага пераробку дробна-буржуазнае прыроды і псыхікі селяніна. Справа пераробку дробнага земляробца, пераробку ўсяе яго псыхолёгіі і звычаяў, ёсьць справа, якая патрабуе пакаленьняў. Вырашыць гэтае пытаньне ў адносінах да дробнага земляробца, перарабіць усю яго псыхолёгію, можа толькі матар'яльная база, *тэхніка*, ужываньне трактараў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, *электрыфікацыя* ў масавым маштабе“ (т. XVIII, ч. I, стар. 128). Як бачыце, тэхнічнаму пераробку У. І. адводзіў выключную ролю, бо і асноўныя перавагі ў буйной гаспадарцы ён бачыў праз прымяненьне машыннае работы. „Капіталізм можа быць канчаткова пераможаным і будзе канчаткова пераможаным тым, што социялізм утварае новую, значна больш высокую продукцыйнасьць працы. Гэта справа вельмі цяжкая і вельмі працяжная, але *яна пачата*, вось у чым самае галоўнае“ (т. XVI, стар. 254).

* * *

Аб тактыцы да сялянства. У. І. ясна бачыў у той час, што перамагаць дробна-буржуазную прыроду селяніна, якая спрадвеку замацоўвалася, будзе даволі цяжка, тым больш гэта было навінаю ў той час для самога селяніна. „Тут,—кажа у той час т. Ленін,—нам прадстаіць барацьба, крок за крокам, вяршок за вяршком прыдзецца адваёўваць заваёвы *новае социялістычнае Расіі*, весьці барацьбу за грамадзкі абработак зямлі. І само сабою зразумела, што такога роду пераварот,—пераход ад дробна-адзінкавых сялянскіх гаспадарак да грамадзкага абработку зямлі, патрабуе доўга часу, што ён ні ў якім выпадку ня можа быць зроблены адразу“. І тут-жа спыняючыся на

сялянстве, ён асаблівую ўвагу аддае серадняку. „Яно будзе напэўна хістацца і згодзіцца перайсьці да соцыялізму толькі тады, калі яно ўбачыць трывалы, на справе паказальны прыклад таго, што гэты пераход неабходны. Гэтага сярэдняга сялянства напэўна нельга пераканаць тэорэтычнымі разважаньнямі альбо агітацыйнымі прамовамі, на гэта мы не разьлічваем, але яго пераканае прыклад і згуртаванасьць працоўнае часткі сялянства, яго пераканае саюз гэтага працоўнага сялянства з пролетарыятам, і тут мы разьлічваем на працяжнае, паступовае перакананьне, на шэраг пераходных мер, якія ажыцьцяўляюць згоду пролетарскае соцыялістычнае часткі насельніцтва, згоду комуністых, якія вядуць рашучую барацьбу супроць капіталу ва ўсіх яго формах, згоду іх з сярэднім сялянствам" (т. XV, стар. 554). „Мы добра ведаем, што такія вялізарнейшыя пераваροты ў жыцьці дзесяткаў, мільёнаў людзей, якія датычаць найбольш глыбокіх асноў жыцьця і быту, як пераход ад дробнай адзіночнай сялянскай гаспадаркі да грамадзкага абработку зямлі, могуць быць створаны толькі працяжнаю працаю, што яны наогул могуць ажыцьцявіцца толькі тады, калі неабходнасьць прымушае людзей перарабляць сваё жыцьцё" (т. XV, стар. 551—1918 г.).

Пры такім падыходзе, такіх адносінах да сялянства Ленін патрабаваў і адпаведных мэтодаў працы ад партыі і рабочае клясы: „Рабочая кляса, рабочая комуністычная партыя, усьвядомліваючы сваю задачу, настойвала, цярпліва, з радам паступовых пераходаў, прабуджаючы сьвядомасьць працоўнае часткі сялянства і *ідучы ўперад толькі па меры прабуджваньня гэтае сьвядомасьці*, толькі па меры самастойнай організацыі сялянства, рухаецца па шляху да новага соцыялістычнага будаўніцтва (т. XV, стар. 551).

У сувязі з памылкамі і скрыўленьнямі ў адносінах да серадняка і саміх прынцыпаў організацыі колгасаў, што былі ў шэрагу месц і паасобных работнікаў і парторганізацыі, трэба спэцыяльна спыніцца на гэтым асноўным момантце для нашага этапу ў колгасным руху. Калі цяпер варочаешся да паказаньняў У. І., што даны ім яшчэ шмат раней, то тут бачыш і глыбіню і дальнавіднасьць іх, бачыш іх такую сьвежасьць і надзеннасьць, што, здаецца, яны для сёньнешняга дню і сказаны. З другога боку прыходзіцца неўразумяваць, як гэта многія з нас маглі забыць гэтыя сур'ёзныя, ня раз пераказаныя і зафіксаваныя ў важнейшых дакумантах словы Леніна. Вачавідна цяпер, што толькі забыўчывасьцю, што як і іншыя прынцыповыя пытаньні, так і правільныя ўзаемаадносіны з сялянствам, партыя выпрацоўвала ў барацьбе як з няпрыкрытым правым опортунізмам, так і опортунізмам прыкрытым „левымі" фразамі, з дробна-буржуазнай авантурыстычнай рэволюцыйнасьцю троцкісцкага напрамку, толькі посьпехамі, якія кружаць галаву, пазбаўляюць пачуцьця меры, „яснасьці ума" і жаданьнем пераскочыць цяжкасьці, збавіцца ад іх адным махам—можна тлумачыць памылкі. Бясспрэчна, што нашы посьпехі маглі быць забясьпечаны толькі высокім тэмпам індустрыялізацыі, разьвіцьцём саўгасаў, МТС, посьпехамі коопэраваньня і правільнае політыкі выхаваньня бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

„Зусім правільна, што толькі пры кіраўнічай ролі пролетарыяту, як казаў Ленін, дробная вытворчасьць можа быць пераведзена на соцыялістычны шлях, што соцыялізм не высьпявае, што „тэорыя самацёку" ў соцыялістычным будаўніцтве ёсьць тэорыя антымарксыцкая, соцыялістычны горад павінен весьці за сабою дробна-сялянскую вёску, ствараючы ў вёсцы колгасы і саўгасы і ператвараючы вёску на новы

соцыялістычны лад“ (Сталін, конфэрэнцыя аграрнікаў). Соцыялістычны горад па рознаму падыходзіць да розных пластоў сялянства, нельга забываць глыбокіх тлумачэньняў, якія даў Ільліч пры аналізе адносін да розных пластоў сялянства: „Ніколі ніводзін бальшавік, ніводзін комуністы, ніводзін разумны соцыялісты не дапускалі і думкі аб гвалту супроць сярэдняга сялянства. Усе соцыялістыя заўсёды казалі аб згодзе з імі, аб паступовым, добрахвотным пераходзе сярэдніх сялян да соцыялізму‘ (т. XXIII, стар. 507). „Тут гвалтам нічога ня зробіш. Гвалт у адносінах да сярэдняга сялянства прадстаўляе з сябе вялічэзную шкоду. Гэта пласт шматлікі, многамільённы. Нават у Эўропе, дзе ён нідзе не дасягае такое сілы, дзе пагіганцкаму разьвіта тэхніка і культура, гарадзкое жыцьцё, чыгуначныя шляхі, дзе ўсяго лягчэй было-б думаць аб гэтым,—ніхто, ніводзін з самых рэволюцыйных соцыялістых, ніколі не прапанаваў гвалтоўных мер у адносінах да сярэдняга сялянства. Больш усяго мы павінны грунтавацца на той ісьціне, што тут мэтодамі гвалту па самой сутнасьці справы нічога нельга дасягнуць. Тут экономічная задача адбываецца зусім інакш. Тут няма тае верхавіны, якую можна зрэзаць, пакінуўшы ўвесь фундамант, увесь будынак. Тае верхавіны, якою ў горадзе былі капіталістыя, тут няма. Дзейнічаць тут гвалтам, значыць загубіць усю справу. Тут патрэбна работа працяжнага выхаваньня. І калі падобным чынам дзейнічаць у адносінах да сярэдняга сялянства,—гэта будзе такім ідыётызмам, такім тупаум‘ем і такою згубаю справе, што сьвядома так рабіць могуць толькі правакатары“ (т. XVI, стар. 150). Гэтак сама т. Ленін выказваўся і на зьезьдзе комун: „Перарабіць гэтыя гаспадаркі якім-небудзь хуткім спосабам, якім-небудзь загадам, узьдзейнічаньнем звонку, з боку, было-б думкай зусім недарэчнай. Вы скарыстайце сучасны зьезд для таго, каб апошнія сьляды гэтае брыды (гвалту) поўнасьцю сьцерці з твару Савецкай Рэспублікі і каб ні на водзін прыклад не змагло спасылацца навакольнае сялянскае насельніцтва для падтрыманьня тае старое думкі, як быццам уступ у комуну зьвязан з якім-небудзь гвалтам“ (т. XVI, стар. 394). Гэтая-ж думка знайшла адбітак у рэзолюцыі VIII зьезду РКП(б): „Заахвочваючы таварыствы ўсялякага роду, а роўна сельска-гаспадарчыя комуны сярэдніх сялян, прадстаўнікі Савецкай Улады не павінны дапускаць ані ніякага прымусу пры ўтварэньні гэтакіх. Толькі тыя аб‘яднаньні каштоўныя, якія праведзены самымі сялянамі па іх дабрахвотнаму пачыну і выгады якіх праверaны імі на практыцы. Пасьпешнасьць цераз меру ў гэтай справе шкодная, бо здольна толькі ўмацоўваць прадузяты погляд сярэдняга сялянства супроць новаўводжаньняў. Тыя прадстаўнікі Савецкай Улады, якія дазваляюць сабе ўжываць ня толькі просты, але хоць-бы і ўкосны прымус, у мэтах далучэньня сялян да комун, павінны прыцягвацца да суровае адказнасьці і пазбаўленьня работы ў вёсцы“. Аб гэтым-жа гаворыць і програма партыі. Калі „у адносінах да кулацтва, да вясковае буржуазіі політыка РКП заключаецца ў рашучай барацьбе супроць іх эксплёататарскіх імкненьняў, у падаўленьні іх супраціўленьня савецкай політыцы“, так „у адосінах да сярэдняга сялянства партыя ставіць сваёй задачай аддзяляць яго ад кулакоў, прыцягваць яго на бок рабочае клясы, уважлівай адносінай да яго патрэб, змагаючыся з яго адсталасьцю мерамі ідэйнага ўзьдзейнічаньня, а ня мерамі падаўленьня, імкнучыся ва ўсіх выпадках, дзе закрануты яго жыцьцёвыя інтарэсы, практычнаю згодаю з ім, ідучы на ўступкі яму ў вызначэньні спосабаў правядзеньня соцыялістычных ператварэньняў“. А з нас шмат хто „забылі, што гвалт, неабходны і карысны ў справе барацьбы з нашым клясавым ворагам, недазвольны і пагубны ў адносінах да серадняка,

які зьяўляецца нашым хаўрусьнікам. Парушылі ленінскі прынцып дабраахвотнасьці пры пабудове колгасаў“ (Сталін. Адказ колгасьнікам).

Таксама Леніным улічвалася яшчэ тады, што могуць трапляцца людзі, якія панясуць у вёску адразу без падрыхтоўкі *комуністычныя ідэі*, чым толькі пашкодзяць справе і скомпромэтуюць нават назву Комуна і папярэджваў, што будзе шкодным, пагібельным „несьці адразу чыста і вузка комуністычныя ідэі ў вёску“ (з дзеньніка, т. XVIII, ч. II, стар. 108). „Мы не павінны разьлічваць на *непасрэдна комуністычны* пераход. Трэба будаваць на асабістай зацікаўленасьці селяніна“. (т. XVIII, ч. I, ст. 347). На жаль „вышла — як кажа т. Сталін,— што некаторыя нашы таварышы, ап'янёныя першымі посьпехамі колгаснага руху ладом такі забылі і аб тлумачэньнях Леніна і аб пастанове ЦК. Замест організацыі масавага руху за сельгасарцель, гэтыя т. т. пачалі „пераводзіць“ сялян — адзіна-асобнікаў проста на статут комун. Парушылі ленінскі прынцып недапушчальнасьці пераскакваньня цераз незавершаную форму руху дапасаванага да колгаснага будаўніцтва. Парушылі ленінскі прынцып — ня выпярэджваць разьвіцьця мас, недэкрэтызаваць рух мас, не адрывацца ад мас, а рухацца сумесна з масамі і рухаць іх уперад, падводзячы іх да нашых лёзунгаў і паляпчаючы ім пераконвацца на сваім уласным вопыце ў правільнасьці нашых лёзунгаў“ (Сталін).

* * *

Аб самых колгасах. Калі т. Ленін казаў аб колектыўных гаспадарках, дык ён іх ніколі не ідэалізаваў. Ён расцэньваў кожны колектыў раней усяго па тым, як ён практычна апраўдаў сваю назву, які ён мае аўторытэт у селяніна і вельмі абураўся, калі назва не адпавядала практыцы. Пры гэтым ён падкрэсьліваў, што ад посьпеху колектыва будзе залежаць і яго ўплыў на навакольнае насельніцтва: „Трэба на справе ўзмацніць сярод сялян пераканаeconнье, што колектыўнае земляробства, як пераход да соцыялізму, ёсьць рэч карысная, ня блазенства, ня звычайны брэд...“ „Добра, калі комуны на практыцы паказваюць, што ў іх сапраўды вядзецца сур'ёзная работа па палепшаньню сялянскае гаспадаркі, тады бязумоўна падымецца аўторытэт да комуністых і комуністычнае партыі“, і далей, патрэбна — па Леніну — каб селянін у колектывах „знайшоў-бы новыя спосабы земляробства ня ў кнігах і не ў прамовах (гэта вельмі танна), але ў практычным жыцьці, паказваючы сваю перавагу перад старым“ (т. XVI, стар. 394, 395, 396). У той час, калі колектываў было мала і якія часам няўдала былі організаваны, патрабаваў вельмі настойліва прыкладнасьці. „Патрэбна так паставіць комуну, каб яна стала ўзорнаю і каб суседнія сяляне самі пацягнуліся да яе“... „Комуны павінны разьвівацца ў тым напрамку, каб пры зносінах з імі пачалі зьмяняцца ўмовы сялянскае гаспадаркі“... „каб кожная з існуючых цяпер некалькі тысяч комун і арцеляў зрабілася сапраўдным рассаднікам комуністычных ідэй і вобразаў сярод сялян, практычным прыкладам, паказваючы ім, што яна хоць і слабы маленькі яшчэ расток, але і ўсё-ж ня штучны, непарніковы, а сапраўдны расток новага соцыялістычнага ладу“ (т. XVI, стар. 400). Пры гэтым увесь час Ленін патрабуе ад комун узьдзейнічаньня на навакольнае насельніцтва. „Комуны мы заахвочваем, але яны павінны быць пастаўлены так, каб заваяваць давер'е селяніна“ (т. XVI, стар. 151). Таксама ім было і раней аб гэтым сказана: „Сіла прыкладу ўпяршыню атрымоўвае магчымасьць сваё масавае дзейнічаньне. Прыкладныя комуны павінны служыць і будуць служыць

выхавальнікамі, настаўнікамі, штурхачамі адсталых комун“ (т. XV, стар. 196). Для тых-жа, якія не апраўдваюць назвы, патрабаваў пазбаўляць гэтыя назвы. „Слова „комуна“ ў нас пачало ўжывацца вельмі лёгка. Кожнае прадпрыемства, распачатае комуністымі, альбо пры іх удзеле, усьцяж і адразу ўжо аб'яўляюць „комунай“, і пры гэтым нярэдка забываюць, што гэтак пачэсную назву трэба заваёўваць доўгай і ўпорчывай працай, заваёўваць даведзеным *практычным* посьпехам у будаўніцтве сапраўды комуністычным (т. XVI, стар. 258, 1919 г.).

Каб паставіць працу кожнага колектыву на адпаведную вышыню, акрамя прыкладнасьці ад самых колгасаў у працы, Ленін патрабаваў максымальнае ўвагі да колектыву ад навуковых сіл, друку, рабочых. „Людзі навукі і тэхнікі павінны быць пастаўлены на службу грамадзкае гаспадаркі, бо дробным гаспадаркам з нястатку ня выйсьці“ (т. XVI, стар. 378). І кажучы аб падвышэньні продукцыйнасьці працы ў колектывах казаў: „Гэтай няўхільнай і сыстэматычнай працай павінна быць дасягнута падвышэньне продукцыйнасьці працы. Для гэтага мы павінны ўжыць найлепшыя прыёмы земляробства і прыцягнуць агранамічныя сілы Расіі, так, каб мы змаглі скарыстаць усе найлепш пастаўленыя гаспадаркі“ (т. XV, стар. 556, 1918). Паколькі кожны добры прыклад каштоўны для грамадзкасьці, патрэбна было распаўсюджваць і знаёміць з ім праз друк. Друк па Леніну, гэта вялікая прылада для гэтае справы. „Друк павінен служыць зброяй соцыялістычнага будаўніцтва, азнаямляючы ва ўсіх дэталях з посьпехамі прыкладных комун, вывучаючы прычыны іх посьпеху, прыёмы іх гаспадаркі, ставячы з другога боку на „чорную дошку“ тыя комуны, якія ўпорчыва захоўваюць „традыцыі капіталізму“, г. зн. анархіі, лодырніцтва, беспарадку, спэкуляцыі“ (т. XV, стар. 196). І далей у другім месцы ён кажа: „Узорныя сталовыя, узорная чыстата, такога вось рабочага дому, такога вось кварталу — усё гэта павінна скласьці ўдзесяцёра больш, чым цяпер прадмет увагі і турботы, як нашае прэсы, так і кожнае рабочае і сялянскае організацыі. Усё гэта расткі комунізму і дагляд гэтых расткоў — наш агульны і першы абавязак“ (т. XVI, стар. 258). Зразумела, што як посьпех працы існуючых колектываў, так і рост іх залежыць ад кіруючае ролі, ад работы ў гэтым напрамку пануючае клясы — пролетарыяту. Ленін ня раз падкрэсьліваў неабходнасьць узмацненьня працы пролетарыяту як выключнае ўмовы. „Роля пролетарыяту ў такой краіне заключаецца ў кіраўніцтве пераходам гэтых дробных гаспадароў да абагуленае колектыўнае, вобшчыннае працы“ (т. XVIII, ч. I, стар. 118), „бо экономічныя ўмовы жыцьця гэтае масы такія, што аб'яднацца сама, згуртоўвацца сама яна ня можа“ (т. XVIII, ч. I, стар. 163). Як ад самых колектываў Ленін патрабаваў, каб зрабіць уплыў на насельніцтва, дапамогі яму, „каб гэта дапамога была соцыялістычнай, г. зн. давала-б магчымасьць сялянам пераходзіць ад абасобленае, адзіна-асабовае гаспадаркі да таварыскае“, так патрабаваў дапамогі і ад дзяржавы тым, якія організуюцца. Гэта дыктуецца мэтавай клясавай устаноўкай і пэўнай політыкай. У артыкуле аб кооперацыі ён дае ўстаноўку: „Кожны грамадзкі лад узьнікае ледзь пры фінансавым падтрыманьні пэўнай клясы“ (т. XVIII, ч. II, стар. 130), і далей: „Неабходнасьць дапамогі комуне з боку дзяржавы засталася, і мы ня былі-б комуністымі і прыхільнікамі ўвядзеньня соцыялістычнае гаспадаркі, калі-б не ажыцьцяўлялі дзяржаўнае дапамогі ўсякага роду колектывам, земляробчым прадпрыемствам. Мы вымушаны гэта рабіць і таму, што гэта адпавядае ўсім нашым заданьням і, таму, што мы добра ведаем, што гэтыя таварыствы, арцелі і колектыўныя орга-

нізацыі зьяўляюцца навіною, і калі яму не даюць падтрыманьня з боку рабочае клясы, якая ва ўладзе, дык яно ня прышчэпіцца“ (т. XVI, стар. 394). Само сабою зразумела, што калі-б разьвіцьцё колгасу залежала толькі ад дапамогі, тады справа была-б зусім лёгкая. Тут шмат залежыць і раней усяго — па Леніну — ад добрае організацыі і ўнутранага парадку, чаго трэба дамагацца. Патрэбна правяраць „у чым сапраўды выразіўся гэты новы грамадзкі парадак, якім шляхам сялянам даводзіцца, што тарыскі арцельны абработак зямлі лепш за адзіна-асабовы сялянскі абработак і лепш, ня дзякуючы казённай дапамозе, трэба дамагчыся таго, каб сумець сялянам весьці і без казённае дапамогі практычнае ажыцьцяўленьне гэтага новага парадку“ (т. XVI, стар. 396).

* * *

Усімі гэтымі турботамі і дапамогай з усіх бакоў хацелася Ільлічу дамагчыся таго, каб кожны колектыў зрабіўся крэпасьцю для рабочае клясы, з якое можна і патрэбна штурмаваць клясавага ворага, выбіваць яго з яго позыцый. „Колектыўнае земляробчае прадпрыемства — ня штучна выхаваная цяплічная расьліна, але новая дапамога рабочае ўлады працоўнаму сялянству, садзейнічаньне яму ў яго барацьбе супроць кулацтва“ (там сама). Леніну было ясна, што бяз хутчэйшага ўзмацненьня соцыялістычнага сэктару нам кулака не ліквідаваць і што гэта цесна зьвязана паміж сабою. „Гэтаю работаю, — кажа ён, — павінна быць зроблена супраціўленьне гэтага кулака супроць неабходных мер, як, напрыклад, хлебныя монополіі, якое ён ня выконвае, каб нажыцца на спэкулятыўным продажы лішку хлеба“.

„Сельская гаспадарка ставіць задачай сваёй паступова навучыць сельскае насельніцтва самастойна выпрацоўваць новы парадак, парадак агульнае працы, пры якім ня можа зноў нарадзіцца кучка багаценькіх і цісnуць на масу беднаты, як гэта бывала заўсёды, і ня толькі ў вёсках у нас, але і ў саміх „дэмакратычных“ рэспубліках. Які сродак барацьбы можа быць? Ніякага іншага акрамя пераходу да агульнае гаспадаркі“ (т. XX, ч. II, стар. 320). А як цяпер? „Цяпер мы маем магчымасьць павесьці рашучы наступ на кулацтва, зламаць яго супраціўленьне, ліквідаваць яго як клясу і замяніць яго вытворчасьць вытворчасьцю колгасаў і саўгасаў“ (Сталін, конфэрэнцыя аграрнікаў).

Некалькі слоў яшчэ пра мэтоды і ўмовы працы. Яшчэ тады, шмат раней, у ўмовах дыктатуры пролетарыяту Ленін бачыў, што „сьвядомасьць у самых шырокіх масах працоўнага сялянства прачнулася і што імкненьне да завядзеньня колектыўнага абработку зямлі ёсьць у самым сялянстве, у большасьці працоўнага сялянства“... „што само жыцьцё ставіць цяпер ва ўпіркі пытаньне аб пераходзе да колектыўнага абработку зямлі, як адзінага сродку“, але і тады з усёю навочнасьцю вырысоўваліся тыя цяжкасьці, з якімі прыдзецца сустракацца. Толькі ў перадавых па тэхніцы і культуры краінах, як Нямеччына, толькі „там пераход да соцыялістычнае гаспадаркі, скарыстаньне больш высокае земляробчае тэхнікі, больш хуткага аб'яднаньня працоўнага насельніцтва вёскі — там яно пойдзе хутчэй і будзе адбывацца лягчэй чым у нас“. У нас-жа „пры абвостранай барацьбе паміж гэтымі апошнімі (пролетарыятам і буржуазіяй), пры надзвычайна крутой ломцы ўсіх грамадзкіх адносін, пры найбольшай прывычцы да старога, рутыннага, нязьменнага з боку менавіта сялян і дробных буржуа наогул, натуральна, што мы няўхільна будзем наглядаць сярод іх пераходы ад аднаго боку да другога, хістаньні, павароты, няўпэўненасьць і г. д.

А на сёньня гэтыя хістаньні звыш меры падвойваюцца „перагібамі“,— „скрыўленьні лініі партыі, зьяўляюцца цяпер асноўным тормазам далейшага росту колгаснага руху і простаю дапамогаю нашым клясавым ворагам“. Да скрыўленьняў дадаецца яшчэ організацыйна-гаспадарчая нямоцнасьць, слабая работа з беднатой.

Сам-жа селянін раней быў нагружаны шмат прадузятымі поглядамі і заўсёды спачатку адносіцца з некаторым недавер'ем. „Селянін,—кажа Ленін,— прывык з боку дзяржаўнай улады на працягу шмат вякоў сустракаць амаль адно прыгнечаньне, а таму ён прывык ставіцца недаверліва да ўсяго, што ідзе ад казны“. І тут У. І. лічыў, што раней усяго трэба падыходзіць з практыкай, толькі праз практыку можна дасягнуць неабходных вынікаў. У прамове на зьезьдзе комун ён кажа: „Напэўна, пропаганда неабходна і паўтарэньня нам баяцца нечага, таму, што тое, што для нас здаецца паўтарэньнем, для шмат соцень і тысяч сялян будзе бадай не-паўтарэньнем, а першы раз адкрытай імі ісьцінай. І калі ў нас зьяўляецца думка, што мы вельмі шмат увагі аддаем пропагандзе, дык трэба сказаць, што нам неабходна яшчэ ў сто раз больш гэта рабіць. А калі я гэта гаварыў, то кажу ў тым сэнсе, што калі мы падыходзім да сялянства з агульным тлумачэньнем карыснасьці пабудовы земляробчых комун і, побач з гэтым ня ўмеем на справе паказаць гэтую практычную карысьць, якую прыносім яму таварыскімі, арцельнымі гаспадаркамі, дык яно ня будзе аказваць давер'я нашай пропагандзе“ (т. XVI, стар. 393). Забясьпечаньне пераходу ў соцыялізм мільённых мас сялянства справа цяжкая, гэта справа зьяўляецца зьнішчэньнем кляс і зьнішчэньнем розьніцы паміж горадам і вёскай. Да гэтага зводзіцца асноўная задача, калі Ленін кажа: „Ясна, што для поўнага зьнішчэньня клясы патрэбна ня толькі скінуць эксплёататараў, абшарнікаў, капіталістых, ня толькі скасаваць іх уласнасьць, патрэбна скасаваць яшчэ і ўсякую прыватную ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, патрэбна зьнішчыць як разьлічча паміж горадам і вёскай так і разьлічча паміж людзьмі фізычнае так і людзьмі разумовае працы“ (т. XVI, стар. 249).

Задача, пастаўленая Леніным, зусім выканальная. Яшчэ і тады ў гады большае нашае адсталасьці ён упэўнена казаў, што Расіі час „перастаць быць убогай і бясьсільнай, каб беззваротна стаць магутнай сілай, што „соцыялізм“ ужо цяпер ня ёсьць пытаньне далёкага будучага, альбо якое-небудзь неконкрэтнае карціны, мы соцыялізм перацягнулі ў паўсёднае жыцьцё, з Расіі нэпаўскай будзе Расія соцыялістычная“ (т. XVIII ч. II, стар. 100, 1922 г.).

А таму, калі ў нас у 30 годзе пяцігадовы плян колектывізацыі — перавыкананы, калі „грунтоўны паварот вёскі да соцыялізму можна лічыць ужо забясьпечаным“, можна сказаць, што партыя і рабочая кляса як у першыя гады пасьля сьмерці Леніна, так і цяпер выконвае з посьпехам фармулёваную яе правадыром задачу.

---

Б. Салдаценка

# Арганізацыя батрацка-бядняцкіх груп у колгасах і праяўленьне кулацкага супраціўленьня *)

Партыя ўвесь час самым рашучым чынам казала, што пасьпяховасьць колектывізацыі сельскае гаспадаркі і ліквідацыя кулацтва, як клясы, вымагае ад парторганізацыі максымальнай увагі да разгортваньня організацыі батрацтва і беднаты, як апоры пролетарыяту на вёсцы, асабліва на даным этапе, калі партыя вядзе пролетарыят і асноўныя масы сялянства да ліквідацыі кулацтва, як клясы, на падставе суцэльнае колектывізацыі, што выклікае жорсткае супраціўленьне клясавага ворага.

Вось чаму Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б падкрэсьлівае, што „Ва ўмовах абвостранай барацьбы з кулацтвам, што непарыўна зьвязана з магутным масавым ростам колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, асабліва неабходна ўзмацненьне батрацка-бядняцкіх груп. „Пленум ЦК,—чытаем мы далей,—абавязвае ўсе партыйныя організацыі прыняць захады да ўзмацненьня ўплыву батрацка-бядняцкіх груп на работу па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі".

Партыя паказала, што організаванае батрацтва і бедната павінны стаць авангардам і асноўнай кіруючай сілай у гаспадарчым кіраўніцтве колгасам. Выразнымі і сваечасовымі былі паказаньні ЦК КП(б)Б на тое, хто павінен быць апорай і рухомай сілай пры правядзеньні колектывізацыі, бо „...без згуртаваньня батрацка-бядняцкага ядра ў колгасах, асабліва ў колгасах больш простага тыпу... немагчыма спыніць спробы кулакоў і іншых варожых элемэнтаў, што імкнуцца разлажыць, разбурыць іх (колгасы) з сярэдзіны" чытаем мы ў пастанове Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б). І на сёньнешні дзень мы можам налічыць батрацка-бядняцкіх груп у колгасах, якія здолелі паказаць прыклады добрай работы, у выніку выкананьня дырэктыў партыі і правядзеньня іх у жыцьцё. Ня гледзячы на гэта, дрэннага ў нашай партыі ўсё-такі застаецца больш.

### Там дзе лінію партыі скажалі

Увесь корань памылак, зробленых пры правядзеньні колектывізацыі, гэта парушэньне добраахвотнасьці ў колгасным будаўніцтве, няправільны падыход да серадняка ды ігнараваньне батрацка-бядняцкіх мас. Колектывізацыя насіла сугуба адміністрацыйны характар. Яна суправаджалася раскулачваньнем серадрякоў (у некаторых раёнах былі

*) Гэты артыкул, які падагульвае вопыт працы комвузаўцаў на вёсцы, зьмяшчаем у парадку інфармацыі.

раскулачаны сотні серадняцкіх гаспадарак) і нават беднякоў, пагрозай высылкі на поўнач, пазбаўленьня выбарчых правоў і г. д. Работа сярод батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас і „цярплівае растлумачэньне асноў партыйнае політыкі... падмяняліся бюрократычным, чыноўніцкім дыскрэдытаваньнем зьверху раздутых лічбаў... процанту колектывізацыі“ (Сталін). Цэлыя раёны, пры наяўнасьці 30—40 проц. хутароў, на 80—90 проц. колектывізаваліся на працягу аднаго-двух месяцаў (Бялыніцкі—Магілеўскай акругі, Дубровенскі—Аршанскае акругі, Рагачэўскі—Бабруйскай акругі). Абагуленьне ўсяе маемасьці, нават птушак, цялят і сьвіней, (Магілеўшчына і інш.) праводзілася пры наяўнасьці 10—20 проц. „жадаючых“ запісацца ў колгас (абагульвалася амаль усімі), пад пагрозай высылкі, раскулачваньня і штрафу ў 250 р. У Дунайскім с-с (Чачэвіцкі раён, Магілеўскай акругі), напрыклад, быў устаноўлен тэрмін—2 дні, за які і быў колектывізаваны ўвесь сельсавет.

У той час, як Бялыніцкія „левакі“ праводзілі „колектывізацыю“, кулакі Мельнікаў і Кростыль, ня спалі ў шапку. Яны заняліся работай сярод беднаты. Пасьля праведзенай імі работы (падпольных сходаў і індывідуальнай апрацоўкі) „абагуленая“ маемасьць была разабрана на працягу 2-х гадзін (за адно разабралі маемасьці і раскулачаных).

Раскулачваньне таксама праводзілася адміністрацыйна-бюрократычным шляхам, без організацыі і апоры на батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы, у выніку кулакамі наладжваўся выхад часткі сялянства супроць раскулачваньня (Лельчыцкі, Бялыніцкі і інш. раёны), якое (раскулачваньне) праводзілі тыя-ж ударныя брыгады з мясцовай раённай і, нярэдка, прадстаўнікоў акруговай улады), якія праводзілі абагульненьне.

Лёзунг „В два счета“ скончыць з кулацтвам, як з клясай, адначасова ігноруючы організацыю батрацка-бядняцкіх мас, у некаторых мясцох цярпеў правал. Гэтым самым і паслаблялася пазыцыя „партыі ў барацьбе за выкананьне лёзунгу ліквідацыі кулацтва, як клясы“ („Правда“).

А як-жа масы. Аб ролі мас пры правядзеньні такой колектывізацыі можна ўбачыць з тых прыкладаў, якіх ня мала ёсьць у раёнах суцэльнае колектывізацыі. У Лельчыцкім раёне (Мазыршчына), акрамя ігнараваньня батрацка-бядняцкіх мас, даходзілі нават да таго, што ўсіх беднякоў і серадняків, якія не жадалі ўступаць у колгасы, саджалі ў лазьню (свой „допр“ у вёсках Глушкавічы і Баравыя). У большасьці вёсак раёну беднякам і серадняків пагражалі высылкай на поўнач, адмаўлялі ў выдачы дэфіцытных тавараў і інш. З такім-жа зьявішчам мы сустракаемся і ў Жлобінскім раёне Бабруйскай акругі. Там ужо колектывізаванае сялянства ўцякала з вёсак, каб толькі не хадзіць на агульныя сходы, дзе „колектывізатары“ гаварылі аб „колектывізацыі“ (Альбянскі сельсавет).

У вёсцы „Ніжняя-Алба“ рабіліся абходы двароў і перад кожным селянінам паасобна ставілася пытаньне. „Альбо пішыся ў колгас, альбо расьпішыся, што хочаш пайсьці на высылку. Прычым, хата і ўвесь двор застаецца ў карысьць колгасу“. Раней гэтага абходу частка серадняків была раскулачана. Дзецца было некуды і... абы—брала перавагу: усе „ўступалі“ ў колгасы. Ужо як пачалася сяўба ніхто з тых, што запісаліся, колгасьнікамі сябе ня лічылі.

„Начальства“ Жыткавіцкага РВК ужывала цікавы „мэтод“. На агульных сходах сялян яны патрабавалі галасаваньня толькі супроць рэзолюцыі па колектывізацыі. „Які-ж дурань,—кажуць беднякі,—будзе галасаваць супроць мерапрыемстваў Савецкай улады“. Яны ня был

супроць, але яшчэ не разумелі карысьці колектывізацыі і ня былі яшчэ „за“. І „колектывізавалі цэлыя вёскі“: абагулілі асноўныя „сродкі вытворчасьці“, абралі кіраўнічыя органы, зафіксавалі і... папяровыя колгасы гатовы. Па пачыну інструктара ЦВК т. Вайцока, спынялася праца школ, а настаўніцтва мобілізавалася ў „ударнікі“. Ударнікі забіралі ўсё, што пападзе, а хто ўпартаваў, патрабавалі штраф у 200 р. Зьнішчалася жывёла, разбазарвалася насеньне.

„Пакончылі з кулакамі“, а цяпер возьмемся і за тых (хоць-бы беднякоў), хто перашкаджае соцыялістычнаму будаўніцтву,—заявілі сябры Грабаўскай ячэйкі КП(б)Б (Мазыршчына) у прысутнасьці прадстаўніка Акругкому. Аб тым, што мы „Не болтаем“, „пакажам на справе“. І паказалі.

Назаўтра 45 сераднякоў былі пазбаўлены выбарчых правоў і сьпісы „пазбаўленцаў“ былі вывешаны на відным месцы. Частка серадзякоў раскулачана.

Як відно з прыведзеных фактаў, пагрозы высылкі, нядача дэфіцытных тавараў, антысераднякцкія загібы, раскулачваньне, ігнараваньне батрацтва і беднаты—усё гэта толькі на руку клясаваму ворагу, які ўжо дзе-ні-дзе меў посьпех, што „левыя“ загібшчыкі тлумачаць „шкоднасьцю“ артыкул тав. Сталіна „адступленьнем“, што ён зьявіўся быццам-бы ўжо як адказ у сувязі з вынікам скажэньняў генэральнай лініі партыі.

„Галавакружэньне“ ў шмат якіх мясцох яшчэ не пакідаецца. Загібшчыкі працягваюць свае паклёпніцкія опортуністычныя нападкі на генэральную лінію партыі, адмаўляюцца прызнаваць і выпраўляць свае памылкі (Дубровенскі, Круглянскі і інш. раён). А папяровыя, толькі-што „сьпечаныя“, колгасы, як картачныя хацінкі, пачалі рушыцца. У Круглянскім раёне замест 90 проц. колектывізацыі засталося каля 30 проц.

А колькі нагрымеў гэты раён са сваёй „100 проц.“ колектывізацыяй.

Згортваньню колектывізацыі на Аршаншчыне, галоўным чынам, спрыяла тое, што мясцовыя працаўнікі замест прызнаньня сваіх памылак і выпраўленьня дапушчаных перагібаў працягваюць гэтыя памылкі. „Калі-б не артыкул тав. Сталіна“,—гаварылі яны, дык з колектывізацыі ўсё было-б добра. „У раёне шукаюць вінаватых у перагібах і памылках“, у той час, як работа ў некаторых ячэйках па растлумачэньню пастаноў ЦК і артыкулу т. Сталіна сярод бядняцкіх і сераднякцкіх мас не праводзіцца. У частцы парторганізацыі адбываецца дэмобілізацыйны настрой, чаму паслаблена барацьба з кулаком, што зьяўляецца фактычна правым опортунізмам на практыцы. Правым ухілістым—пасобнікам кулака і тут не даецца належнага адпору.

Нельга адмаўляць і тое, што з выпраўленьнем перагібаў асобнымі ячэйкамі (перавод „комун“ на новы статут арцелі і г. д.) павялічыўся прыток у колгасы (процант колектывізацыі вырас з 20 да 30 проц.).

Асобныя партыйныя ячэйкі зусім ня здольны праводзіць партыйную лінію ў справе колектывізацыі. Старобінская ячэйка (Прапойскі раён) стаіць на баку ад колектывізацыі, а асобныя сябры яе (Ефіменка Тарас), кажучы аб пагрозе вайны, з прычыны чаго з колектывізацыяй трэба „пачакаць“, фактычна праводзяць антыпартыйную работу.

Галоўчыцкая ячэйка (Мазыршчына) за адмаўленьне ўступіць у колгас выключыла з партыі Купчэнка, Пінчука і інш. „комуністых“. Паказаныя прыклады досыць выразна сьведчаць аб здольнасьці паказаных ячэек у цэлым кіраваць колектывізацыяй сельскае гаспадаркі.

Аб кіраўніцтве Райкомаў можна адзначыць, што некаторыя з іх заходзяць (ад „галавакружэньня“, бязумоўна) яшчэ далей парт'ячэек. Старшыня Жыткавіцкага РВК (член РК) забараніў водпуск дэфіцытных тавараў „нехацімцам“, а сябру прэзыдыуму тав. Разумовічу было загадана: „альбо калгас, альбо партыя“. Апошні дзеля „начальства“ перастараўся „колектывізуючы“: замест арганізацыі беднаты і растлумачальнай працы, ён „абагуліў“ сельска-гаспадарчы інвэнтар у „нехацімцаў“, якія яшчэ больш упартавалі. Ужо самаарганізаваўшыся ў колгас, жанчыны палкамі выгналі з вёскі гэтага „колектывізатара“ (Вотчынскі с/с. Мазырскай акругі). У другім раёне (Нароўля) раённыя працаўнікі, ужо організаваўшы колгасы, пра беднату забыліся. Раз асноўныя масы ў колгасы пайшлі, навошта-ж цяпер батрацка-бядняцкія групы. І групы ў палове колгасаў і с/с. былі распушчаны. Для выпраўленьня перагібаў парторганізацыя своечасова мобілізавана ня была. У выніку 10 колгасаў разышлося.

Беднякі в. Крэмянка (Прапойск) скардзяцца: „Комуністыя аб пастановах партыі нам не растлумачваюць, на сходы ня зьбіраюць, і як у колгасы організавацца мы ня ведаем; а РВК вынес пастанову, каб вёску нашу высяліць і засяліць кулакамі“. Напалоханая беднага, што савулада іх высяліць (вёска Крэмянка), фактамі даводзіць, што ім і на пясках Крэмянскіх жыць добра.

Дзякуючы такой „політыцы“ РВК і РК, масы дыбам паўсталі супроць колектывізацыі. А кулаку гэта толькі і патрэбна.

У выніку грубых галавацяпстваў (пагрозы высылкай, раскулачваньне і г. д.) цэлыя вёскі на палову зьнішчалі жывёлу, насеньне, корм (баяліся раскулачваньня). Факты такія мелі месца амаль што ў кожным раёне (в. „Яленец“, Будакашалёўскага раёну—Гомельскай акругі, Алба, Жлобінскага раёну—Бабруйскай акругі і г. д.). Замест таго, каб зрабіць упор на работу з батрацтвам і беднатой і скарыстаць іх як сваю галоўную апору на вёсцы, партыйныя організацыі недаацэньваюць гэтае работы, ігнорыюць задачу ўзмацненьня саюзу рабочых і беднаты з серадняком, дзейнічаюць не паказам, а загадам. Т. Гей на менскім гарпартактыве зусім праўдзіва адзначыў, што „менавіта там, дзе было больш за ўсё скажэньняў і „левых“ загібаў, там горш за ўсё справа абстаіць з організацыяй батрацтва і беднаты“. Дзякуючы гэтай правай практыцы і „левым“ заскокам (што выразілася ў ігнараваньні організацыі батрацка-бядняцкіх груп, у антысерадняцкіх загібах, голым адміністраваньнем, дзе рабілася ўсё зьверху бяз мас) мы мелі наяўнасьці актывізацыі кулацтва, якое (кулацтва) ад супраціўленьня пераходзіла да організаванага выступленьня супроць колектывізацыі, супроць пасеўкампаніі і інш. мерапрыемстваў, зьвязаных з рэконструкцыяй сельскае гаспадаркі.

### Формы і мэтоды кулацкага супраціўленьня

Ліквідацыя кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнае колектывізацыі прывяла да супраціўленьня клясавага ворага. Кулак, адчуваючы сваю немінуючую пагібель, ад адчыненае барацьбы пераходзіць да замаскаваных форм, новых форм і мэтодаў барацьбы; сам ён адчынена не выступае, як гады два таму назад. Сваю „масавую“ працу кулак праводзіць праз спэцыяльных „агітпропаў“ (падстаўных асоб — нярэдка і беднякоў).

Па вёсках Нараўлянскага раёну (Мазыршчына), пад выглядам жабрака ходзіць сьляпы, які распаўсюджвае чуткі, што з Польшчай

пачалася вайна, чаму і колектывізацыя адменена, што Беларусь пад Польшчай застанецца, а для гэтага комуністыя рабуюць „добрых“ людзей. Пасьля праверкі аказалася, што гэты „жабрак“ зьяўляецца братам раскулачаных кулакоў Кастэцкіх з вёскі Буды. У вёсцы Антонава кулакі і баптысты начамі ня сьпяць: яны ходзяць па хатах і палохаюць сялян: „Канец сьвету наступіў і хто ў колгасы пойдзе — павешаны будзе, а з пачатку па 13 чал. пад аднэй коўдрай з чужымі жонкамі ерэтыкі спаць будуць; жанчыны, якія больш 4-х пудоў весам— ужо ў Кітай рыквізуюць“.

Усе гэтыя плёткі клясавых ворагаў ня могуць ня мець посьпеху, тым больш, што ў такіх глухіх і адсталых культурна кутках, як Нараўлянскі, Лельчыцкі і інш. раёны, дзе больш за ўсё было антысераднядкіх загібаў, дзе больш за ўсё ігноравалася організацыя батрацкабядняцкіх мас, дзе як нідзе вялікі процант раскулачваньня сераднякоў (дасягае 10—20 процантаў).

Кулак групуе навокал сябе ўсіх пакрыўджаных і скарыстоўвае іх для барацьбы супроць колектывізацыі, ліквідацыі кулацтва, як клясы, супроць пасеўкампаніі (Лельчыцкі, Бялыніцкі, Жыткавіцкі раёны). Асабліва кулацка-папоўская хэўра вядзе працу сярод жанчын, якія скарыстоўваюцца супроць калгасаў на глебе рэлігійнага пачуцьця.

Жанчыны аднэй вёскі (Канатоп), азлобленыя адміністрацыйным зачыненьнем царквы рашылі зрабіць „аброк“ супроць „колектывізатараў“. Для гэтай мэты яны за адну ноч сабралі кудзелі, ільну, нітак і вырабілі палатно, якое іхняя „дэлегацыя—даставіла ў Нараўлянскую царкву за 37 кілём. Поп зрабіў адпаведнае адпраўленьне „за упакой“ колгасу, трыжды прычасьціў дэлегатаў, заспакоіў іх, што „ўсё будзе так, як богу ўгодна“. На заўтра ў гэтай вёсцы дзесяткамі пачалі паступаць заявы аб выхаду з колгасу. Прыкладам, такое зьявішча наглядалася і ў Грабаўскім с/с., тэй-жа Мазырскай акругі.

Кулак абнаглеў. Па адрасу беднякоў і серадднякоў сыплюцца пагрозы: „Хто ў колгасы пойдзе, на кольлях перавешаем“ (Чачэвіцкі раён, Магілеўскай акругі). Ноччу кулакі в. „Дунаёк“ напалі на бедняка-колгасьніка Міхалапа Рыгора.

Кулакі паставілі 3 бочкі піва (там самі робяць піва) і спаівалі беднякоў і серадднякоў-калгасьнікаў, каб апошнія вышлі з колгасу і абаранялі іх (кулакоў) ад раскулачваньня. Падкупленыя сялянкі - бяднячкі хадзілі па вёсках і нускалі чуткі, што „жабруюць яны ў выніку колектывізацыі, што дзяржава забрала ўвесь хлеб, мяса і інш.“.

Кулакі прасякаюць у колгасы, дзе вядуць разбураючую работу (Нараўлянскі і Чачавіцкі раёны). Перад уступленьнем яны „самараскулачваюцца“, распрадаюць усю маёмасьць, (жывёлу, корм, насеньне).

Адсутнасьць працы сярод жанчын кулак скарыстоўвае з мэтай зрыву сходаў і колектывізацыі (Лупалаўскі раён). Большасьць вясковых партоорганізацый недаацэньваюць працы сярод сялянак, дэлегацкія сходы не працуюць, чаму ў масе сваёй жанчыны зьяўляюцца зброяй у руках клясавага ворага.

У клясавым змаганьні выхоўваецца лепшы бядняцка-батрацкі актыў, які ідзе ў шэрагі комуністычнае партыі (Угольчыцкі і Грабаўскі с/с). Усё гэта робіцца там, дзе месяц—два назад мелі месца грубыя скажэньні партыйнае лініі ў колгасным будаўніцтве, дзе кулак скарыстоўваў перагібы для разбураючых мэт. Цяпер выпраўлены памылкі, абагулена маёмасьць, організавана ўдарніцтва... па - бальшавіцкаму праходзіць сяўба.

## Прыклады правільнае работы

Важнейшае рашэньне партыі па пытаньнях работы з батрацка-бядняцкімі масамі выконваецца ганебна марудна, а з большага яно зусім ня выконваецца. Парторганізацыі забываюць, што правільна пастаўлена работа з батрацтвам і беднатой і ўстанаўленьне добрых узаемаадносін з серадняком на базе згоды з ім, зьяўляецца лепшай і галоўнай умовай колектывізацыі.

Аднак было-б у грунце няправільным сьцьвярджаць, што праца з беднатой усюды не вядзецца. Многія парторганізацыі зрабілі грунтоўны перелом у гэтым пытаньні, і праз організацыю батрацка - бядняцкіх груп у колгасах, дайшліся значных посьпехаў у замацаваньні і разьвіцьці колгаснага руху. Гэтага могуць ня бачыць і адмаўляць толькі політычныя сьляпцы — „левакі" і правоапортуністыя, якія ня бачаць тае вялізарнае ролі ў соцыялістычнай перабудове вёскі, якую павінны адыгрываць і адыгрываюць бедната і батрацтва, якія організаваны ў групы.

Мы сустракаліся з такімі фактамі, калі нават пры наяўнасьці грубых скажэньняў партыйнае лініі і самага грубага падыходу да серадняка (раскулачваньне, пагроза высылкай і інш.) пасьля самае сур'ёзнае работы сярод батрацка - бядняцкіх мас, організоўваліся буйныя колгасы. У гэтым характэрным зьяўляецца Чырвонаборскі с/с. (Расьнянскі раён, Аршанскае акругі). Гэты сельсавет складаецца выключна з хутароў і быў колектывізаваны „в два счета". Кулак і тут скарыстаў перагібы і ігнараваньне організацыі беднаты. Ён прымаў усе захады да зрыву колектывізацыі і веснавое сяўбы. Кулакі, пасьля таго, як развалілі колгас „Чырвоная перамога", выкінулі лёзунг: „Не засяваць яравога кліну". Сялянства на сходы хадзіць адмаўлялася.

Але пасьля таго, як організавалі тут батрацтва і беднату (працавала брыгада Комвузу), правялі сходы серадняцкага актыву, справа зусім зьмянілася. Ужо ў пачатку красавіка Чырвонаборскі с/с. быў колектывізаваны на 40%. Асабліва вялікую ролю ў замацаваньні організаванага колгасу (больш за 200 гаспадарак) „Чырвоная Перамога" адыграла бядняцка-батрацкая група і прыцягненьне да актыўнага удзелу ў кіраўніцтве колгасам серадняка. Серадняк тут ня толькі абраны ў органы кіраваньня, але ён наведвае сходы беднаты і ўвесь свой гаспадарчы вопыт скарыстоўвае ў гаспадарцы колгасу. У выніку гэтага мы маем узмацненьне бядняцка-серадняцкага блёку ў колгасе, замацаваньне колгасу і пасьпяховае правядзеньне і скончэньне веснавое сяўбы. Пасьля пробнага выезду на поле пасыпаліся дзесяткі новых заяў аб прыёме ў колгас „Чырвоная Перамога". Батрацка - бядняцкая група налічвае каля 80 чалавек. Па іх пачыну выяўлена і ўцягнута ў колгас 16 батракоў. На сваіх пасяджэньнях яна распрацоўвае вытворчыя пляны, пляны сяўбы, артыкулы тав. Сталіна і пастановы ўраду і партыі аб колгасным будаўніцтве. Лепш працуе батрацка - бядняцкая група ў колгасе „Расьсьвет Пераможца" (Жлобінскі раён, Бабруйскай акр.). Сваімі посьпехамі ў разьвіцьці гэты колгас абавязаны, галоўным чынам, партыйнай ячэйцы колгасу, якая здолела добра організаваць працу батрацка-бядняцкае групы і, таксама, прыцягнуць серадняка да кіраўніцтва колгасам. Група колгасу „Расьсьвет Пераможца" абмяркоўвае на сваіх пасяджэньнях усе гаспадарчыя і політычныя пытаньні колгаснага будаўніцтва (соцспаборніцтва, організацыя вытворчае нарады, пасяўная кампанія, ударніцтва і інш.), дзякуючы чаму колгас узмацніўся і сваім разьвіцьцём бярэ пяршынства над усімі колгасамі Бабруйшчыны. Вялікую ролю ў разьвіцьці колгасу адыграла і ўцяг-

неньне ў гаспадарчае будаўніцтва ўсяго серадняцкага актыву. Серадвякі тут кіруюць асобнымі галінамі гаспадаркі (паляводзтва, садаводзтва і інш.), зьяўляюцца брыгадырамі, а адзін кіруе вытворчай нарадай колгасу, куды яго высунула група. Лепшыя серадвякі—актывістыя ўжо прыняты ў шэрагі КП(б)Б (у маі месяцы прыняты 3 серадвякі). У некалькіх радкох ня можна выразіць таго ўздыму і энтузыязму калгасьнікаў, які тут ёсьць. Лепшым доказам гэтага зьяўляецца ўдарніцтва, якім ахоплена палова колгасу і соцспаборніцтва, адмаўленьне колгасьнікаў ад выхадных дзён у часе веснавое сяўбы, дзякуючы чаму веснавая сяўба прайшла з посьпехам і скончана за 5 дзён да вызначанага тэрміну.

Сходы групы беднаты наведвае 200—300 чалавек колгасьнікаў. Яе работай цікавяцца і не колгасьнікі, якія прыходзяць з вёскі Майскае і пасьля цэлымі групамі ўступаюць у колгас. Гэтымі днямі (16 мая) на групе абмяркованы вынікі веснавое сяўбы, якая (сяўба) дала прыліў 36 гаспадарак у колгас; другім пытаньнем абмяркована падрыхтоўка да ўборкі ўраджаю. Вырашана скарыстаць вопыт ударніцтва і соцспаборніцтва, які набылі пры правядзеньні бальшавіцкае сяўбы і для правядзеньня ўборкі ўраджая. Тут-жа, на сходзе групы, амаль усе колгасьнікі запісаліся ў ударнікі.

Ня дрэнна працуе і батрацка-бядняцкая група інтэрнацыянальнага калгасу „Шчадрына“ (Бабруйшчына). Гэты буйнейшы ў раёне колгас у 280 гаспадарак, арганізаваны ў гэтым годзе і за параўнальна кароткі час значна ўзмацніўся гаспадарча і разьвіваецца палітычна. Надзвычайна характэрным зьяўляецца тое, што пры наяўнасьці грубейшых перагібаў у Шчадрынскім сельсавеце, дапушчаных пры арганізацыі гэтага колгасу, ніякіх адліваў з яго тут ня было. Гэта зьяўляецца вынікам правільных узаемаадносін з серадняком, вынікам сыстэматычнай сур‘ёзнай працы сярод батрацка-бядняцкіх мас, якія зрабілі свой уплыў на жыцьцё і разьвіцьцё колгасу, праз арганізацыю групы. На групе колгасу „Шчадрына“ абмяркованы наступныя пытаньні: абагуленьне маёмасьці, рашэньне партыі аб групах, абмеркаваньне пляну сяўбы, аб месячніку жывёлагадоўлі і арганізацыі кармовае базы (пабудова сілоснай вежы). Усе пытаньні, абмяркованыя беднатой пры ўдзеле серадвякоў (серадвякі на групе прысутнічаюць таксама і прымаюць удзел у абмеркаваньні пытаньняў). Праўленьнем колгасу праводзяцца ў жыцьцё: плян сяўбы выканан з перавышэньнем, па частцы стварэньня кармовае базы ў колгасе ўжо зроблена шмат: пасеяна 6 *га* кукурузы, 4 *га* кармовых буракоў, плошча пад бульбу з 57 *га* пашырана да 70 *га*; прыступлена да пабудовы сілоснае вежы, якая будзе зьмяшчаць 32.000 пудоў. Па пачыну групы ўжо складзены і абмяркованы плян васеньняе пасяўное кампаніі і ўборкі ўраджаю. Складзены і абмяркованы плян групы, якая ўсю працу праводзіць у плянавым парадку.

Правыя опортуністыя і ворагі пролетарыяту на ўсіх раздарожжах як вароны каркаюць, што партыя ў справе колектывізацыі. „пацярпела крах“, што толькі яны (правыя опортуністыя) маюць рацыю сьцьвярджаць сваю „правату“ „тэорыі самацёку“, якая нічога агульнага ня мае з ленінізмам.

На сёньнешні дзень мы маем дзесяткі буйных колгасаў, колгасаў нядаўна арганізаваных, у якіх налічваецца па 100—200 і больш гаспадарак; яны гаспадарча замацаваліся і стаяць на цьвёрдай глебе свайго разьвіцьця. У Буда-Кашалёўскім раёне (Гомельшчына) дзе ў самы разгар сяўбы прыходзілася быць, сяляне цэлымі вёскамі шлі на палі колгасьнікаў, каб паглядзець, як колгасьнікі працуюць (колгасы імя

Дзяржынскага, „Комінтэрн"). А колгасьнікі ў сваю чаргу, выяжджалі на поле раней за індывідуальнікаў, канчалі сяўбу да вызначанага тэрміну і ўсе сілы кідалі на дапамогу слабейшым колгасам і тым самым індывідуальнікам—бедняком і серадняком, якія кучамі цяпер варочаюцца ў колгас.

Буда-Кашалёўская парторганізацыя зразумела політычны сэнс і важнасьць пастаноў партыі па організацыі батрацка-бядняцкіх груп і ўзмацненьні саюзу беднаты з серадняком. Гэта адразу кідаецца ў вочы. Па пачыну груп організавана праца ў колгасах, складзены і абмяркованы вытворчыя пляны, прапрацованы ільготы колгасьнікам, адказы тав. Сталіна колгасьнікам і г. д. У колгасе „Гофінунг" бедната і батрацтва праз групы дамагліся ад праўленьня колгасу і РВК куплі 16 штук рабочае жывёлы на Украіне. Гэта ў колгасе „Гофінунг", дзе ў мінулым годзе налічвалася 6 яўрэйскіх сямей, цяпер налічваецца 150 гаспадарак. А ў красавіку яшчэ ўступіла 17 гаспадарак. Перад веснавою сяўбою кулацтва, організаванае ў блёк з былымі людзьмі (быўшы валасны цэнтр), выступілі супроць колгасаў і яго організатараў. З боку бядняцка-батрацкіх мас колгасу, кулацтву дан рашучы адпор. У гэтым заключаецца вялікая здольнасьць парт'ячэйкі колгасу, якая сваячасова здолела мобілізаваць актыўнасьць і політычную ярасьць батрацтва і беднаты ў саюзе з серадняком супроць клясавага ворага.

Тое-ж самае мы маем і ў колгасах Сакароўскага с.-с., Вульскага р., Полацкай акругі. Тут быў масавы выхад насельніцтва з колгасаў. Але вось організуюцца групы ў колгасах, наладжваецца праца з беднатой і колгасы замацоўваюцца, дзякуючы чаму пачынаецца прыцёк заяў ад тых, што выступілі з колгасаў (у адным колгасе „Бальшавік" на сходзе беднаты ў адзін дзень было падана 15 заяў). На групах колгасаў „Нізгалава" і „Бальшавік" прапрацаваны пытаньні севу, організацыі працы ў колгасах, прапрацаваны адказы т. Сталіна колгасьнікам і інш. Там бедната паказала прыклады організаванасьці і дзякуючы гэтаму колгас павялічыўся на 20 гаспадарак.

Па с.-с. ва ўсіх 8 колгасах скончылася сяўба. Усе колгасы былі цалкам забясьпечаны насеньнем, організавана і разьмеркавана праца, наладжана ўдарніцтва. Серадняк прыцягнуты да кіраўніцтва колгасаў (палова серадьякоў у праўленьні).

У сувязі з павялічэньнем актыўнасьці батрацтва і беднаты, мы маем цягу іх у шэрагі комуністычнае партыі (прынята 17 чалавек, сярод якіх 3 жанчыны-бядначкі). Організуецца кандыдацкая група КП(б)Б, бо адна ячэйка абслугоўвае 2 с.-с. (Сокараўскі і Сушанскі). Аўтарытэт парт'ячэйкі сярод бядняцка-серадняцкіх мас значна ўзрос. Ячэйка перабудавала працу і абмяркоўвае пытаньні ўнутрыколгаснага будаўніцтва. Усё гэта—вынікі організацыі батрацка-бядняцкіх груп, вынікі правільных узаемаадносін з серадняком.

У прыклад іншым можна яшчэ ўзяць асобныя групы ў колгасах на Мазыршчыне. У колгасе „Рашучы" за параўнальна кароткі час бедната праявіла вялізарную актыўнасьць і організаванасьць у барацьбе з кулацтвам, якое пралезла ў колгас, каб там за шыльдаю яго схавацца ад раскулачваньня і разбурыць колгас з сярэдзіны, а таксама і ў барацьбе за замацаваньне колгасу. За два тыдні (сакавік) група зьбіралася 3 разы і абмеркавала пытаньні: задачы групы ў колгасе, абагуленьне насеньня і інвэнтару, організацыя ўдарніцтва, аб разбураючай дзейнасьці кулацтва, якое падрывае работу ў колгасе, аб адчыненьні хаты-чытальні.

У барацьбе з кулацтвам група правяла вялікую работу і зламала яго супраціўленьне. На адным пасяджэньні (8 сакавіка) у пастанове адзначаецца: „Кулакі заможнікі: Жалязга М., Грыц Базыль, Сычава, Їльляш М., Васілеўскі Сьцяпан і інш. з дня арганізацыі колгасу вялі разбураючую працу сярод колгасьнікаў па ўзрыве колгасу знутры (падбухторвалі для разбору жывёлы, што т. Сталін колгасы „адмяніў“, забралі першымі коняй і плугі), і тое, што перад уступленьнем у колгас вышэйпамянёныя разбазарвалі шмат жывёлы,—паставіць пытаньне аб знахаджэньні іх у колгасе; прыцягнуць іх да адказнасьці за антыколгаснае выступленьне, шкодніцтва і разбазарваньне; прасіць сельсавет дамагацца індывідуальнага абкладаньня і раскулачваньня кулакоў (Жалязга і інш.)“.

Пастановы групы выконваюцца: шкоднікі і злачынцы выключаны з колгасу, яны адданы пад суд. Два беднякі, якія паддаліся правакацыі кулакоў, вярнуліся ў колгас, бедната пастаўлена на больш адказную працу, адчынена хата-чытальня, дзе зьбіраюцца колгасьнікі, і г. д. „У мінулым годзе“, успамінае бядняк Шыкун Рыгор, „наша бедната яшчэ галасавала за кулакоў Бернацкіх і Касьцецкіх (раскулачаны), а цяпер ужо серадdespite заадно“. Ї сапраўды, батрацка-бядняцка-серадняцкі блёк у колгасе „Рашучы“ узмацніўся, як ніколі. З усёй навочнасьцю гэта выявілася пры перавыбарах сельсавету, калі серадвякі выступалі ў абарону беднаты.

Дзякуючы батрацка-бядняцкай групе, аналёгічнае мы бачым і ў колгасе „Герой Працы“ (таго-ж раёну), дзе колгасьнікі, якія паддаліся кулацкай агітацыі, выйшлі з колгасу, цяпер зноў варочаюцца назад і становяцца ўдарнікамі па пачыну беднаты. Там абсталяваны 4 кузьні, у якіх адрамантаваны ўвесь с.-г. інвэнтар, сабрана насеньне (140 проц. заданьня), абагулены с.-г. інвэнтар. Усё гэта зроблена ў час калі растлумачваўся артыкул т. Сталіна, калі панікёры, губляючы прытомнасьць, крычаць аб шкоднасьці артыкулу.

Сярод вялікіх лясоў Лельчыцкага раёну разьмешчаны вёскі Мілашэвічы і Баравое, дзе шмат беднаты, работу з якой вядзе выключна кулак, у выніку—тармозіцца колектывізацыя, частка сялянства выступае супроць раскулачваньня і г. д. На пытаньне—чаму-ж партячэйка не організоўвае беднату в. Баравое—політычныя сьляпцы з Мілашэвіцкае ячэйкі сьцьвярджаюць, што „беднаты ў в. Баравой няма (у в. Баравое 260 двароў). Пасьля-ж праверкі аказалася, што ў в. Баравой налічваецца 75 батрацка-бядняцкіх гаспадарак, якія ўсе пасьля належнае працы ўступілі ў колгас. За два дні, пасьля артыкулу т. Сталіна, яны абагулілі асноўныя сродкі вытворчасьці (насеньне, коняй і інвэнтар). Колгасьнікі параўнальна за кароткі час ачысьцілі ўсё насеньне, набылі с.-г. машыны, 180 пудоў штучнага ўгнаеньня; яны ў поўнай гатоўнасьці сустрэлі вясновую сяўбу. Ї гэта там, дзе беднаты „няма“, ужо пачалася сяўба, якая выклікала прыліў у колгасы новыя дзесяткі беднякоў і серадиякоў.

## Перагібы ўсё яшчэ працягваюцца

Было-б, аднак, не адпаведным рэчаіснасьці сьцьвярджаць тое, што і цяпер усе нашы зьвеньні партыі зразумелі політычны зьмест і важнасьць тае ролі, якую ў радзе мест адыгралі батрацка-бядняцкія масы, організаваныя ў групы, у справе правядзеньня асноўных гаспадарчых і політычных мерапрыемстваў партыі і савецкай улады на вёсцы.

Здавалася-б, што прайшоў пэрыод грубых парушэньняў лініі партыі ў колгасным будаўніцтве. „Головокружение от успехов“ таксама

засталося пазадзе. Наступіў пералом, які патрабуе гібкасьці і „уменьня перабудаваць сваю работу на хаду, прызнаць і па-бальшавіцку выправіць памылкі, умець організаваць масы і, нарэшце, сумесна з масамі (не забягаючы і не адставаючы) рухацца наперад“ (Сталін).

Што-ж робіцца на мясцох па выкананьні важнейшых дырэктыў партыі? Як райком і сельскія ячэйкі разумеюць гэтае пытаньне?

У асобных вёсках (Кіціна) Парыцкага раёну, Бабруйскае акругі, дзе нядаўна прыходзілася быць, перагібы ўсё яшчэ цягнуцца. У гэтай вёсцы ня ўступіўшым у колгас беднаце і сераднякам зямля адведзена за 4—5 кілёмэтраў ад вёскі, колгасьнікі аборваюць хаты сялян, якія ня ўступілі ў колгас і інш. У колгасе-ж, у сваю чаргу, організацыя батрацка-бядняцкіх мас ігноруецца. Паўгалодныя батракі і беднякі выходзяць на працу ў той час, як „камуністыя“ Бандарэнка і інш. (заможнікі) забіраюць прадукты, што атрыманы для беднаты, у сваю карысьць, праводзяць ураўнілаўку ў калгасе. Тут агіднае скажэньне партыйнае лініі ў адносінах апоры на батрацка-бядняцкія масы больш чым ігноруецца, скажаецца і клясавая лінія. Колгас „Кіціна“ напярэдадні развалу. Ці толькі гэта правая практыка? Не. Гэта яўна контр-рэволюцыйная дзейнасьць кулакоў з партбілетамі ў кішэнях. У вёсцы Кіціна ёсьць парт'ячэйка, якая ў баку ад усяго ганебнага, што там адбываецца цяпер на вачох Парыцкага райкому КП(б)Б.

Не абмяркоўвала і не займаецца пытаньнямі організацыяй груп у колгасах і Верхня-Албанская парт'ячэйка (Жлобінскі раён). Гэта прывяло да таго, што ўжо ў пачатку мая ў колгасе „Новае Жыцьцё“, пад уплывам нявыселеных кулакоў, вышла 28 гаспадарак, палова якіх батракі, якія на маюць свае маемасьці. Парт'ячэйкі скардзяцца, што райкомы ім не дапамагаюць, што яны „перагружаны“ працай і інш. А райком?

Амаль што ў кожным раёне ў палове колгасаў груп ня існуе, гаспадарчае замацаваньне і разьвіцьцё часткі гэтых колгасаў можна ўзяць пад сумненьне. У Бабруйскім раёне, напрыклад, з 51 колгасу групы організаваны толькі ў 9 колгасах. Склад парторганізацыі — 259 чал.— 17 сельячэек КП(б)Б, якія, к сораму, нічога ня робяць для замацаваньня колгасу, не арганізавана работа, групы, якія ёсьць, не працуюць. Надзвычайна характэрна тое, што ў раёне *няма ніводнай колгаснай партячэйкі альбо кандыдацкае групы.* Ячэйкі працуюць па старынцы, чаму і росту іх за кошт колгасьнікаў—беднякоў і батракоў— няма.

— Мы праглядзелі ўсю партсетку ячэек,—заяўляе сакратар РК тав. Дзятлаў,—і не знайшлі колгасу, дзе-б можна было арганізаваць хаця-б партгрупу, бо маецца толькі 15 комуністых-колгасьнікаў.

Выходзіць, што маса вясковых комуністых, якія праводзілі колектывізацыю, яшчэ да гэтага часу самі ў колгас ня ўступілі.

Вось дзе правы апартунізм на практыцы.

У палове ячэек гэтага раёну існуе такая думка:

„Навошта-ж групы? Цяпер у колгасе ўсе роўныя (Цялушкаўская, Кавалеўская і інш. ячэйкі).

„У нас беднаты няма“—таксама заяўляе сакратар ячэйкі т. Блашкевіч. Праверылі: ці ёсьць бедната. Аказалася, што толькі ў вёсцы Кавалі каля 65 бядняцкіх гаспадарак, а па сельсавету больш 200 бядняцкіх гаспадарак.

На запытаньне, ці ёсьць у раёне хоць-бы адна батрацка-бядняцкая група ў колгасе, якая больш-менш працуе, — сакратар РК адказаў адмоўна, аднак дадаў, што „і ў большасьці сельсаветаў груп ня існуе“ бо... раён Бабруйскі мае свае „асаблівасьці“, з чым „трэба“ лічыцца (!?).

Ёсьць месцы, дзе цягнецца яшчэ галавацяпства, як пагроза высылкай, адвод лепшых зямель колгасам, парушэньне інтарэсаў ня ўступіўшых і г. д. „Левакі“ Кармянскага раёну (Куракаўскі с.-с., Магілеўшчына) языком старшыні колгасу „Куракаўшчына“ ня ўступіўшым у калгас беднякам і серадніякам пасёлку Стара-Зяньковічы, які ня ўступіў у колгас, заяўляе: „Жыць на месцы і ня думайце, бо ўсёроўна да восені высялім. Цяпер-жа вазіцца з вамі нам няма часу, трэба скончыць сеў.

У колгасе „Ніва“ (в. Дзерашчы, Лоеўскага р., Гомельскай акругі) ужо пры правядзеньні сяўбы, кулакі, якія ўступілі ў колгас, каб схавацца ад раскарчоўкі (раскулачваньня), справакавалі больш 40 бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак да выхаду з колгасу. Інтарэсы паасобных гаспадарак (іх каля 150) тут ня ўлічваюцца: зямля адведзена за 3—5 кілёмэтраў і горшая (адрэзкі, што засталіся ад колгасу, пяскі і балоты).

Ужо 5-га мая ўпаўнаважанаму вёскі Дзерашчы тав. Новікаву, які абраны для падачы скаргі ў акругу на галавацяпаў, у раёне прыгразілі:

— Паедзеш скардзіцца—у турме будзеш.

Раённае начальства абяцала выправіць памылкі.

— Бяз нас і цэнтр рабіць нічога ня стане, бо мясцовая ўлада цяпер—усё. І „ўладзілі“.

Прыехаўшы для выпраўленьня перагібаў, загадчык Райза на сходзе сялян заявіў:

— Вас мала—вы капля ў моры і лічыцца з вашымі „капрызамі“ ніхто ня стане.

Такіх фактаў у раёнах сустракаецца досыць многа. Памылкі і скажэньні партыйнай лініі ў колгасным будаўніцтве ня толькі не прызнаюцца, але ўпарта не выпраўляюцца і далей цягнуцца. Работа „левакоў“, якія ўзмацняюць правы опортунізм і яго атаку на генэральную лінію партыі, цесна пераплятаецца з правай практыкай, што выражаецца ў недаацэнцы ролі батрацка-бядняцкіх мас, ігнараваньня іх організацыі, у тэорыі стыхійнасьці і самацёку колектывізацыі.

### Работу батрацка-бядняцкіх груп узмацніць

Неабходна адзначыць, што, ня гледзячы на шэраг прарываў, якія зроблены пры правядзеньні колектывізацыі, з організацыяй батрацка-бядняцкіх мас і правільныя ўзаемаадносіны з серадняком, мы маем у выніку гэтага пасьпяховае вырашэньне асноўных задач партыі на вёсцы, а асабліва па колектывізацыі, і на базе яе ліквідацыі кулацтва як клясы. Організаванае батрацтва і бедната становяцца галоўнай рухавой сілай у замацаваньні і разьвіцьці колгасаў, даючы самы рашучы адпор імкненьням кулака разбурыць колгасы знутры.

Паказальным яшчэ зьяўляецца і тое, што ў выніку організаванасьці батрацка-бядняцкіх мас мы маем вялікі ўздым іх актыўнасьці і цягу ў шэрагі комуністычнае партыі. Сотні перадавых батракоў і беднякоў колгасьнікаў пачалі падаваць заявы аб прыёме ў партыю. У колгасах організуюцца партыйныя ячэйкі і кандыдацкія групы КП(б)Б, якія абрастаюць моцным батрацка-бядняцкім і серадняцкім актывам. Для характарызаваньня падамо некалькі фактаў. Прыцёк заяў аб прыёме ў КП(б)Б у Сакараўскую ячэйку (Полаччына) настолькі павялічыўся, што Вольскаму райкому прышлося стварыць новую кандыдацкую групу, у якую вайшло 17 колгасьнікаў—батракоў і беднякоў і шэраг заяў яшчэ не разгледжаны. Організавана кандыдацкая група і ў Уголь-

чыцкім с.-с. (Бялыніцкі раён, Магілеўшчына), дзе яшчэ нядаўна кулак меў вялікі ўплыў на частку беднякоў і серадняякоў. У групу ўвайшло 9 колгасьнікаў-беднякоў, тры з якіх зьяўляюцца чырвонымі партызанамі і організатарамі колгасу. Аналёгічнае зьявішча і ў Тайманаўскім с.-с., Быхаўскага раёну, Магілеўскай акругі, дзе, дзякуючы вялікаму прыліву ў партыю (15 заяў, з іх 2 былых партызаны), організавана ячэйка КП(б)Б.

Характэрным зьяўляецца тут тое, што адна з толькі што прынятых у партыю бяднячка-колгасьніца Хрысьця Сухарукава, ня гледзячы на ўпорства мужа, першая абагуліла маемасьць і яе прыкладу пасьледвалі дзесяткі сялян. Організуюцца кандыдацкія групы і ячэйкі ў Грабаўскім колгасе (Мазыршчына), у колгасе імя „Дзяржынскага“ (Гомельшчына) і ў шэрагу іншых.

Усе паказаныя факты сьведчаць аб тым, што шэрагі вясковых партячэек, за апошні час растуць за кошт энтузыястых батракоў і беднякоў, якія яшчэ нядаўна былі пад уплывам кулацтва (рэч тут ідзе і аб самых глухіх кутках Беларусі), цяпер выхоўваюцца ў агні клясавага змаганьня, у змаганьні за новыя соцыялістычныя формы земляробства.

Зусім з іншым мы сустракаемся ў тых мясцох, дзе організацыя батрацка-бядняцкіх груп ігноруецца, альбо організаваныя групы лічацца на паперы, дзе яшчэ да гэтага часу мае месца антысерадняцкі зьмест „палітыка левых загібшчыкаў“ (Сталін), якія льлюць ваду на млын правага ўхілу, што прывяло іх фактычна да антыколгаснага будаўніцтва на вёсцы „да компромэнтацыі самой ідэі колектывізацыі“.

У адпаведнасьці з задачамі, высунутымі нашай партыяй, трэба з усёй рашучасьцю ўзяцца за ўзмацненьне работы па організацыі батрацтва і беднаты ў колгасах, адначасова праводзячы рашучую барацьбу супроць правых і „левых“ і ўсіх тых, хто ня здольны праводзіць генэральную лінію партыі.

# МАТАР'ЯЛЫ І ДАКУМАНТЫ

## Рэзалюцыя Бюро ЦК КП(б)Б

*(ад 17-IV 1930 г.)*

1. Правільная палітычная лінія ЦК УсеКП(б) у пытаньнях колгаснага будаўніцтва і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на падставе суцэльнай колектывізацыі была скажана шэрагам мясцовых партыйных організацый УсеКП(б) і ў тым ліку і ў КП(б)Б.

Бюро ЦК КП(б)Б прызнае бязумоўна своечасовай і правільнай ацэнку, дадзеную ў пастановах ЦК УсеКП(б) і артыкулах тав. Сталіна „Головокружение от успехов" и „Ответы товарищам колхозникам", тым палітычным памылкам і грубейшым скрыўленьням партыйнай лініі, якія меліся на мясцох.

2. Гэтыя скрыўленьні лініі партыі выразіліся, перш за ўсё, у небальшавіцкім падыходзе да серадняка. Замест растлумачальнай работы і пераканаўньня серадняка ў перавазе колгасаў перад адзінаасобнай гаспадаркай шляхам паказу гэтага на справе, — шэраг організацый прымяняў мэтоды прымусу і адміністраваньня. Асобныя члены партыі дайшлі пры гэтым да грубога насільля, іншы раз нават ужываючы ў адносінах нежадаючых увайсьці ў колгас арышты. Парушэньне дабраахвотнасьці колгаснага руху, якое стварыла пагрозу аслабленьня ці нават разрыву саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, знаходзілася і знаходзяцца ў поўнай супярэчнасьці з асноўнымі ўказаньнямі партыі. Гэтыя ўказаньні знаходзяцца ў пастановах лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б), у пастановах ЦК УсеКП(б) аб тэмпах колектывізацыі („Правда" ад 6 студзеня), а таксама ў пастановах студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б, які папярэдзіў мясцовыя партыйныя організацыі аб недапушчальнасьці адміністраваньня і гульні ў колектывізацыю і рашуча падкрэсьліваў, што колгасны рух можа будавацца толькі на падставе сапраўднай актыўнасьці батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

3. Памылкі і скажэньні, дапушчаныя асобнымі партыйнымі організацыямі пры ажыцьцяўленьні задачы ліквідацыі кулацтва, як клясы, знаходзіліся ў тым, што раскулачваньне ў шэрагу выпадкаў праводзілася не на падставе суцэльнай колектывізацыі і падчас закранала серадняка. Гэтыя памылкі і скажэньні ў справе раскулачваньня таксама знаходзяцца ў яўнай супярэчнасьці з дырэктывамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

4. Ня гледзячы на простыя і неаднаразовыя дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб узмацненьні работы з беднатой і батрацтвам, як асноўным падважнікам колгаснага будаўніцтва, ня гледзячы на тое, што ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б вызначаў недаацэнку важнасьці работы з беднатой і батрацтвам, як праявы правага опортунізму на практыцы, работа па організацыі батрацтва і беднаты вялася далёка недастаткова.

У выніку гэтага палітычная масавая работа ў галіне колгаснага будаўніцтва часам падмянялася адміністраваньнем.

5. Ня гледзячы на пастановы студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б, які паставіў задачай мясцовых партыйных організацый дамагчыся да вясны 1930 г. ахопу колектывізацыяй 35 проц. яравога кліну — шэраг партыйных організацый фактычна не кіраваліся гэтай пастановай ЦК КП(б)Б, а імкнуліся правесьці стопроцантную колектывізацыю да гэтага тэрміну. Гэткія тэндэнцыі падтрымоўваліся і падахвочваліся нават некаторымі акруговымі камітэтамі партыі (Мазыр, Магілеў, Віцебск).

Форсіраваныя, нерэальныя тэмпы прыводзілі на справе да пагоні за колькасьцю ў ушчэрб якасьці, вялі да стварэньня папяровых колгасаў і спрыялі распаўсюджваньню і прымяненьню прымусовых мерапрыемстваў пры будаўніцтве колгасаў. У выніку дапушчаных памылак, перагібаў і скажэньняў партыйнай лініі, форсіраваных і нерэальных тэмпаў у колгасным будаўніцтве, пры недапушчальна слабай масавай рабоце сярод беднаты і невыкананьня простых дырэктыў партыі на мясцох па пытаньню работы сярод батрацтва і беднаты, пэўная частка колгасаў, што сьпехам стварыліся, пачала распадацца, а „частка сялянства, якая ўчора яшчэ ставілася да колгасаў з аграмадным давер'ем, пачала адварочвацца ад іх“.

6. Праводзячы правільную палітычную лінію ў колгасным будаўніцтве, ЦК КП(б)Б дапусьціў, аднак, асобныя памылкі, якія выразіліся ў наступным:

а) Бюро ЦК не дало сваечасовага, дастатковага рашучага адпору няправільным тэндэнцыям з боку некаторых мясцовых партыйных організацый закончыць суцэльную колектывізацыю бягучай вясной.

б) Рашэньне Бюро ЦК КП(б)Б ад 25 лютага 1930 г. аб мястэчках, якое дапусьціла забраньне (із'ятие) шэрагу прамысловых прадпрыемстваў у местачковых прадпрыемцаў, выходзіла з няправільнай устаноўкі. Гэтае рашэньне было сваечасова перагледжана і адменена наступнай пастановай Бюро ЦК ад 19 сакавіка 1930 г.

в) Студзеньскі пленум, даючы дырэктыву „разгарнуць шырокую кампанію па аграмаджваньні жывёлы і кармоў, як у організаваных колгасах, так і ў тых, якія будуць організоўвацца“, не ўказаў, што гутарка ідзе аб абагуленьні рабочай і таварна-прадукцыйнай часткі рагатай жывёлы.

г) Пастанова студзеньскага пленуму ЦК, якая гаворыць: „даручыць НКЗ і Колгасцэнтру тэрмінова распрацаваць статут сельска-гаспадарчай арцелі, у якім прадугледзець усе гэтыя моманты з тым, каб максымальна забясьпечыць пераход ад сельска-гаспадарчай арцелі да комуны...“ зьяўлялася несваечасовай, таму, што магла спрыяць узмацненьню, якія меліся на мясцох, тэндэнцый да несваечасовага, непадрыхтаванага пераходу ад арцелі да комуны.

7. Бюро ЦК КП(б)Б лічыць, што пастанова студзеньскага пленуму аб колектывізацыі да вясны 1930 г. ня менш 35 проц. яравога кліну не магла даць повада да няправільнай пастаноўкі пытаньня аб тэмпах колектывізацыі з боку шэрагу мясцовых парторганізацый. Аднак, гэтая пастанова ў той частцы, у якой яна ўстанаўлівае тэрмін поўнае колектывізацыі БССР да канца 1931 г. — не адпавядае пастановам ЦК УсеКП(б).

Выходзячы з гэтага, а таксама ўлічваючы пэрспэктывы разгортваньня колгаснага руху, Бюро ЦК пастанаўляе зьвярнуцца да пленуму з прапановай зьмяніць гэтую пастанову студзеньскага пленуму, паставіўшы задачай правядзеньне поўнай колектывізацыі БССР у дакладнай суадпаведнасьці з рашэньнямі ЦК УсеКП(б) на працягу пяцігодкі.

8. Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што нашым партыйна-савецкім друкам у пытаньнях колгаснага будаўніцтва былі дапушчаны асобныя памылкі, якія скажаюць лінію партыі ў пытаньнях колектывізацыі. У прыватнасьці „Зьвязда“, як орган ЦК КП(б)Б, як вядучая газэта, пры правільнай у асноўным лініі дапусьціла асобныя няправільныя ўстаноўкі (форсіраваньне тэмпаў колектывізацыі без дастатковага ўліку якасьці работы, высоўваньне лёзунгу „раскулачваньне — асноўны сродак посьпеху суцэльнае колектывізацыі“).

9. ЦК КП(б)Б рашуча стаў на шлях безадкладнага выпраўленьня памылак і скажэньняў у колгасным будаўніцтве, што з усёй сілаю было пастаўлена ў рашэньнях сакавіковага пленуму ЦК КП(б)Б.

Лічучы рашэньне ЦК УсеКП(б) і ўказаньні, якія знаходзяцца ў артыкулах т. Сталіна, адзіна правільнымі і якія адкрываюць шлях да сапраўды трывалага будаўніцтва колгасаў, тым самым да соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі, ЦК КП(б)Б на сакавіковым пленуме даў рашучы адпор спробам з боку некаторых мясцовых партыйных організацый (Шклоў і інш.) супраціўляцца выпраўленьню перагібаў і скажэньняў лініі партыі.

10. Бюро ЦК КП(б)Б, канстатуючы, што мясцовыя партыйныя організацыі ў асноўнай масе ўжо выпраўляюць дапушчаныя скрыўленьні і памылкі, заклікае яшчэ мацней і больш рашуча павесьці барацьбу за безадкладнае іх выпраўленьне. Хуткае і бальшавіцкае прызнаньне і выпраўленьне памылак патрабуюць узмацненьня бальшавіцкай самакрытыкі, разгортваючы якую ўсе організацыі КП(б)Б будуць выхоўваць свае шэрагі, будуць бальшавіцкімі тэмпамі рухацца ўперад.

11. Партыя і ЦК дадуць рашучы адпор тым права-опортуністычным і „лева“-опортуністычным элемэнтам, якія імкнуцца і будуць імкнуцца выступаць супроць гэнэральнай лініі партыі, супроць ленінскага ЦК УсеКП(б). Усякім антыпартыйным спробам, накіраваным да дыскрэдытацыі кіраўніцтва партыі, КП(б)Б дасьць зруйнавальны бальшавіцкі адпор.

У адносінах усіх, хто супраціўляецца выпраўленьню памылак і перагібаў, усіх, хто затрымлівае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі, парторганізацыі павінны прымаць рашучыя меры, аж да выключэньня з партыі, згодна рашэньня красавіковага пленуму ЦК КП(б)Б.

Спробы тлумачыць адліў з колгасаў толькі тым, што серадняку ўласьцівы хістаньні, вядуць да затушоўваньня значэньня перагібаў і памылак і пагэтаму ўсе гэтыя спробы павінны знайсьці самы рашучы адпор у шэрагах організацый КП(б)Б.

12. Галоўнай небясьпекай на даным этапе працягвае заставацца правая небясьпека. Партыя павінна мобілізаваць усе свае сілы на барацьбу з спробамі права-опортуністычных элемэнтаў узьняць галаву, скарыстаць скрыўленьні партыйнай лініі для барацьбы з гэнэральнай лініяй партыі, пад выглядам выабражальнай (мнимой) барацьбы з „левымі“ загібамі.

Партыя будзе біць з усёй бальшавіцкай непрымірнасьцю па ўсякіх панічных крыках і правых тэорыях аб „самацёчным“ разьвіцьці колгаснага руху. З асаблівай рэзкасьцю і рашучасьцю неабходна павесьці барацьбу супроць спроб опортуністычных элемэнтаў прадстаўляць нашу барацьбу з перагібамі, як адступленьне ад праводзімай партыяй політыкі соцыялістычнай перабудовы вёскі.

Даючы адпор на два франты — правым опортуністым, „левым“ перагібшчыкам і прымірэнчым адносінам да іх, КП(б)Б будзе ў першых шэрагах рашучай барацьбы за гэнэральную лінію партыі, за ленінскую політыку ЦК УсеКП(б).

# Рэзалюцыя ЦК КПП аб працы КПЗБ*).

Заслухаўшы даклад ЦК КПЗБ аб працы за пэрыяд пасьля III пленуму ЦК КПЗБ, ЦК КПП канстатуе:

1. За справаздачны пэрыяд ва ўмовах узмоцненай падрыхтоўкі вайны, росту гаспадарчага і палітычнага крызісу фашызма і абвостранага фашыстоўскага тэрару КПЗБ пад кіраўніцтвам свайго ЦК праводзіць курс на зьмену арганізацыйных мэтадаў працы партыі, дапасоўваючыся да новых варункаў, правяла значную працу па ўзмацненьні канспірацыі і дысцыпліны ў яе шэрагах, аднаўленьні разьбітых гарадзкіх і вясковых арганізацый, узмацненьню непасрэднага кіраўніцтва з боку ЦК акруговымі камітэтамі і ЦК КСМ ЗБ і ўзмацненьню сувязі з мясцовымі арганізацыямі.

Партыя надала сур'ёзную ўвагу ажыцьцяўленьню асноўнай задачы, пастаўленай перад ёю III пленумам ЦК КПЗБ—узмацненьню працы на буйных прадпрыемствах, арганізацыйнаму замацаваньню ўплыву партыі і пашырэньню масавай працы. Адзначаючы значныя высілкі партыі ў гэтым напрамку (стварэньне ячэйкі чыгуначнікаў і на серніковай фабрыцы), ЦК канстатуе ўсё яшчэ нязначнасьць рэальных дасягненьняў у гэтай галіне, якія абмяжоўваюцца толькі першымі крокамі, і падкрэслівае неабходнасьць далейшых захадаў усей партыі для рашаючага пералому і ўсьведамленьня ўсімі партарганізацыямі ажыцьцяўленьня гэтай важнейшай для КПЗБ задачы.

3. Партыя правяла шэраг палітычных кампаніяў (гадавіна Кастрычнікавай рэволюцыі, лістападаўскія палітычныя кампаніі, кампанія „3-х Л“, кампанія ў сувязі са зваротам рабоча-сялянскай дэлегацыі з СССР), змагла ўцягнуць шырокія масы пралетарыяту і працоўнага сялянства ў гэтыя кампаніі, што знайшло свой адбітак у шэрагу масовак, мітынгаў і дэмонстрацыяў. У ходзе гэтых кампаній партыя шырока папулярызавала дасягненьні СССР, адбівала хлусьлівыя напады фашызму, сацыял-і нацыянал-фашызму на пралетарскую бацькаўшчыну, мабілізавала масы супроць падрыхтоўкі сусьветным і польскім імпэрыялізмам вайны супроць СССР, растлумачвала масам значэньне масавай палітычнай стачкі, неабходнасьць узбройнага паўстаньня дзеля зваленьня фашыстоўскай дыктатуры.

4. Мінулы пэрыяд на ЗБ характарызаваўся шэрагам забастовачных выступленьняў пралетарыяту, сялянска-гаспадарчых і тартачных рабочых. Адзначаючы пэўны зрух у справе ўзмацненьня кіраўніцтва з боку КПЗБ стачачнай барацьбой рабочае клясы, ЦК КПП падкрэсьлі-

---

*) У папярэдніх нумарох „Бальшавіка Беларусі“ былі зьмешчаны пастановы III пленума ЦК КПЗБ. Аб выкананьні гэтых пастаноў і новых момантах у сытуацыі ў Польшчы і Зах. Беларусі, а таксама аб росьце кіруючай ролі партыі ў барацьбе пралетарыята і асноўных мас сялянства Зах. Беларусі, паведамляе рэзалюцыя ЦК КПП па справаздачы ЦК КПЗБ аб працы КПЗБ—Рэд.

вае ўсё яшчэ невыстарчальную ініцыятыўнасьць мясцовых арганізацый у падрыхтоўцы і кіраўніцтве гэтай барацьбой. Усё яшчэ ня рэдкі выпадкі, калі выбухнуўшыя стыхійна стачкі праходзяць без усякага кіраўніцтва з боку нашай партыі, калі партыя не змагла пашырыць фронт гэтай барацьбы ўзьняць яе на вышэйшую ступень, надаць ёй характар палітычнай барацьбы з фашыстоўскай дыктатурай; усё яшчэ нярэдкі выпадкі ілюзіяў адносна да сацыял-фашыстаў, асабліва-ж да Бунда, ілюзіі, якія прасякаюць нават у некаторыя ворганы мясцовага кіраўніцтва, невыстарчальная барацьба, а ў паасобных выпадках і поўная адсутнасьць яе супроць сацыял-фашыстаў, што палягчае ім зрываць забастовачную барацьбу рабочае класы. (Забаст. 1.200 гандлёвых служачых у Вільні, пекароў у Пінску і інш.). ЦК КПЗБ у вагуле сваечасова раскрытыкаваў гэтыя памылкі і даваў правільныя паказаньні ў кожным канкрэтным выпадку, падкрэсьліваючы неабходнасьць самастойнага кіраўніцтва стачачнай барацьбы і ўзмацненьне барацьбы з сацыял-фашызмам.

5. Выпрамляючы на практыцы лінію ў галіне прафруху ў духу рашэньняў VI пленуму ЦК КПП і III пленуму ЦК КПЗБ, партыя ўсё яшчэ не разгарнула ў належнай меры работы ў сацыял-фашыстоўскіх прафсаюзах; рэволюцыйныя прафсаюзы застаюцца, як і раней, ня масавымі арганізацыямі і часта праяўляюць слабую дзейнасьць, слаба сетка фабзаўкомаў упаўнаважаных ад паасобных цэхаў, камітэтаў беспрацоўных і іншых органаў барацьбы мас. Партыя павінна дабіцца рашучага пералому і ў гэтай галіне працы.

6. Кіруючы шырокім рухам беспрацоўных, партыя не змагла яшчэ ў поўнай меры ўвязаць гэты рух з барацьбой працуючых рабочых супроць драпежніцкай рацыяналізацыі, за палепшаньне быту, а таксама з барацьбой сялянскіх і батрацкіх мас, супроць голаду і прыгоннай эксплёатацыі. Партыя не падыйшла яшчэ ўшчыльную да задачы арганізацыйнага ахопу руху беспрацоўных.

7. У галіне кіраўніцтва барацьбой працоўных і эксплёатуемых мас сялянства ЦК КПЗБ паставіў як цэнтральную ў даны пэрыяд кампанію барацьбу супроць падатковага цяжару і шарварак, цесна ўвязваючы гэтую кампанію з барацьбой галадуючых і беспрацоўных мас гораду і вёскі, правільна ацэньваючы, што гэтая барацьба зьяўляецца ў сучасны пэрыяд тым асноўным зьвяном, якое падводзіць шырокія масы сялянскай беднаты і серадняцтва да непасрэднай барацьбы за зямлю бяз выкупу, да барацьбы пралетарыяту за ўладу, за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры. Мабілізуючы масы на барацьбу з фашыстоўскай дыктатурай пад лёзунгам: „ні граша фашыстоўскаму ураду— ураду беспрацоўя, голаду, тэрару і вайны",—ЦК КПЗБ правільна паставіў перад партыяй задачу арганізацыі адмаўленьня ад выкананьня шарварак, а ў мясцовасьцях, ахопленых голадам і бушаваньнем на грунце спагнаньня падаткаў і недаімак, арганізацыі адмаўленьня ад плацяжы падаткаў і арганізацыі масавай сялянскай самаабароны, а таксама арганізацыі ўсюды выступленьняў працоўных мас гораду і вёскі на падтрыманьне гэтай барацьбы.

8. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

9. Уплыў партыі сярод сельска-гаспадарчых рабочых, асабліва-ж іх арганізацыйны ахоп і кіраўніцтва іх барацьбой, надзвычайна слабыя. Партыя за мінулы пэрыяд праявіла сваё кіраўніцтва толькі ў забастоўцы 600 сельска-гаспадарчых рабочых у Кобрынскім раёне, але і тут партыя не змагла пашырыць гэтую забастоўку на суседнія раёны, уцягнуць у яе больш значныя масы сельска-гаспадарчага пралетарыяту і арганізаваць падтрыманьне з боку гарадзкога пралетарыяту.

ЦК КПЗБ своячасова высунуў, як важнейшую задачу на бліжэйшы час, арганізацыю ў вясну бягучага году забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых і ўцягненьне ў гэтую забастоўку сэзонных рабочых і масу сялянскай беднаты. ЦК КПЗБ павінен ужо зараз распрацаваць канкрэтны плян гэтай кампаніі, усіліць працу па ўзмацненьню су:я з батракамі, арганізацыі батрацкіх камітэтаў і камітэтаў сэзонных рабочых, уцягненьню батракоў у партыю і інш. Для пасьпяховасьці кампаніі трэба грунтоўна вывучыць становішча сельска-гаспадарчых рабочых, іх патрэбы і дамаганьні і шырока разгарнуць кампанію ў легальным і нелегальным друку.

10. У галіне кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчай барацьбой—КПЗБ правяла шырокую кампанію па дэмаскаваньню сутнасьці беларускага нацыянал-фашызму на чале з Луцкевічам у ЗБ і нацыянал-дэмакратызму ў БССР, іх узаемнай сувязі і прычын іх актывізацыі на грунце абвастрэньня клясавай барацьбы ў выніку посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, паглыбленьня дыфэрэнцыяцыі на вёсцы ЗБ, абвастрэньня крызысу фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы і ўсё больш растучай пагрозы вайны супроць СССР. КПЗБ дала рашучы адпор ілжывай кампаніі беларускага нацыянал-фашызму і мабілізавала масы на барацьбу супроць яго, у выніку чаго стараньні групы Луцкевіча прасякнуць у шырокія масы пад прыкрыцьцём радыкальнай фразы ня мелі посьпеху.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

11. КПЗБ пад кіраўніцтвам свайго ЦК правяла шырокую ўнутрыпартыйную кампанію ў сувязі з рашэньнямі VI пленуму ЦК КПП і III пленуму ЦК КПЗБ, паставіла на прапрацоўку рашэньні гэтых пленумаў ва ўсіх партарганізацыях аж да ячэйкі, праводзячы рашучую барацьбу з апартуністычнымі канцэпцыямі правай групы Касташэвы, выкрываючы і ўвязваючы з гэтымі канцэпцыямі правыя памылкі, дапушчаныя ў практычнай працы (ілюзіі ў адносінах да соцыял-фашыстаў, адзіны фронт з імі, хвасьцізм, легалістычныя настроі, выступленьні супроць прапаганды лёзунгу ўзбройнага паўстаньня, кулацкія і антыбатрацкія настроі ў некаторых вясковых арганізацыях і інш.). Змагаючыся з праваю небясьпекаю ў даным пэрыядзе, КПЗБ таксама рашуча змагалася і супроць паасобных ультра-левых заскокаў і загібаў (сэктанцкія тэндэнцыі, няпрызнаньне, альбо недаацэнка штодзённай барацьбы, тэндэнцыі да перадчасных партызанскіх выступленьняў сярод некаторых вясковых партарганізацыяў, элемэнты пераацэнкі сытуацыі ў артыкуле аб выніках III пленуму ЦК КПЗБ у „Бальшавіку“, магчымы ў сувязі з гэтым спрошчаны падыход да прапаганды лёзунгу ўзбройнага паўстаньня).

У выніку гэтай барацьбы за правільную палітычную і арганізацыйную лінію ЦК КПЗБ, партыя дабілася рашучых посьпехаў у справе кансалідацыі сваіх шэрагаў на падставе лініі X пленуму ВККІ, VI пленуму ЦК КПП і III пленуму ЦК КПЗБ, згуртавала навокал абноўленага кіраўніцтва КПЗБ і КПП усіх сяброў партыі, ня гледзячы на прыналежнасьць іх да ранейшых груповак, ізалявала няпрымірымых і непапраўных паасобных адзіных прыхільнікаў групы Касташэвы.

12. ЦК КПП завастрае ўвагу КПЗБ на вялізную дыспрапорцыю паміж палітычным яе ўплывам і арганізацыйным ахопам, на вельмі вялікія слабасьці пралетарскага ядра партыі, асабліва-ж рабочых з буйных прадпрыемстваў, амаль што поўнае адсутнічаньне ячэек на прадпрыемствах, нязначным ахопе батракоў і тартачнікаў, нездавальняючым сацыяльным складзе вясковых арганізацый, асабліва вясковага партактыву, на слабасьці масавай працы на прадпрыемствах, сярод неарга-

нізаваных рабочых, у сацыял-фашыстоўскіх прафсаюзах, на невыстарчальным кіраўніцтве барацьбой беспрацоўных. На зьнішчэньне гэтых буйнейшых недахопаў павінны быць згуртаваны ўсе сілы партыі.

Патрэбна найбольш шчыльная ўвязка паміж рухам беспрацоўных, галадуючых і палубеспрацоўных як у горадзе, гэтак на вёсцы. Кампанія ў сувязі з беспрацоўем і голадам, які асабліва рэзка выступае на ЗБ, павінна стаць ударнай задачай КПЗБ.

ЦК КПП падкрэсьлівае неабходнасьць узьняцьця актыўнасьці ўсіх партарганізацый у галіне падрыхтоўкі і кіраўніцтва забастовачнымі баямі, асабліва забастовачнай барацьбой сельска-гаспадарчага пралетарыяту, без чаго немагчыма заваяваньне большасьці рабочае клясы.

Неабходна павялічыць актыўнасьць усіх партарганізацый, у справе падрыхтоўкі і арганізацыі *палітычных стачак, вываду мас на вуліцу, барацьба за вуліцу* і арганізацыі масавай рабоча-сялянскай *самаабароны* для аховы мітынгаў, дэманстрацый і іншых рэвалюцыйных выступленьняў рабочых і сялянскіх мас супроць нападу паліцыі, фашыстоўскіх і сацыял-фашыстоўскіх баявых дружын. Арганізацыя масавай самаабароны ў сучасны момант павінна стаць ударнай задачай партыі; асабліва важнай зьяўляецца арганізацыя самаабароны на фабрыках і заводах, базай чаго павінны стаць фабзаўкомы, камітэты беспрацоўных, упаўнаважаныя і масавы фабрычны-заводзкі актыў.

ЦК КПП падкрэсьлівае неабходнасьць працы ў арміі, сярод чыгуначнікаў і на фабрыках, што працуюць на вайну. Трэба таксама ўзмацніць працу сярод жанчын і моладзі, згодна дырэктыў VII пленуму ВККІМ. КПЗБ павінна ў бліжэйшы пэрыяд дабіцца рашаючага пералому на гэтых вучастках рэвалюцыйнага фронту.

ЦК КПП вітае пастаўленую ЦК КПЗБ перад партыяй задачу павялічэньня сваіх шэрагаў на працягу году на 50 проц., у тым ліку 25 проц. за кошт пралетарыяту буйных прадпрыемстваў і 30 проц. жанчын.

Толькі напруджваючы ўсе сілы на заваяваньне большасьці рабочае клясы, павялічваючы сваю актыўнасьць у кіраўніцтве штодзённай барацьбой рабочых і сялян, узмацняючы сваё кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам, партыя зможа ператварыць рэволюцыйны ўздым у пераможнае наступленьне на фашыстоўскую дыктатуру.

---

